СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «КРЫНІЦЫ»!



Гэтыя слайды прыслаў нам Пітэр Чынэры — прафесійны фотамастак з невялікага ўтульнага гарадочка Мэлдан, што ў Паўднёва-Усходняй Англіі, за 40 міляў ад Лондана. Працуе ў фотаагенцтве ў Лондане.

Член Каралеўскага фотаграфічнага таварыства. Яму 50 гадоў.

Пітэр Чынэры — адзін з заснавальнікаў часопіса фотамастакоў Вялікабрытаніі «Stock Shots».






№ 9 1991

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на беларускай
і рускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 12 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71,
36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР
па друку
Здадзена ў набор 25.06.91.
Падпісана да друку 26.08.91.
Фармат 60×90 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная.
Ум.-друк. арк. 5,5. Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,82. Тыраж 32 131 экз.
Зак. 363. Цана 65 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
«Беларускі Дом друку».
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79.

Афармленне нумара
Канстанціна ВАШЧАНКІ
і Валерыя РУЛЬКОВА

**ШАТЛАНДЫЯ.**

**Царква св. Марыі і від на рэчку. Мэлдан Эсэкс.**

**Баржа на рацэ Блэкуотэр.**

**Парусьнік на рацэ Блэкуотэр у Мэлдане.**



## ГУМАР

Мікалай ЧАРКАСАЎ


















# Такія вось бацькі

Дзень добры, «Крыніца»!

Жыву я ў досыць вялікай вёсцы, дзе жыве і мая сяброўка Яўгенія, пра якую я хачу расказаць табе. Ей пятнаццаць гадоў, вучыцца ў 9-ым класе. Ты, вядома, не паверыш, але з яе бацькі здзекуюцца. Ты напэўна ведаеш, як цяжка жыць у вёсцы.

Але я не хачу яе шкадаваць або наадварот — хваліць. Я не ведаю, як гэта можна назваць. «Укалвае» яна, як вол. Выконвае ўсю хатнюю працу, а яшчэ плюс школа і экзамены на днях, а яшчэ ўзрост, калі цяжка ўседзець дома. Коратка апішу яе расклад дня.

Пад'ём у 5.30. Корміць худобу, гатуе сняданак, збіраецца ў школу, дзе трэба быць у 9 гадзін, а да школы 3 км. У школе ўрокі заканчваюцца ў 14.30, дамоў — пешкі. Прыйшоўшы дамоў, не паспявае пераадзецца, каб згатаваць бацьку і малодшаму брату вячэру, і зноў — гаспадарка. Калі ўсё зробіць, прыходзіць з працы маці, яна заўсёды ўсім незадаволеная і пачынае крычаць і лаяцца, ужываючы пры гэтым такія словы, што пасля іх Яўгеніі і жыць не хочацца. Я не магу зразумець, чаму так бывае? Ва ўсіх бацькі як бацькі, а ў яе — «звярынец»...

Ніколі Яўгенія не ходзіць у кіно, а калі сходзіць, дык папракаюць. Скажуць прыйсці дамоў у 19.30, а прыйдзе ў 19.35, яе караюць на тыдзень, каб нікуды не выйшла, каб ніхто не прыходзіў. А бывае, нават і паб'юць.

«Крыніца», калі ласка, дапамажы! Дай параду! Што рабіць у такой сітуацыі?

Усе мае сябры кажуць, што Яўгенія замкнёная і дзікая, пастаянна сядзіць у хаце. Але яны, мае сябры, моцна памыляюцца, гэта ж не так, усё залежыць не ад яе, а ад бацькоў, яны ж старэйшыя за нас, мы нават не можам рот раскрыць, каб пастаяць за сябе.

На гэтым я заканчваю свой ліст, але гэта хутчэй крык аб дапамозе. Я не думаю, што гэты ліст апублікуюць, проста хачу атрымаць параду. Так жыць немагчыма.

Людміла, Мінская вобл.

# Ох, дзявоцкасць!

Таварышы, дайце параду, а то гэта можа дрэнна скончыцца. Мяне хвалюе пытанне: ці трэба захоўваць вернасць свайму будучаму мужу. Многія хлопцы і дзяўчаты кажуць, што дзявоцкасць цяпер ніякай ролі не іграе. У мяне быў адзін сябра, потым другі, трэці — і з усімі прыйшлося разысціся, бо яны ўсе хацелі аднаго, але я не згаджалася, і вось вынік: я адна. Мяне з-за гэтага, можа, лічаць адсталай, хоць я такая, як усе, нічым мяне Бог не пакрыўдзіў, і адзяваюся модна. Мне 16 гадоў, а ў мяне няма нармальнага пацана. Няўжо цяпер усе пацаны — сексуальныя маньякі? Хлопцы, дзяўчаты, якія ведаюць толк у гэтых пытаннях, напішыце мне. Мне ўжо надакучыла сварыцца з сябрамі з-за гэтага. Адрас пакідаю ў рэдакцыі.

Таццяна, г. Бабруйск

# Дзе ты, шчасце маё?

Прыйшла з дыскатэкі і вырашыла вам напісаць. Напрамілы Бог, не прымце гэта за вар'яцтва ці нешта падобнае. Зразумейце, гэта крык адчаю. З чаго б пачаць? Пачну з таго, што ў школе была стараннай, сціплай вучаніцай. У 10-м класе ўпершыню пайшла на танцы. Пазнаёмілася з хлопцам, вясёлым, кантактным, які і сам не ўтойваў, што мае сякі-такі вопыт у знаёмствах з дзяўчатамі. Але я бачыла, што ён закаханы ў мяне, і мне было прыемна, што ён выбраў менавіта мяне. Ён вучыўся ў ваенным вучылішчы, я чакала яго, чакала, адмаўлялася ад новых знаёмстваў. Хацелася чыстага, вялікага кахання. Потым было вяселле, нараджэнне сына. Сямейнае жыццё ішло сабе паціху, але аднойчы здарыўся страшны сон, які, на жаль, быў явай. Я не змагла дараваць падману і здрады, дараваць, урэшце, нібыта можна, але душа ўжо атручана. Цяпер мне 24 гады, стройная, сімпатычная, многія мне нават зайздросцяць: у 24 гады больш як 20 не дасі. Але мне гэта не ў радасць.

Я знаёмлюся з маладымі людзьмі, якія ходзяць за мною, прызначаюць мне спатканні, але як толькі я кажу пра тое, хто мяне чакае дома, дык атрымліваецца: альбо ён мяне больш не ведае, альбо яму хочацца большага, а мне, даруйце, ямай памыйнай быць не хочацца. Ім жа гэтага не зразумець, у адказ я чую: «Ты ж замужам была!» Мне гэта настолькі абрыдла, што ўжо не хочацца нічога-нічога, агортвае страх вечнай адзіноты. Сёння, прыйшоўшы з дыскатэкі, я не вытрымала... Паверце, каб не словы сыночка, якія я чую, калі мне вельмі кепска: «Мама, не плач, я з табою»,— дык я не ведаю, што са мною было б і ці жыла б. Я пастаянна думаю: чаму? Чаму добрыя хлопцы жэняцца з легкадумнымі дзяўчатамі, якія пазбаўляюцца ад сваіх ненароджаных яшчэ дзяцей, якія замінаюць ім выйсці без перашкодаў замуж? І няўжо дзіця можа быць перашкодаю шчасцю? Ці, можа, мне і такім, як я, і шчасце не палажана, скончыўся ліміт? Ці, можа, нешта яшчэ?..

Вельмі хачу пачуць на гэты конт думкі «цудоўнага» полу. Мне сказаў адзін знаёмы: «Ты праляцела». Можа, праўда, праляцела я над сваім шчасцем, абышло яно мяне бокам?

Выбачайце за сумбурны ліст.

Святлана, г. Орша

# Дык ёсць каханне ці не?

Хочацца хоць некаму ўсё набалелае выказаць. Не, я не збіраюся плакацца вам у камізэльку, што мяне кінуў хлопчык, і калі вы мне не дапаможаце, дык я павешуся. Не, збаў Божа! Я зусім нармальная, звычайная 16-гадовая дзяўчынка. Не буду наракаць на знешнасць — мянушка Фарыда (усё астатняе без каментарыяў). Не, я зусім не задзіраю ад гэтага нос, з любым пагавару і, калі змагу, дык дапамагу. Вучуся добра, адзіная «харашыстка» ў школе сярод 10-ых і 11-ых класаў. Ёсць маці, бацька — увогуле, усё, як у людзей. Вы спытаецеся: дык што ж ты, крошка, ныеш? У іншых няма ні бацькоў, ні твару, ні хлопца, а ў цябе ўсё гэта ў 16 гадоў! Дык у чым жа бяда?

А ў прынцыпе ні ў чым! З 5 гадоў пачала сябраваць з хлопчыкамі на пару гадоў старэйшымі за мяне. Усе мяне любілі, але я, вядома, вылучала сярод іх аднаго. З ім мы больш гулялі ў «дачку-маці» або ганялі на веласіпедзе. Паступова я расла, але натоўп хлапчукоў вакол мяне зусім не знікаў, а наадварот... З боку гэта было смешна: маленькая, з хвосцікамі і бантамі, большымі за галаву, у кароткай школьнай сукеначцы, васьмігадовая дзяўчынка ідзе побач з хеўраю хлапчукоў, якія дзеляць яе няшчасны ранец. Маці не дазваляла: ды як гэта, у класе два лагеры, варагуюць, а са мною сябруюць усе, ды яшчэ на вечарах з кішэняў вывальваюцца дзіцячыя любоўныя запіскі. Але я не хацела страчваць сяброў: якая розніца, хлопчык ці дзяўчынка? Праходзілі гады, аднакласніцы ад кахання гублялі галовы, але не ўсе былі шчаслівыя. Каля мяне так і кружлялі пацаны, але я не ўмела кахаць. І вось у 14 гадоў неяк у школе я абалдзела. Зусім побач са мною стаяў прыгожы хлопец. Не ведаю, чаму я раней яго не заўважала?! На начах я рыдала, а ў школе ўсміхалася, як магла, але... Так, ён не падыходзіў, толькі таксама ўсміхаўся. Доўга не магла яго забыць, але найлепшы доктар — час. Яшчэ шмат і шмат разоў былі такія няўдачы.

А вось у каго папрасіць парады? У бацькоў? Бяды не абярэшся! «Трэба вучыцца, дарогу прабіваць, якія ў ваш час цяжкасці? Вось у наш час!..» Напрамілы Бог, я згодная пайсці на завод працаваць, але дарагая матуля абавязкова ў БПІ рыхтуе, ну, у горшым выпадку — БДУ. Ды і ў дом вадзіць, знаёміць з бацькамі можна толькі тых, хто вучыцца ў інстытуце, і іхнія татуля з мамаю павінны займаць не апошняе месца ў грамадстве! Ну, ёсць у мяне такія, ну і што? Не хачу, занадта ўжо яны правільныя, а праўда ж іхняя напускная! Наконт кахання з іхняга боку — не ведаю, хоць званкі чую цэлымі днямі, ну не цягне мяне да такіх. А не дай Бог, зблытаюся з кім-небудзь, хто перад арміяй вырашыў хоць трохі зарабіць, ды яшчэ малодшыя браточкі з сястрычкамі, ды тата-шафёр, а мама — прыбіральшчыца!.. Гэта ж кашмар!.. Можа быць. Я шмат усяго бачыла, гуляла з рознымі: з металістамі, з рокерамі, з панкамі, з люберамі, з хіпі і г. д. Яны ўсе розныя і ўсе аднолькавыя, але аднолькавыя толькі ў адным: усе яны вельмі жорсткія і злыя на жыццё.

Як я зразумела, замуж прыйдзецца ісці за хлопчыка з філармоніі, які грае на кларнеце або на скрыпцы, ці ўжо на флейце.

Але адкажыце, напрамілы Бог, ці ёсць каханне? Хоць правільна пісаць Каханне (з вялікай літары) і ніяк інакш.

Дзяўчынкі, пацаны, адкажыце! Бо праз 2—3 гады трэба ісці замуж.

Алена С., 16 гадоў, г. Мінск

ужо цалаваліся. Затым, уступіўшы ягонаму націску, яна дазволіла яму застацца з ёю. Яшчэ праз нейкі час ён вярнуўся ў свой пакой.

Уранку ён паслаў служанку запытацца, ці мае госця ў чым-небудзь патрэбу, і служанка вярнулася з адказам, што панна не хоча пакуль уставаць, бо амаль не спала ўначы. Гаспадар прагуляўся, а вярнуўшыся дамоў, сам падняўся да госці ў спальню. Ён рассунуў фіранкі на акне і загаварыў з ёю, але, не пачуўшы адказу, узяў яе за руку — малады чалавек жахнуўся — халодную як лёд. Жанчына была мёртвая. Гаспадар паслаў слугу па суддзю і дактароў. Калі тыя прыехалі і агледзелі цела, то аднадушна заявілі, што гэта цела маладой жанчыны, якая нядаўна павесілася, і выказалі меркаванне, што д'ябал ці спакутаваная душа самой маладой жанчыны ўсялілася ў гэтае цела дзеля задавальнення грэшных жаданняў. Як толькі былі сказаны гэтыя словы, з ложка паднялося вялікае, густое воблака дыму, якое ненадоўга павісла ў паветры і затым паступова знікла, а разам з ім знікла цела нябожчыцы.

# Вампір з Кроглін-Хола

Кроглін-Хол, дзіўны, адзінокі двухпавярховы будынак у графстве Камбэрлэнд, на працягу стагоддзяў належаў сям'і Фішэраў. У 1874 годзе ён быў прададзены містэру Эдварду Крэнсвэлу, аўстралійцу, які пасяліўся тут з братам Майклам і сястрою Амеліяй.

Маладыя людзі былі ў захапленні ад набытку, нягледзячы на поўную адрэзанасць дома ад свету. Так працягвалася да лета 1875 года.

Вокны ў доме былі толькі на першым паверсе. Эдвард Крэнсвэл, адразу ж, як толькі пасяліўся тут, загадаў слугам, каб кожнае начы вокны шчыльна зачыняліся. Невядома, хто там можа бадзяцца ўначы ў гэтай глухмені.

Амеліі не спалася. Седзячы ў ложку, яна глядзела на невялікі луг перад домам, заліты святлом месяца. Луг апаясвалі дрэвы, за якімі знаходзіліся царкоўныя могілкі. Амелія была зачаравана нерухомай прыгажосцю краявіду. Раптам дзяўчына ўбачыла, што па лузе скача нейкая дзіўная, падобная на шкілет постаць. І накіроўвалася яна да акна! Дзяўчына нават не паспела выскачыць з ложка. Жахліва гідкі твар утаропіўся ў яе. Пачвара спрабавала адчыніць акно.

Дзяўчына з жудасным крыкам кінулася да дзвярэй, якія, у адпаведнасці з устаноўленымі братам правіламі, уначы былі заўсёды зачыненыя. Апанаваная страхам, яна нават не саўладала з ключом, і той упаў на падлогу. Знайсці яго ў цемрадзі дзяўчына ў такім стане не магла. Яна ўсё крычала і крычала і неўзабаве пачула, як браты загрукаталі кулакамі ў дзверы.

Але пачвара была спрытнейшая. Пад яе націскам з акна выпала ромбападобнае шкельца, у адтуліну прасунулася доўгая кашчавая рука, якая адсунула засаўку. Акно расчынілася, і пачвара ўлезла ў спальню.

Калі нарэшце браты ўзламалі дзверы, то ўбачылі, што Амелія, непрытомная, ляжыць на падлозе. З жудасных ран на горле, твары і плячах лілася кроў.

Зірнуўшы ў акно, Майкл убачыў, што нехта пералазіць цераз агароджу царкоўных могілак. Майкл выскачыў на двор, але істота знікла. Калі прыбыў доктар і, змыўшы кроў з ран, паглядзеў на дзяўчыну, то адразу ж усклікнуў: «Божа літасцівы! Гэта ўкусы!»

Спачатку вырашылі, што на дзяўчыну напаў сабака, аднак Амелія і Майкл настойвалі на тым, што істота была падобная да чалавека. Затым на суседніх фермах пачалі здарацца падобныя гісторыі. Адна маленькая дзяўчынка была знявечана на ўсё жыццё, а некальким жанчынам удалося ўчас паклікаць людзей на дапамогу, і пачвара знікла. Людзі меркавалі, што гэта быў нейкі вар'ят ці сексуальны маньяк.

Амелія не памерла, але яна вельмі доўга лячылася ў Швейцарыі, перш чым змагла вярнуцца ў Кроглін-Хол. Браты былі супраць, аднак Амелія настояла на сваім вяртанні.

Гэтым разам усе трое падрыхтаваліся да паўтарэння таго страшнага выпадку. Браты спалі цераз калідор ад Амеліі, і ўсе дзверы былі незачыненыя.

І зноў аднойчы ўначы іх разбудзілі крыкі, але на гэты раз браты дзейнічалі хутка. Майкл кінуўся да сястры, а Эдвард выскачыў на двор цераз уваходныя дзверы і пабег за істотаю. Даганяючы яе, ён стрэліў, пачвара нібыта спатыкнулася на імгненне, затым усё ж такі перабралася цераз агароджу і, хістаючыся і пятляючы між магіламі, знікла ў склепе Фішэраў.

Назаўтра браты і чацвёра людзей з наваколля агледзелі склеп. Усё ў ім нагадвала поле бітвы. Труны ўскрытыя, астанкі нябожчыкаў раскіданы па падлозе. І толькі ў адной труне ляжала зверападобная пачвара з ранаю ў назе.

Браты вырашылі спаліць жудасны труп. І больш ніхто ніколі не чуў пра вампіра з Кроглін-Хола.

# Уражанні «нябожчыкаў»*

**ГІСТОРЫІ, РАСКАЗАНЫЯ ТЫМІ, ХТО ВЯРНУЎСЯ З АБДЫМКАЎ СМЕРЦІ.**

Дзіўны, аднак вельмі вядомы феномен уяўляюць сабою уражанні цяжка хворых, а ў некаторых выпадках і тых, хто здаецца відавочна мёртвым, якія яны прыносяць з сабою назад з несвядомасці. Расказанае імі выходзіць далёка з межаў звычайнага сну. Запісана багата расказаў дактароў і медсясцёр пра словы пяшчоты, здзіўлення і захаплення, пачутыя імі ад такіх людзей пасля клінічнае смерці. Сучасныя медыкі зазвычай лічаць такія расказы вынікам галюцынацый, але той, хто хоць раз прачытаў успаміны пра царства ценяў, наўрад ці зможа быць катэгарычным у адмаўленні іхняй праўдзівасці. Запісана шмат расказаў тых, хто смяротна хворым знаходзіўся ў коме, нечакана ачуньваў і распавядаў пра дзіўныя сустрэчы з памерлымі каханымі на мяжы жыцця і смерці. Выпадак, апісаны ніжэй, адна з тыповых.

Місіс Дыяна Паўэлсан, удава нябожчыка Томаса Паўэлсана, пастаянна пражывала за сем-восем міляў на паўднёвы захад ад Канзас-Сіці. У сорак адзін год яна мела дзевяць дзяцей. Яшчэ тры гады назад была надзіва бадзёрай жанчынаю. 1 жніўня 1876 года заўчасныя роды сталі прычынаю захворвання, якое прывяло яе да пагранічнага стану. Доктар Торн, кансультуючыся з доктарам Хэлі з Канзас-Сіці, дбайна абследаваў хворую.

Аднаго вечара, мяркуючы, што хворая пацыентка неўзабаве памрэ, доктар Торн застаўся з ёю. Сімптомамі блізкае смерці былі халодны, ліпкі пот па ўсім целе, закатванне вачэй, бяздзейнасць і слепата на працягу некалькіх дзён. А першай гадзіне ночы місіс Паўэлсан па ўсіх прыкметах памерла. Разрад электрычнага току, прапушчаны цераз аснову мозгу да ніжняе часткі пазваночніка, не ажывіў яе. Аднак, нягледзячы ні на што, жанчына праз нейкі час ажыла і ў прысутнасці доктара Торна расказала рэпарцёру наступнае:

«На працягу многіх гадоў я вызнавала хрысціянства. Не так даўно, у 1877 годзе, я далучылася да метадысцкай царквы. Я сапраўдная хрысціянка. Заява, якую я хачу зрабіць, мне самой яшчэ больш дзіўная, чым яна можа здацца вам.

Калі я памерла, я была шчаслівая: не адчувала ніякіх пакутаў, боль у галаве прайшоў, здавалася, я знепрытомнела, але працягвалася гэта нядоўга; калі я ачнулася, дык ведала, што я мёртвая, вакол мяне была суцэльная цемрадзь. Я думала, я ўсё яшчэ была сляпая. Мяне апанаваў жах. Неўзабаве, аднак, да мяне з'явіўся мой муж (які памёр незадоўга да гэтага). Потым я сустрэлася з іншымі нябожчыкамі — сябрамі і раднёю. Я ўбачыла таксама мільёны іншых



людзей. Убачыла горы і даліны, дрэвы і кветкі, рэкі, моры, азёры, убачыла птушак і пачула музыку, якую я не ў стане апісаць. Людзі былі самыя звычайныя. Некаторыя — прыгожыя, цудоўныя, іншыя — кволыя, вартыя жалю. Я ўбачыла іхніх дамы. Яны жылі абшчынамі. Усе іхнія дамы былі нашмат прыгажэйшыя за тыя, што маем мы, але не ўсе былі аднолькава прывабныя. Я ўбачыла многа светлых анёлаў, але я дужа здзівілася, у іх не было крылаў. З цёмнай мясціны адвялі мяне ў светлую. Я больш ніколі не праходзіла праз гэтую цёмную мясціну, нават вяртаючыся назад. Я ўбачыла шмат зборнаў людзей, аднак не зразумела, чым яны там займаліся. Муж сказаў мне, што я зноў павінна вярнуцца ў сваё цела. Я заплакала і дужа пакрыўдзілася на яго. Я і цяпер крыўджуся на яго за тое, што ён адаслаў мяне назад. Я хачу быць у гэтым цудоўным доме, пра які мне сказалі, што ён мой. Муж наказаў мне перагаварыць ад ягонага імя з дзецьмі.

Прасілі даць знаць аб іх блізкім і іншыя. Мяне палохалі некаторыя анёлы, хмурыя і непрывабныя. Іншыя ж былі прыгожыя і зычлівыя. Калі я была там, вакол мяне сабралася мноства народу. Я не ведала, што я павінна вярнуцца на зямлю да тае пары, пакуль муж не сказаў мне пра гэта. Яму было шэсцьдзесят сем, калі ён памёр, але там ён выглядаў так, нібыта перажываў свой росквіт. Побач з ім былі двое маіх дзяцей. Я была вельмі здзіўленая: я ведала ўсяго аднаго, другое дзіця нарадзілася мёртвае, у заўчасных родах у жніўні 1876 года, было відаць, што яно радуецца, што бачыць мяне. Я не магу вызначыць узрост, на які яно выглядала, іхні час адрозніваецца ад зямнога, але гэта было ўсё яшчэ маленькае дзіця. Я адчула да яго ўсю сілу матчынага кахання, якога, лічыла я, раней да яго не было. А другое маё дзіця, якое памерла ў адзін год,— цяпер ужо пятнаццацігадовы юнак, і ён мяне пазнаў.

Анёлы не спяваюць, як мы. Яны робяць гэта нашмат прыгажэй. Строі на іх шырокія, спадаюць шырокімі складкамі. Анёлы не голасам спяваюць. Без слоў я разумела іх нашмат лепш. Я чытала іхнія думкі — гэта больш дасканалая мова, чым наша. Яны сказалі мне вярнуцца на зямлю яшчэ на тры-чатыры гады, пабыць тут з маімі маленькімі дзецьмі. Я думала ўбачыць Хрыста, але мне не ўдалося. Мне сказалі, што гэта таму, што я знаходзілася ў цемрадзі. Мы такія там, як і тут. Мы самі ствараем сваё шчасце. Я не ўбачыла пекла ці рая, толькі жыццё, больш дасканалае і цудоўнае за нашае. А нашае зусім і не жыццё. Тое, пра што я цяпер расказваю, такая ж ява ў маёй свядомасці, як і ўсё, што я бачу ў гэтым жыцці.

Калі я памерла, то не страціла здольнасці ўсведамляць сваё атачэнне. Мне здавалася, я перайшла з аднаго жыцця ў другое. Я цяпер часта бачу духаў вакол сябе, але мы не можам размаўляць між сабою. Яны паказваюць мне кветкі, нашмат прыгажэйшыя за нашыя. Духі расказалі мне, што яны павінны раскаяцца ў сваіх грахах, перш чым падымуцца на новую ступень. Пакуль яны не зробяць гэтага, яны не будуць шчаслівыя. Я была вельмі здзіўленая, калі ўпершыню сустрэла там духа, якога я прыняла спачатку за Бога, а пазней за Ісуса Хрыста, але потым выявілася, што гэта ўсяго толькі светлы дух, які навучае іншых. Пасля я бачыла шмат падобных да іх, такое ўражанне, што яны там належаць да нейкага асобага тыпу. Усе яны занятыя спасціжэннем ведаў, і мудрасць іхняя ўвесь час павялічваецца...»

Расказ місіс Паўэлсан чулі многія сведкі.

*Працяг будзе.*

---

* Тым, хто цікавіцца гэтай тэмаю, рэкамендуем прачытаць кнігу Р. А. Мудзі «Жыццё пасля жыцця» (заўвага перакл.).

# РЭЗАНАНС У ЛЮСТРАНОЙ ЗАЛЕ

## І Я ТАКАЯ Ж

Прывітанне, «Крыніца»!

Прачытала 4-ы нумар за 1991 год і вырашыла напісаць ліст. Праўда, я асабліва не спадзяюся, што вы яго адразу надрукуеце.

На 34-й старонцы вашага часопіса быў надрукаваны ліст («Парайце!») маладога бацькі «дарослай» дачкі.

А пішу я таму, што я такая ж дзеўка, як і дачка гэтага татулі. Праўда, з'явілася я на свет, калі маці было 29, а не 18. Мама ў мяне нармальная, паводле слоў родных ды знаёмых — гэта золата, а не жанчына. А па-мойму, яна псіхічка (вядома, гэта я яе да такой ступені давяла). Ну, не разумее яна мяне!

І брацік у мяне — прыдурак. Адзін бацька мяне любіць па-сапраўднаму, хоць яго і лічаць псіхам (гэта і праўда так, я не жартую, яго маманя да псіхіятра вадзіла. Ах, забылася, у мяне ж яны ў развядзёнцы, але жывуць пакуль разам). І я яго люблю, а маці я не тое што каб не люблю, ну проста (хоць і нарадзіла яна мяне) не пераварваю. Брата я ненавіджу.

Пра мяне мае шнуркі (родзічы, значыцца) амаль нічагусенькі не ведаюць. Калі б мамаша мяне ўбачыла ў кампаніі, дык з ёй бы сардэчны прыступ здарыўся. З раднякоў мяне ніхто не любіць, а можа, я да сябе залішне шмат увагі патрабую, хто яго ведае.

Дык вось, пяройдзем да справы. У часопісе татуля піша: «...няхай параяць, што рабіць...»

Я, вядома, не бацька і не педагог, але вопыт маю, на сабе выпрабавала — і падзейнічала! Дык вось.

Адлупцаваць яе трэба як след, і ўсё на гэтым! А не падзейнічае, дык пад замок пасадзіце, пад хатні арышт. А ўвогуле, так: «На сваіх памылках вучацца». Вось гэта сапраўды правільна! Здарыцца з ёю гора, тады яна, можа, і адумаецца. У кожнага падлетка ёсць незакранутая частачка душы, у кожнага падлетка ёсць і станоўчыя якасці. Мяне, напрыклад, менты (міліцыя) бачаць толькі ў дрэнным святле. Але чаму?! Я жах як люблю Баха, люблю дэтэктывы, фантастыку. І прадмет у школе ў мяне любімы ёсць, і настаўнік ёсць любімы. Хаця, як усе нармальныя дзеці, я школу ненавіджу.

Яшчэ парада (калі яна, вядома, патрэбная): можаце напалохаць яе міліцыяй (калі гэта на яе падзейнічае), калоніяй з зэкамі.

Са мною так маці рабіла. У такім узросце больш папруга дзейнічае. З дурнямі, як дачка гэтага татулі і я, па-іншаму нельга.

Света, 15 гадоў,
г. Мінск



## СПАДЗЯЮСЯ НА СУСТРЭЧУ

Дарагая Волечка, дзень добры!

Крык тваёй душы развярэдзіў ува мне старую рану. У дзяцінстве я пражывала побач з дзіцячым домам. Нягледзячы на мой дашкольны ўзрост, мне было балюча глядзець на гэты дом, бо там, за плотам, жылі дзеці, якім не дазвалялі сябраваць з намі, з хатнімі. Я прачыналася і клалася, сагрэтая клопатам і ласкаю не так нават маці, як бацькі, вясёлага, добрага, разумнага, які аддаў мне ўвесь агонь свайго сэрца. У другі раз я «падгледзела» жыццё «дзяржаўнага дзіцяці» ў дзіцячай бальніцы г. Магілёва. Я прыйшла туды з сяброўкаю наведаць яе хворую дачку. Толькі адчынілі мы дзверы, як насустрач нам з крыкам «Мама, мая мамачка прыйшла!» выбегла дзяўчынка і кінулася да мяне на рукі. Ад нечаканасці я не стрымала слёз, пасадзіла яе да сябе на калені, абняла, расцалавала. Яе ручкі так моцна мяне абнялі, што я ледзь змагла аддаць тое, што прызначалася ад мяне дачцэ сяброўкі. І як мяне ўразіла, калі ў адказ на маё пытанне: «Што табе прынесці заўтра?» — пачула: «Трусікі, мамачка». У мяне быў шок: маленькая трохгадовая дзяўчынка просіць не цацкі, не прысмакі, а трусікі. Прыходзіла да яе кожнага дня, і разрывалася маё сэрца ад жорсткай праўды жыцця, у якой б'ецца сэрца маленькага чалавечка. Трусікі на ёй былі чорнага колеру, «сямейнікі» з сямігадовага хлопчыка, на галаве пялёнка; на прагулцы — старэнькая, да пятаў балоневая куртка, якую любы вецер прадзьме, а дзяўчынка лячылася ад хваробы нырак. Усю адзежу я ёй купіла, прынесла і паліто сваёй дачкі: яно было вельмі прыгожае і ў добрым стане. Неўзабаве дзяўчынку перавялі зноў у «казённы дом». Мае намеры забраць яе закончыліся правалам: я была маці-адзіночка. У мяне была пяцігадовая дачка, якая хацела мець сястрычку і зусім не была супраць Светачкі, але мой былы муж не захацеў бы, нягледзячы на тое, што жадаў вярнуцца да нас. Узважыўшы ўсе акалічнасці, я закрэсліла бацьку ў жыцці маёй дачкі. А час пераканаў у тым, што я не памылілася — 10-гадовая дачка сказала маці яе бацькі: «Што гэта за тата, што за 10 гадоў капеечнай паштоўкі не прыслаў?» З тае пары, як Светачку забрала радня, я малю Бога, каб ён даваў ёй здароўе і шчасце. За цябе, Волечка, я буду таксама прасіць, каб і табе паслаў лёс тое, чым ты дагэтуль была абдзеленая, і няхай ён захоўвае цябе ад усіх бедаў і самоты. Тваё імя — Воля. Ты адпавядаеш па характары свайму імені, бо ты пераносіш свае цяжкасці з мужнасцю, без слёз, без істэрыкі. Ніякай у цябе закамплексаванасці няма. Наадварот, маючы аналітычны розум, ты зразумела, што замкнёнасць твая ад педагагічнага выхавання «дзяржаўнага дзіцяці», калі, становячыся дарослым, дзіця адчувае сябе тапельцам у бурным людскім віры, калі ясна яму: «Выратаванне тапельца — справа рук самога тапельца». Не ты вінаватая, а сістэма педагогікі. Волечка, радуйся таму, што ты жывая ёсць і яшчэ сыграеш шчаслівую ролю ў гэтым свеце. Ты вельмі нават нармальная дзяўчынка з пяшчотнай душою: любіш паэзію, літаратуру. Гэты прыродны дар не кожнаму дадзены, і ганарыся ім, а не хавай. Толькі невук і злы чалавек можа не ўхваліць твайго захаплення. Час — лепшы доктар. Я веру, што ты адтаеш, як растае вясновы снег, ператвараючыся ў вясёлыя ручайкі, якія змываюць усё благое, наноснае і бруднае на сваім шляху. І «рабінавыя пацеркі раз на год прарочаць» табе толькі шчасце, а не бяду. Амаральнасць, якая квітнела ў сценах «казённага дома», не зламала тваю душу, і ты імкнешся да ўсяго чыстага, што можа зрабіць тваё жыццё лепшым. Волечка, я хацела б з табою сустрэцца. А можа, мы дзенебудзь ужо сустракаліся ды не пазналі адна адну, але ў тым, што мы знойдзем адна ў адной родную душу, я перакананая. Калі ты захочаш назваць мяне сваёй мамаю, я буду вельмі шчаслівая. Калі захочаш назваць па імені — Тамара Сяргееўна — выбар за табою. Але ў любым выпадку разлічвай на мяне і падтрымку майго мужа, які таксама стане табе родным па тваім жаданні. Ён цудоўны чалавек, я жыву з ім ужо 12 гадоў. Усё, што ў нашых сілах, мы для цябе зробім. Волечка, сонейка, вер, што жыццё не такое беспрасветнае, як здаецца часам. Спадзяюся на сустрэчу з табою. А пакуль хоць у думках абдымаю і цалую цябе.

P. S. Дарагая рэдакцыя!

Калі з нейкіх прычын у вас няма адраса Волечкі З. («Крыніца», № 4, 1991 г.), калі ласка, надрукуйце ліст. Няхай яна пачуе мой боль так, як я пачула яго, і адгукнецца. Спадзяюся і жыву з надзеяй.

З павагаю —
Тамара Сяргееўна,
г. Магілёў

## КАХАННЕ ВАШАЕ — БРУД

Прачытала ліст Людмілы з Барысава ў чацвёртым нумары «Крыніцы». І хоць я ўпэўнена, што мой ліст вы не надрукуеце, я не магу не звярнуцца да гэтай маладой жанчыны.

Людміла!

Ты пішаш, што ты «самы няшчасны чалавек на свеце», хоць і кахаеш. А ці каханне гэта? Усе ведаюць, што каханне — самае чыстае, самае светлае пачуццё, з ім нельга быць няшчасным ні пры якіх акалічнасцях. Сапраўднае, чыстае каханне не хаваюць у падваротнях і не аглядваюцца па баках, каб, барані Божа, не ўбачылі знаёмыя. Каханне не хаваюць — ім ганарацца, ім захапляюцца, яго апяваюць у вершах і песнях. Ці можаш ты са сваім каханкам прайсці па вуліцы, нікога не баючыся і не думаючы пра тое, што вас нехта ўбачыць? Не можаш, я ўпэўнена. Усё нашмат прасцей і больш банальна. Вы абое злодзеі, хлусы, нікчэмныя людзі. І каханне вашае — бруд, паскудства, карацей, звычайны вулічны раман. Апрача ўсяго іншага, твой каханак, якім ты так захапляешся (вядома: «нікога так не кахаў, як мяне»), — звычайны здраднік. Дык колькіх ён кахаў да цябе? Калі не сакрэт, сваю жонку і дзіця ён як табе прадаваў: оптам ці ў розніцу, і за колькі прадаў? Ці не прадзешавіў? За ўсімі прыгожымі словамі пра вашае «незямное каханне» скрываецца адно паскудства. Каханне ж заўсёды канчаецца ложкам, а ў цябе яно ў ім пачалося, ім жа і скончыцца. Няўжо ты на самай справе думаеш, што ён цябе кахае? Ды ні ў якім выпадку! Ён ходзіць да цябе таму, што ты сама вешаешся яму на шыю і з першай сустрэчы паказала сваю даступнасць. Хіба не так? А ведаеш, гэта адкрыццё: каханне ад першага дотыку, нешта новае, асабліва для жанатага мужчыны. Вось з-за такіх, як ты, гінуць сем'і, множацца сіроты пры жывых бацьках. Ты вось усё пра гора сваё ды слёзы. Але хоць на хвіліну ўяві сабе жонку гэтага чалавека, калі яна даведаецца пра ўсё. А ягонае дзіця? Тое, што вы топчаце імя гэтай жанчыны, разбіваеце ёй жыццё, разрываеце ёй сэрца, кпіце з яе — гэта як назваць? Нешта нідзе ў лісце тваім няма ні спагады, ні жалю да гэтых ні ў чым не вінаватых людзей. А яна ж таксама кахае мужа, ці ж не так? Але табе на ўсё напляваць, галоўнае тваё, а чужое — няхай пакутуюць. Улезла ў чужое жыццё, корпаешся ў ім, як у бруднай бялізне, і лямантуеш на ўвесь свет. Не каб парваць раз і назаўсёды, пайсці і ніколі не сустракацца з гэтым чалавекам. Цяжка? Шкада страціць? Тады, калі ў яго такое пачуццё абавязку, няхай скажа ўсё сумленна жонцы. Што не кахае яе, а кахае цябе і ты яго таксама, а жыве з жонкаю з пачуцця абавязку. Няхай ёй будзе балюча — а ёй будзе балюча, крыўдна, можа, у тысячу разоў горш, чым было б табе, калі б ты пакінула яго ў спакоі. Але я ўпэўнена, яна яго адпусціць, зразумей, любой жанчыне патрэбнае каханне, трэба быць адной-адзінай для яго. А ён, паводле тваіх слоў, яе не кахае і жыве з пачуцця абавязку, з-за дзіцяці. Я думаю, ягоная жонка будзе разумнейшая, больш высакародная і развядзецца з чалавекам, які не кахае яе. Скажы свайму каханку, няхай ён скажа ўсё шчыра сваёй жонцы, паводзіць сябе сумленна, прыстойна хоць цяпер. Яна не стане яго трымаць, каму патрэбны здраднік. Чалавек, які здрадзіў так подла раз, здрадзіць яшчэ. Калі ж ён не захоча зрабіць так, дык падумай, чаму. Мне ясна, ён хлусіць табе, ты — яму, і абое вы нікчэмныя, без сумлення, гонару і чалавечай годнасці людзі. Дакажы адваротнае. Ці скажыце ўсё жонцы яго, і яна зробіць тое, чаго вы не можаце зрабіць, ці пайдзі ад яго назаўсёды. А ў канцы скажу табе: падумай, нявінныя слёзы (асабліва дзіцячыя) беспакарана не льюцца. Як бы табе не прыйшлося праз нейкі час апынуцца ў становішчы жонкі твайго каханка. Дай табе Бог розуму, а шчасця з гэтым чалавекам я табе не пажадаю. На чужым няшчасці сваё шчасце не пабудуеш.

Надрукуеце такі ліст, шаноўныя таварышы?

Сумняваюся... А дарэмна.

А. Яфімчык,
г. Ляхавічы



АКТУАЛЬНА!

# ДРУГОЕ ПРЫГОННАЕ ПРАВА (БАЛЬШАВІКОЎ)

## ТОЕ-СЁЕ ПРА КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЮ

На з'ездах народных дэпутатаў СССР, сесіях Вярхоўных Саветаў СССР і Беларусі мы вымушаны выслухоўваць дэпутатаў-аграрнікаў, якія заўзята абараняюць калгасна-саўгасную сістэму, праслаўляюць яе. Незразумела толькі, чаму апрача нас ніхто ў свеце больш ёю не карыстаецца? Незразумела таксама, чаму пры такой перадавой арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці СССР закуплівае на Захадзе пшаніцу і кукурузу, мяса і масла?

На падтрымку штаноў, што спаўзаюць з калгаснага ладу, кінуты ўсе сілы. У шэрагу месцаў летась была аб'яўлена татальная мабілізацыя.

Жыццяздольнасць грамадства, як вядома, залежыць ад здольнасці да самапазнання. У праўдзе аб сабе мы моцна грашылі супраць ісціны многія дзесяцігоддзі. Таму сёння і пакутуем, задаючы сабе пытанне: як магло здарыцца, што грамадства, народжанае са сплаву рэвалюцыйнага парыву працоўных мас і «навуковай палітыкі» ленінскай партыі, не здолела дасыта накарміць само сябе.

Адказ вельмі просты. Бальшавікам уласцівая была нецярплівасць, жаданне адным махам перарабіць свет. Інакш як насіллем гэтага дасягнуць немагчыма было. Адзін са старэйшых расійскіх марксістаў А. Багданаў пісаў: «Нават там, дзе сацыялізм утрымаецца і выйдзе пераможцам, яго характар будзе глыбока скажоны многімі гадамі асаднага становішча, неабходнага тэрору і ваеншчыны... Гэта будзе далёка не наш сацыялізм». І ён, на жаль, меў рацыю. Уся гісторыя савецкай вёскі — гэта гісторыя не проста працы, а «барацьбы за ўраджай», «барацьбы за надой», «барацьбы за прыбаўленне вагі» і г. д.

А пачалося ўсё з татальнага абагульнення. Цяпер ужо няма патрэбы даказваць, што «перамога калгаснага ладу ў СССР» была піравай. Вынікі відавочныя. Але ці ведаем мы праўду пра той час, калі здзяйсняўся трагічны па сваіх выніках паварот?

1927 год. У Беларусі налічвалася толькі 416 калгасаў (121 тыс. гектараў угоддзяў). Пасля XV з'езда ВКП(б) аб'яднанне сялянскіх гаспадарак у буйныя калектыўныя стала генеральнай лініяй партыі ў вёсцы. Мясцовыя партыйныя арганізацыі абавязаны былі ўзмацніць палітычную і культурна-асветніцкую работу сярод сялянства. Меркавалася і павелічэнне матэрыяльнай дапамогі сельскай гаспадарцы, механізацыя ручной працы, укараненне дасягненняў агратэхнічнай навукі і перадавога вопыту. Асабліва дэклараваўся прынцып добраахвотнасці пры ўступленні ў калгас. А на справе? Вось радкі з дакумента «Аб настроі ў вёсцы ў сувязі з рашэннямі XV з'езда ВКП(б)», накіраванага ў ЦК Кампартыі Беларусі вясной 1928 г.:

«Паводле звестак Жлобінскага РК КП(б)Б Бабруйскай акругі, атрыманых на падставе даных масавых сходаў у 22 сельсаветах, можна сцвярджаць наступнае. Сярод БЕДНЯКОЎ па пытаннях сельгаспадатку і збірання пратэрмінаваных пазык незадавальнення не было. Нарыхтоўкі бедната зацікаўлена рабіць праз кааперацыю, але, галоўным чынам, для таго, каб атрымліваць хлеб для сваіх патрэб, а не здаваць. Аблігацыі пазык яны набываюць ахвотна, аднак пры правядзенні ўсіх названых мерапрыемстваў бедната малаактыўная.

СЕРАДНЯКІ да пазык ставяцца вельмі асцярожна, прыглядваюцца, усё падрабязна выпытваюць. З іх боку выказваецца засцярога, што пазыка можа пайсці не па прызначэнні. Па пытанні аб дзяржнарыхтоўках адказваюць, што прыватнік плоціць даражэй, таму яны яму і нясуць. Скардзяцца на падатак — занадта вялікі. У іх асяроддзі выказвалася і адкрытая незадаволенасць: «Час ужо, каб не было беднякоў на дзесятым годзе Савецкай улады, іх падтрымліваюць, а яны сабе і ў вус не дзьмуць, жывуць бесклапотна. Карысці ад беднякоў няма, калі будзе вайна, дык у першую чаргу возьмуцца за серадняко̆ў. Бядняк — гультай, дрэнна выкарыстоўвае крэдыты, іх яму нельга даваць».

У заключэнне дакумента канстатуецца:

«Наогул, настрой такі: рэўнасць да рабочых ва ЎСЕЙ вёскі. Думка аб саюзе моцных сялян. Націск на збожжанарыхтоўкі выклікае апасенні, ці не будзе вяртання да метадаў «ваеннага камунізму». Расце цікавасць і насцярожанасць да калектывізацыі вёскі» (Партыйны архіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, фонд 4, вопіс 7, с. 136, арк. 300; у далейшым — ПА ІГП пры ЦК КПБ).

Да сказанага застаецца дадаць, што мелася на ўвазе пад словамі «пазыка». Працоўныя Беларусі ў 20-я і 30-я гады прынялі актыўны ўдзел у мабілізацыі сродкаў для пакрыцця важнейшых агульнадзяржаўных расходаў. Так, ад рэалізацыі ў рэспубліцы Першай, Другой, Трэцяй пазык індустрыялізацыі, а таксама пазык «Пяцігодку за чатыры гады», «Трэцяга рашаючага года пяцігодкі» і «Чацвёртага завяршальнага года пяцігодкі» Савецкай дзяржаве паступіла ад беларускага народа 139 млрд. рублёў. (БССР. 1922—1932 гг. Менск, 1933. с. 133). Няма падстаў сцвярджаць, што пералічаныя пазыкі заўсёды здаваліся на добраахвотнай аснове. Як відаць з дакументаў і перыядычнага друку тых гадоў, падпісной кампаніі заўсёды спадарожнічала больш чым актыўная «ідэалагічная растлумачальная работа», якая іншы раз абарочвалася адкрытым прымусам.

Ленінскі план кааперацыі сялянства, у якім не было названа ні канкрэтных тэрмінаў правядзення, ні акрэслена пэўных форм і метадаў рэалізацыі, быў падменены сталінскай «суцэльнай калектывізацыяй». Вёска не атрымала ў абяцаных маштабах ні тэхнікі, ні крэдытаў, ні спецыялістаў. Замест прынцыпу добраахвотнасці пры ўступленні ў калгас шырока прымяняліся гвалт і запалохванне. Вось як абстаялі справы ў рэспубліцы ў 1929 г. Адгортваем яшчэ адзін дакумент партыйнага архіву, азагалоўлены «Ход калектывізацыі і раскулачвання ў БССР». Чытаем:

«У Менскай акрузе работа з беднатой у шэрагу месцаў пастаўлена вельмі нездавальняюча. Бедната не арганізавана і не з'яўляецца ініцыятарам у калектывізацыі. У Уздзенскім раёне работа з беднатой таксама пастаўлена кепска, групы садзейнічання беднаты існуюць толькі на паперы. У Чэрвеньскім раёне ў вёсцы Боўна Клінавіцкага сельсавета не толькі серадняк, але і бедната заяўлялі, што ніякіх «кулакоў у іх няма». Супраціўленне калектывізацыі з боку беднаты яшчэ больш моцнае, чым у серадняко̆ў. У Халопеніцкім раёне бедната не разумее пераваг калектывізацыі гаспадаркі над дробнай і аднаасобнай. З асаблівай рашучасцю выступаюць супраць яе жанчыны, у тым ліку і бядначкі. Так, на адным са сходаў яны ўсчалі плач, а некаторыя прама заяўлялі: «Рэжце нас, а ў калгас не пойдзем!» А ў Плешчаніцкім раёне бедната, настроеная супраць калектывізацыі, заяўляла: «Усё жыццё працавалі на паноў і нічога не мелі. Калі Ленін даў зямлю, калі пабудавалі хату і завялі «гаспадарку», дык цяпер усё адбіраюць!» І далей: «Нашы дзяды і бацькі былі ў няволі, а цяпер і нас хочуць заняволіць. Зноў паншчына! Чаму Савецкая ўлада раней не гаварыла, што будзе калектывізацыя, тады б мы не стараліся...» У названай вёсцы ўся бедната выступіла супраць калгаса. Людзі ўважліва сочаць, хто першы запішацца, каб потым з імі расправіцца. Ва ўсім раёне няма ніводнага прыкладнага калгаса, на жыцці якога можна было б пераканаць сялян у перавагах калектывізацыі». (ПА ІГП пры ЦК КПБ, ф. 4, воп. 7, с. 233, арк. 102).

Не бяруся сцвярджаць, што дакументы, якія толькі што былі працытаваны, з'яўляюцца навінкай для гісторыкаў-прафесіяналаў. У справе прапаганды калектывізацыі, калгаснага будаўніцтва і «перамог» на гэтай ніве беларускія савецкія вучоныя папрацавалі старанна. Гісторыкі зыходзілі не з фактаў, а з ідэалагічных і палітычных установак. «Выдатныя дасягненні Савецкай улады», «рашучы разгром рэшткаў эксплуататарскіх класаў у СССР і БССР», «другая Кастрычніцкая рэвалюцыя ў вёсцы»,— гэтыя і іншыя «адкрыцці» былі зроблены зусім не ў трыццатыя гады, а ў 70-я і нават у пачатку і сярэдзіне 80-х, калі відавочны быў правал у аграрнай палітыцы.

Фальсіфікацыя здзяйснялася дастаткова груба. Аўтары, разважаючы аб дасягненнях калектывізацыі, у асноўным, прыводзілі звесткі аб колькасці створаных калгасаў і саўгасаў, аб пастаўках ім трактараў, камбайнаў і іншай тэхнікі, аб дзейнасці машынна-трактарных станцый, працэнтных суадносінах колькасці аднаасобнікаў і калгаснікаў і да т. п. Але хіба гэта навуковы крытэрый? Да нядаўняга часу закрытымі заставаліся звесткі аб катастрафічным зніжэнні ўраджаю, гібелі соцень тысяч галоў жывёлы, што заканамерна прывяло да пустых паліц у магазінах, картачнай сістэмы і голаду. Якая ж тут, даруйце, «перамога калгаснага ладу»? Перамога над кім?

Доўгі час савецкія людзі шчыра лічылі, што супраціўленне калектывізацыі аказвалі толькі кулакі або тыя, хто быў ад іх залежны. Быў складзены міф аб «кулацкай вайне» супраць Савецкай улады, што, маўляў, прымусіла прыняць меры ў адказ. У сапраўднасці ж найбольш заможную частку вёскі справакавалі. На самым высокім узроўні была абвешчана і ўхвалена палітыка «ліквідацыі кулака як класа» і з нябачанай у гісторыі жорсткасцю ажыццёўлена на практыцы. У выніку — шматлікія ахвяры і дыскрэдытацыя самой ідэі сацыялізму.

Палітыку партыі не прымала большая частка вёскі. І кулакі, і серадняк, і беднякі не хацелі расставацца з уласнасцю, не жадалі пераходзіць на пункт гледжання пралетарскай дзяржавы. Дакументы архіваў літаральна крычаць пра гэта.

І тады ўжылі гвалт. «Класавым ворагам» аб'яўляўся кожны, хто не прымаў або не спяшаўся прыняць новую палітыку. Крытэрыі былі зведзены да мінімуму: хто не з намі, той супраць нас! Працэс калектывізацыі быў падменены «раскулачваннем». Пры гэтым адну частку сялян нацкоўвалі на другую, заахвочвалі падзелам маёмасці «кулакоў» і асабліва хатняй маёмасці сярод тых беднякоў і серадняко̆ў, якія аб'яўлялі сябе прыхільнікамі калектывізацыі. Неўзабаве «кулаком» ужо называлі ўсякага, хто не пажадаў запісвацца ў калгас. І ўсё гэта ў масавых маштабах.

Вынікі хутка далі сябе адчуць. Мясцовыя органы ўлады не заўсёды мірыліся з глухатой Цэнтра. Для таго, каб не проста захаваць «саюз рабочага класа і сялянства», але і ўцалець самім, яны пачалі самастойна выносіць рашэнні, асуджаючы «перагібы». Яшчэ не з'явіўся ў «Правде» артыкул І. В. Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў» (2 сакавіка 1930 г.), як Менскі акруговы камітэт партыі выносіць пастанову (пратакол № 58 ад 4-га лютага 1930 г.), у якой дадзена ацэнка памылак, дапушчаных пры раскулачванні: «Падмена грамадскай актыўнасці бядняцка-серадняцкіх мас вёскі адміністрацыйнымі мерамі раскулачвання. Прымяненне пагроз і арыштаў, абкладанне індывідуальным падаткам серадняко̆ў, якія не жадаюць ісці ў калгас. Няправільнае правядзенне галасавання, калі ўпаўнаважаны пытаўся: «Хто супраць Савецкай улады?» І галасавалі, тыя, хто не быў супраць, лічыліся членамі калгаса...» (ПА ІГП пры ЦК КПБ, ф. 4, воп. 7, с. 233, арк. 105).

Рэзкай крытыцы былі падвергнуты факты нетактоўнасці, грубасці і прамога насмяяння з чалавечай годнасці або, як бы мы сказалі сёння, парушэння правоў чалавека. Так, у вёсцы Пасадзец Плешчаніцкага раёна на пытанне вяскоўцаў, што будзе са старымі і непрацаздольнымі членамі сем'яў, ці будуць яны забяспечаны ў калгасах, мясцовы настаўнік Шаланда «пажартаваў» (!): «Старыя пойдуць на мыла», што выклікала абурэнне вёскі. У Барысаўскім і Чэрвеньскім раёнах для таго, каб прымусіць адных і запалохаць другіх, прадухіліць выхад з калгасаў тых, хто ўжо ўступіў, праводзіўся вопіс маёмасці тых, хто адмовіўся прыняць палітыку калектывізацыі. У вёсцы Гандраполле Плешчаніцкга раёна сакратар партячэйкі пагражаў: «Хто не запішацца ў калектыў, таго сашлем на Салаўкі!» (Тамсама, аркушы 102—103).

Трэба адзначыць, што ў гэтай экстрэмальнай сітуацыі знайшліся людзі, якія не здрадзілі здароваму розуму, не дазволілі напалохаць або ашукаць сябе. Яны працягвалі адстойваць інтарэсы вяскоўцаў. Праўда, праяўлялася гэта па-рознаму. Адны ставіліся да калектывізацыі «пасіўна», другія дэманстрацыйна пакідалі сходы, трэція ўзначальвалі «падкулачнікаў» і «выказвалі іх інтарэсы». Разам з імі знаходзіліся і такія, хто быў на грані псіхалагічнага зрыву. Напрыклад, член Кнорынскага сельсавета Балько (Пухавіцкі раён) пасля правядзення сходу пагражаў: «Усіх спалю, хто пойдзе ў калгас!» (Тамсама, аркушы 102—103).

Рэакцыя Цэнтра на ўсе гэтыя падзеі аказалася неадэкватнай. Толькі 14 сакавіка 1930 г. ЦК ВКП(б) прыняў пастанову «Аб барацьбе супраць скажэння партлініі ў калгасным руху». Аднак адна справа — пастанова, другая — рэальная палітыка. У Беларусі ўжо ў кастрычніку 1930 г. (!) пленум ЦК КП(б)Б прызнаў неабходным крыху «паскорыць» тэмпы калектывізацыі. Да вясны 1931 г. намячалася прыцягнуць у калгасы каля 30 % усіх сялянскіх гаспадарак, а да канца года — 45 %. Для рашэння намечанай задачы пленум пастанавіў узняць усю «пралетарскую грамадскасць, узмацніць пралетарскую дапамогу вёсцы, мабілізаваць студэнцтва сельскагаспадарчых і педагагічных навучальных устаноў, а таксама актыў цэнтральных устаноў» (Гісторыя Беларускай ССР. Т. 3. С. 420).

Рэспубліка была ахоплена страхам. Ламалі станавы хрыбет яе эканомікі і адвечныя ўстоі вёскі. З зямлі зганялі дзесяткі тысяч працаўнікоў, а разбурэнне гаспадаркі выдавалі за пабудову гарманічнага ладу, пры якім кожны атрымае «колькі пажадае». Людзей падагравалі спакуслівай магчымасцю жыць, толькі разяўляючы раты.

Палітыка і практыка суцэльнай калектывізацыі абярнуліся сапраўдным рассяляньваннем вёскі. Надзвычайныя меры, якімі часта карысталіся пры яе правядзенні, сталі непазбежнымі і былі глыбока антыгуманнымі. Праўда, многія яшчэ тады верылі, што ўсё гэта справа часовая, што потым наладзіцца і ўсё ўвойдзе ў сваю каляіну. Як бы не так! Не, не будзе ўжо ў сялян нармальнай каляіны. З таго часу імі пачнуць толькі камандаваць. Іх будуць аб'ядноўваць, «узбуйняць», «разбуйняць», ім будуць указваць, што і дзе сеяць, калі збіраць, каму аддаваць... А тыя вясковыя жыхары, якіх не сашлюць і якія самі не ўцякуць з сяла, доўгі час будуць жыць без пашпартоў, працуючы за «палачку» — міфічны працадзень. І абрэвіятуру «ВКП(б)» вёска расшыфруе па-свойму (у перакладзе на беларускую мову): «Другое прыгоннае права (бальшавікоў)».

**Леанід СМІЛАВІЦКІ**

Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА






*Калі вы яшчэ не паспелі забыцца за паўгода на тое, што ў красавіку многія зоркі савецкага року, а таксама зорачкі і згаслыя зоркі року заходняга (накшталт групы «Ліндзісфан», чыё святло дайшло да нас толькі цяпер), сабраліся ўсе разам, дык гэтая падборка, падрыхтаваная Брыгадаю Званароў у складзе Дзяніса ГУРЫНОВІЧА, Уладзіслава МАКСІМАВА і Ігара РУБІНШТЭЙНА, прызначана вам, тым, хто захоўвае вернасць «Машыне часу», цікавіцца песнямі Элінор Саці з ЗША і развагамі Арцемія ТРОІЦКАГА пра перспектывы рок-музыкі ў краіне Саўдэпіі і за мяжою...*

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЯШЧЭ НЕ СТАМІЎСЯ

З Андрэем Макарэвічам мне раней сустракацца не прыходзілася, і я, калі шчыра, не ведаў, як да яго падысці са сваімі пытаннямі. Але ўсё выйшла проста: я сказаў, што хачу з ім пагаварыць, і гэтага хапіла. Вопыту браць інтэрв'ю ў бацькоў савецкага року ў мяне небагата, і хвалявання хапіла б на дзесяць серый «Ізауры», але, як кажуць, работа ў нас такая... Ну што, як я прыкінуўся разгубленым, га? Вы, галоўнае, верце, менавіта так усё і было... Дзеля пачатку, каб завязаць размову, я задаю самае дурное пытанне:

— Андрэй, для многіх ты цяпер ператварыўся ў іранічнага інтэлектуала, чым можна растлумачыць тое, што адбываецца з табою?

— Чаго-чаго, а ўжо іроніі «Машыне» заўсёды хапала, дый у сэнсе інтэлекту мы таксама не зусім дэбіламі былі. Некаму песні «Машыны» падабаюцца, некаму — тыя, што я выконваю пад гітару, гэта залежыць ад густу. Так што я ніякай перамены не бачу.

— «Машына» на сцэне ўжо 22 гады, так? А як вы развіваліся, якія перыяды?

— Ды кінь ты, якія перыяды. Мы сталеем, старэем, калі хочаш — гэта натуральна, а з узростам прыходзіць мудрасць. А ўвогуле вам з вашага боку лепш відаць. Мяне гэта мала хвалюе.

— Слухай, а вы ў наш цяжкі час баставаць не збіраецеся?

— Ды не, «Машына» пакуль не бастуе. Калі ўжо музыканты баставаць пачнуць, тут ужо касцей не збярэш. А калі сур'ёзна, нам баставаць рацыі няма, мы ж зарплату не атрымліваем.

— Андрэй, што змусіла цябе ўдзельнічаць у гэтым фестывалі і, увогуле, ці мае якое-небудзь дачыненне сённяшні сэйшн да дзяцей Чарнобыля? Навошта табе гэта?

— Ну, а ты як думаеш? Няўжо музыканты яшчэ неяк могуць дапамагчы хворым дзецям? Мы ж не мільянеры, мы проста граем, і тыя грошы (досыць вялікія), якія прызначаліся нам у якасці ганарару за выступленні, мы аддаем у фонд Чарнобыля. Тым больш, што такія канцэрты праходзяць ва ўсім свеце, і я не разумею, чаму мы павінны адмаўляцца ад падобных рэчаў.

— Як ты думаеш, ці ў тэму былі ўсе гэтыя заходнія групы, якія таксама прыехалі на гэты фестываль?

— Вядома, сярод іх ёсць шмат неблагіх хлопцаў, шкада толькі, што я ўвесь канцэрт да канца не даслухаў. Мне выступленне Талькова ўвесь настрой сапсавала, адразу і пайшоў. А ўвогуле, шкада, што не было такога месца, дзе пасля канцэрта ўсе музыканты змаглі б сабрацца, пагаварыць, выпіць, можа, што-небудзь сыграць разам...

— Табе не хапае кантактаў?

— Я мог бы, вядома, і без гэтага пражыць, але тады не ў кайф, ва ўсіх цывілізаваных краінах працуюць такія ўстановы.

— Якія ў вас адносіны з новымі лідэрамі?

— А каго лічыш новымі? Шаўчук, напрыклад, мой равеснік... Астатнія не маладзейшыя, проста трохі пазней выйшлі на сцэну. А адносіны нармалёвыя — сустракаемся, размаўляем.

— А праўда, што ў цябе ёсць радня на Беларусі?

— Слухайце, а можа, вы з Народнага фронту, га?

— Не.

— Шкада, у мяне бацька беларус, з-пад Брэста.

— Андрэй, табе не здаецца, што твае песні становяцца ўсё больш палітычнымі?

— Ды не сталі яны ні больш, ні менш палітычныя. Я ўжо стаміўся ад гэтага пытання. Я пішу пра тое, што адбываецца, што хвалюе.

— У новым альбоме «Машыны» ёсць некаторыя старыя песні — «Вогнішча», напрыклад. З чым гэта звязана?

— З тым, што яны ніколі не выходзілі на пласцінках. Ім па 10 гадоў, а яны чамусьці не страцілі сваёй папулярнасці.

— Скажы, табе не здаецца, што ў апошні час «Машыну» сталі паказваць па ТБ дужа часта?

— Здаецца, на жаль... Але з гэтым нічога нельга зрабіць. Тэлебачанне, аднойчы завалодаўшы якім-небудзь запісам, можа ўтыкаць яго калі захоча і куды захоча, а цяпер, калі многія паважаныя дзеячы ў знак пратэсту пайшлі з тэлебачання, Краўчанка затыкае дзіркі.

— Што вы любіце слухаць з сябе?

— Я ўвогуле не люблю з сябе слухаць.

— Цікава, ці адрозніваюцца фаны 70-х ад цяперашніх?

— Вядома, абсалютна розныя ўмовы, пры якіх тыя ці іншыя сталі фанамі. Тады гэта было на фоне гераізму: за гэта ментавалі, стрыглі, не было ніякіх крыніц інфармацыі, і кожны канцэрт быў адкрыццём. А цяпер людзі наеліся і сталі адносіцца да ўсяго нармальна, як ва ўсім свеце.

— Мне здаецца, што многім цяперашнім фанам любоў да «Машыны» перадалася ад бацькоў.

— Не... Любоў не спадчына. Тут яе трэба па-новаму зарабляць. Ці заваёўваць.

— Ёсць думка, што «Машыну» як групу загубіў выхад на эстраду.

— Мне абсалютна напляваць на тое, што пра нас кажуць. Мяне цікавіць толькі тое, наколькі добра, прафесійна мы зрабілі тую ці іншую рэч.

— Увосень у Мінску была выстаўка тваёй графікі. Што гэта для цябе — захапленне музыканта ці нешта іншае?

— Тое ж, што і музыка... А што да таго, як гэта ў мяне атрымліваецца, дык гэта не мне меркаваць.

— Ведаеш, ты робіш уражанне стомленага чалавека.

— Папрацуйце з маё. Хоць я думаю, што ў мяне яшчэ хопіць сілы на нейкую колькасць прыстойных работ.

— Традыцыйнае пытанне аб планах.

— Як пакаціць!

— Што ты ведаеш пра беларускі рок?

— Нічога не ведаю...

(Званары падарылі Андрэю касеты з запісамі нашых старых знаёмых — «Дзяцей лейтэнанта Шмідта» (№ 4) і некалькіх іншых груп. Праз тры тыдні, седзячы за рулём свайго аўто і размаўляючы са спецкорам мінскай рок-газеты «Сорока» Кацяй, Макарэвіч ухваліў «Дзяцей...» і сказаў, што з іх пэўна нешта атрымаецца. Інфармацыя, атрыманая ад Каці, натхніла нас — недарэмна ўсё ж такі працуем.

**Арцём ТРОІЦКІ:**

# «Я, НАРЭШЦЕ, САВЕЦКІ СЛУЖАЧЫ»

Грамадскасць, якая сабралася на прэс-канферэнцыі ў «Юбілейнай» — ці не кожны ў строгім касцюме,— трохі эпаціраваў выгляд Арцемія Троіцкага, які прыйшоў у канферэнц-залу без шкарпэтак. Выпусціўшы, нарэшце, з цеснага кальца А. Макарэвіча, журналісты абступілі знакамітага калегу, які то паказваецца ў праграме «А», то вітае ўсіх нас з далёкай Вялікабрытаніі.

— Якой ты думкі аб арганізацыі гэтай акцыі, па сваіх маштабах небывалай для Мінска?

— Пра арганізацыю нічога дрэннага сказаць не магу. Шмат хлопцаў з аховы, усе вакол ходзяць з перакладчыкамі — словам, вельмі самавіта, але асаблівай весялосці няма.

— Ці праўдзівая чутка пра тое, што ў цябе ў Англіі з'явілася ледзь не асабістая фірма грамзапісу?

— Ну, гэтая фірма — не мая, проста я маю пагадненне з эфірам, больш-менш свой офіс, які і займаецца на Захадзе... (Троіцкі змаўкае і шукае выраз)... прапагандаю савецкага музычнага мастацтва. На гэтай справе я толькі страчваю. А зарабляю, напрыклад, на кнігах, на ТБ і г. д. Так што чуткі пра тое, што я стаў капіталістам, дужа перабольшаны.

— Дарэчы, як разыходзіцца за мяжою твая кніга?

— Досыць няблага ў Англіі ды ў іншых краінах. Хаця, вядома, яна не бестсэлер — гэта не біяграфія Майкла Джэксана, і гаворка ў ёй ідзе пра музыкантаў, практычна невядомых на Захадзе.

— У цябе ёсць справа ў Англіі, ты маеш пэўную вядомасць у тамтэйшых музычных колах, цудоўна ведаеш мову і музыку... Скажы, што цябе яшчэ трымае тут?

— Цяпер яшчэ і тое, што я пайшоў на працу. Упершыню за 8 гадоў на службе. Аклады, прэміі, ганарары — усё гэта не мае ніякага значэння, бо мае папярэднія стаўкі былі значна вышэйшыя. Я цяпер начальнік музычнай рэдакцыі Расійскага ТБ... З прыходам на ЦТ Краўчанкі і К° пад бел-сіне-чырвоныя сцягі РТБ перайшлі дзесяткі таленавітых журналістаў. Дзякуй вам, Леанід Пятровіч! Не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло.

— Арцём, цябе затрымлівае тут толькі праца?

— Не, чаму ж. Мне падабаецца тут галоўнае: жыць, працаваць, і я не збіраюся ад'язджаць назаўсёды.

— Пагаворым пра тых, хто ад'язджае на час, папрацаваць у Еўропе, Штатах. Быў Праснякоў у Англіі тры месяцы, Кузьмін у ЗША — пяць. Вярнуліся і сцвярджаюць, што там нецікава жыць. А можа, проста кар'ера не пайшла?

— Так, хутчэй за ўсё гэта. Калі б кар'ера «пайшла», яны ўкалвалі б па дваццаць гадзін у суткі і не сталі б нудзіцца. Дарэчы, калі гаварыць аб Праснякове — хлопец ён сапраўды здольны і, да таго ж, па стылі жыцця абсалютна «заходні». Ну, а Кузьмін... (Не будзем раздражняць прыхільнікаў Кузьміна.— Бр. Зв.)

— Цяпер многія нашы групы, ледзь вывучыўшы англій-

скую мову, пачынаюць прарывацца «туды», што ты думаеш пра перспектывы гэтага?

— І «Машына» спрабавала співаць на англійскай мове. Але Макарэвіч, відаць, адчуў, што гэта не іхняя справа. Іншыя гэтага не разумеюць і намагаюцца з дапамогаю «савецкага» іміджа прасунуцца на Захадзе. Я не думаю, што гэта працягнецца доўга. Згадайце наш першы экспартны варыянт — «Парк Горкага». Не ўратавалі хлопцаў ні чырвоныя кашулі, ні гітара, стылізаваная пад балалайку. Ажыятаж серпа-молатаманіі сціх, а музычных здольнасцей не хапіла. Але бог з ім, з Захадам,— яму ёсць з чаго выбіраць. А вось якім чынам...

— Якім чынам на наша роднае ТБ прарываюцца выканаўцы, якіх цяжка назваць музыкантамі?

— Ні я, ні Анціпаў хабару не бралі і не давалі. Але Дзяржтэлерадыё, а ўжо музычная рэдакцыя асабліва — наскрозь гнілыя арганізацыі, дзе сума хабару выражаецца часам пяцізначнымі лічбамі. Так што ў тым, што на экраны трапляе велізарная колькасць халтуры, няма нічога дзіўнага. А часам чыноўніку проста ўсё роўна, што пройдзе ў яго ў эфіры. Проста прыходзіць указанне з Дзяржканцэрта ці яшчэ ад каго-небудзь — «Даць такога артыста», і яму абсалютна напляваць на тое, «вас іст дас».

— Арцём, цяпер ты супрацоўнічаеш толькі з ТБ Расіі?

— Так.

Наступныя пытанні былі звязаны пераважна з беларускім рокам. Арцём ухваліў «Уліс», Васю Шугалея, «Зарціпо», згадаў «Мрою» («таксама ў свой час быў неблагі гурт») і запэўніў, што гурт «Ы-Ы-Ы» стане апорным на РТБ і зойме там прыкладна такое ж месца, што і Кабзон на ЦТ.

Аднаго з нас жудасна засмуціў факт удзелу ў кампаніі рокераў Ігара Талькова.

— Якраз у час выступу Талькова я быў у грымёрнай. Выпіваў і закусваў. (Трэба аддаць належнае ўменню мэтра выбраць час.— Бр. Зв.) Чуў толькі, што нехта з ягонай групы начапіў чатыры Георгіеўскія крыжы. Вось гэтага быць не можа. Іх толькі тры давалі, і тыя — за смеласць.

— Ці прыемна быць Арцемію Троіцкаму Вялікім Босам, і ці не заб'е Вялікі Бос Арцёма Троіцкага?

— Босам? Бадай, непрыемна. Калі ўжо я адчую, што сілы больш няма, што пайшло забойства, прыйдзецца здаць паўнамоцтвы.

— Каму?

— Ну, знайду каму. Хацелася б дзяўчыне якой-небудзь, сімпатычнай.

— А куды сам пойдзеш?

— А адкуль прыйшоў.

— А адкуль?..

— (Нядобра ўсміхаючыся.) З народа, вядома. З самага андэрграўнда. Пайду назад.

Хітраваў, вядома, шаноўны Арцемій адносна вяртання ў андэрграўнд. Такая сціпласць не мае нічога агульнага са службаю шоу-бізнеса, на якую пайшоў Троіцкі. Хоць, хто яго ведае, усялякае бывае — магчыма, вернуцца яшчэ часы праследу падвальнай рок-музыкі, якая вылезла цяпер пагрэцца на сонцы чарговай палітычнай адлігі. А што ж зараз? Пакуль даюць сяк-так працаваць?

— Арцём, як наконт новай кнігі?

— Новых кніг, думаю, не будзе. Адзінае, што магу абяцаць,— гэта пераклад на рускую мову кнігі «Тусоўка» — вось яна, відаць, выйдзе. І, бадай, гэта ўсё...



# ХОЛАД — ГЭТА КРУТА

Яна адпрацавала цэлы канцэрт. Гэтая кволая жанчына з дзіўным іменем Элінор Саці. Спяваць у такі холад у лёгкім касцюме — сапраўдны гераізм. Я падумаў: «Стары, калі ты не возьмеш інтэрв'ю ў гэтай спявачкі, табе капейка цана». Усюды снаўдалі перакладчыкі, якія не ведаюць ці рускай ці англійскай мовы, і таму мне прыйшлося самому выкручвацца з гэтага становішча. Дзе наша не прападала!

— Элінор, навошта ты сюды прыехала? У вас у Штатах цёпла і багата садавіны, а тут холадна і радыяцыя.

— А куды ж яшчэ, па-твойму, я магла прыехаць? Толькі ў Мінск. Тут мяне чакалі, а калі недзе чакаюць, я абавязкова туды траплю ў любым выпадку.

— Ну і як табе на Беларусі, на нагах яшчэ добра трымаешся?

— Не, усё о'кэй, я нават балдзею ад таго, што ў вас у крамах пуста, а на плошчах адны мітынгі. Экзотыка.

— Дзякуй.

— Ды не, ты не крыўдуй. Проста я не разумею. Калі няма чаго есці, значыцца, трэба працаваць. У нас гэта так.

— Добра, не будзем больш пра магазіны. Слухай, а хто, на тваю думку, самы папулярны выканаўца ў ЗША?

— Вядома, я, ну і яшчэ Майкл Джэксан, але ён мне не канкурэнт.

— А пра што твае песні?

— У цябе са слыхам усё ў парадку? Так? Ну вось і слухай, а не пытайся.

— Але ў нас многія не ведаюць англійскай мовы.

— Значыцца, ужо прыйшоў час яе вывучыць.

— Слухай, а чаму ты так лёгка адзелася? Халадрыга ж.

— Холад — гэта крута. Я нарадзілася ў Масачусэтсе, а там заўсёды холадна. Так што, усё, што звязана са снегам, ільдом і насмаркам,— гэта з майго дзяцінства.

— Ты сапраўдная сібірачка.



А ці не махнуць табе з канцэртамі на Зямлю Франца-Іосіфа?

— Выдатная ідэя. Гэта варта абмеркаваць з маім менеджэрам. Даць канцэрт сярод белых мядзведзяў — гэта актуальна.

— Я спадзяюся, ты запросіш мяне на гэтае выступленне?

— Што за пытанне? Няма праблем, а ў цябе футра ёсць?

— Што за пытанне, не ў вёсцы ж жывём.

— А што, у вас у вёсцы ні ў каго няма футраў?

— Ды не, гэта так кажуць.

— Ну, тады ўперад!

— Банзай!!!

Чакайце працягу інтэрв'ю з Зямлі Франца-Іосіфа.

# ФІРМА ВЕНІКАЎ НЕ ВЯЖА...



Незалежная пласціначная фірма «Nuclear Blast Records» была заснавана Маркусам Штайгерам у студзені 1988 года ў маленькім нямецкім горадзе Донцдарфе і досыць хутка стала адной з вядучых трэш-фірм Еўропы. Спачатку яна спецыялізавалася на выпуску пласцінак амерыканскіх хардрокавых груп, такіх як «Impulse Manslauchter», «Sacred Denial», «Stark Raving Mad», «Cancerous Crowth» і «Condemned», аднак сапраўдны поспех прыйшоў пасля заключэння кантрактаў з дэс-мэтал групамі накшталт «Pungent Stench», «Benediction», «Abomitation», «Defecation», «Righteous Pics», «Disharmonic Orshestra» ці «Atrocity». Улічваючы велізарную цікавасць нашых трэшэраў да прадукцыі фірмы і папулярнасць у народзе групы «Benediction», я вырашыў звязацца з фірмаю па тэлефоне, паколькі нас ужо прыкладна год звязваюць сяброўскія адносіны, і Маркус Штайнэр згадзіўся расказаць сёетое пра «Nuclear Blast»:

— Я заснаваў фірму тры гады назад разам са сваім сябрам Слатка Долічам, які, на жаль, з намі больш не супрацоўнічае. Пачыналі мы з перавыдання пласцінак вядомых амерыканскіх хардрокавых гуртоў, а потым перавыдалі альбомы некаторых еўрапейскіх трэш- і дэс-мэтал груп. Такім чынам, мы займелі нейкі капітал і маглі падумаць пра ўласныя праекты. Дарэчы, назва фірмы, якая некага можа шакіраваць,— «Nuclear Blast» («Ядзерны выбух») — зусім нічога не значыць. Проста яна цалкам адпавядае гучанню нашай прадукцыі.

Мая фірма — саюз сапраўдных сяброў. Цяпер мы працуем у наступным складзе: Марцін (прадзюсер, адказны за рэкламу гандлю, рэдактар каталогаў), Міхаэль (рэклама), Ушы і Манэ (перасылка тавараў). Няцяжка заўважыць, што мы зусім не «CBS Records», напрыклад, але колькасць супрацоўнікаў ні пра што яшчэ не кажа. Штодня мы высылаем каля 8 тысяч пасылак з нашымі таварамі ў розныя краіны свету, і я ганаруся тым, што мы не атрымліваем скаргаў. Мы маленькая, але сур'ёзная кампанія.

Думаю, што было б нядрэнна расказаць пра пачатак нашай работы... Зрэшты, у гэтым няма нічога цікавага: я і Марцін былі некалькі месяцаў у ЗША, дзе пазнаёміліся з гуртамі «Impulse Manslauchter» і «Condemned», даволі папулярнымі тады ў Еўропе. Мы купілі правы на перавыданне іхніх альбомаў і сінглаў у Германіі і не памыліліся, паколькі еўрапейскія прыхільнікі хард-року раскупілі ўвесь тыраж за некалькі тыдняў, і мы дагэтуль атрымліваем заказы на гэтыя пласцінкі.

Аднак самымі першымі пласцінкамі з этыкеткаю «Nuclear Blast» сталі альбомы «No Fraud» («Hard To the Core»), «Toxic Shock» («Change From Reality») і «Chronic Diarrhoea» («Salamo Says»). Мы арыентаваліся выключна на





# ДЭЦЫБЕЛАВЫ УРАГАН «ТАРНАДА»



У весну 1987 года ў Мінску чацвёра старых сяброў, некалі страсна ўлюблёных у класічны хэві-мэтал, вырашылі стварыць свой гурт. Тады ж было прынята рашэнне адмовіцца ад традыцыйнага гучання і выконваць трэш — найбольш экстрэмальнае адгалінаванне хэві-мэтала. Паколькі сярод сяброў квартэту былі адразу два гітарысты і барабаншчык, то адшукаць басіста было не так ужо цяжка — проста яны запрасілі ў свой безыменны яшчэ калектыў старога прыяцеля. Каб не губляць каштоўны час на пошукі годнага вакаліста, тады ж вырашылі: пакуль што ім будзе адзін з гітарыстаў. Такім чынам быў сфарміраваны самы першы склад: Віктар Касцючэнка — гітара, Сяргей Надзежкін — вакал, гітара, Леанід Ляшчынскі — бас-гітара, Аляксандр Місючэнка — ударныя. Абавязкі гукааператара і менеджэра ўзяў на сябе Андрэй «Ангус» Піпко (запомніце гэтае імя!), вядомы фанат Ангуса Янга і гурта «ЭйСі/ДзіСі».

На першых сумесных рэпетыцыях была прыдумана назва нованароджанай групы — «Агонія», аднак з якасным выкананнем складаных трэш-кампазіцый справа ішла туга, і юныя рокеры зноў звярнуліся да старога добрага хэві-мэтала. За аснову дэбютнай праграмы ўзялі песні Сяргея Надзежкіна, напісаныя ім у войску.

Праз год ліхаманкавай працы, пры поўнай адсутнасці якаснай апаратуры і пастаяннага месца для рэпетыцый, «Агонія» ўпершыню з'яўляецца на сцэне ў час фестывалю «На Доўгім Бродзе — 88». Няцяжка здагадацца, што журы, якое традыцыйна складаецца з людзей, дужа далёкіх ад рок-музыкі, дало самую нізкую ацэнку творчасці гурта, хаця публіка была ў захапленні ад энергічных кампазіцый каманды.

Як выявілася, чыноўнікам ад культуры не даспадобы не толькі гурт, але і ягоны змрочны назоў, таму ўжо на фестывалі «Тры колеры» хлопцы выступілі пад новай назваю — «Тарнада», аднак не адмовіліся ад шорсткага хэві-мэталу. Дарэчы, тады вакалістам гурта стаў гукааператар, менеджэр і рок-паэт-пачатковец Андрэй «Ангус» Піпко. Натуральна, ён не меў ніякага паняцця аб асновах вакальнага майстэрства, і ад поўнага правалу гурт уратавала апаратура: за аглушальным грукатам барабанаў і скрыгатам самаробных калонак ніхто нічога не зразумеў. Аднак ужо праз некалькі месяцаў упартых заняткаў вакалам пад кіраўніцтвам вопытных педагогаў Ангус спяваў проста выдатна.

Тым не менш «Тарнада» ніхто не заўважыў і ніхто не збіраўся дапамагаць музыкантам. Што ж, гэта і ёсць тыпова савецкі падыход да рок-музыкі: галоўнае зрабіць выгляд, што хэві-мэтал у нас не забаронены, і паставіць «птушку» ў адпаведным дакуменце, а потым ужо можна карміць абяцаннямі музыкантаў ды іншых энтузіястаў... Так, напрыклад, партыйныя босы паспяшаліся заявіць пра адкрыццё ў Мінску рок-клуба, прайшло больш як 5 гадоў, але Уладзімір Зайчанка і ягонае дзіця пакуль існуюць без памяшкання, аб правядзенні ж якіх-небудзь рок-акцый марыць не прыходзіцца. Хіба патрэбны рок псеўда-бізнесменам? Да таго ж, ні сам Зайчанка, ні хто-небудзь з ягонай радні да партыйнай эліты дачынення не меў, у рэпрэсіях удзелу не браў, а гэта значыць, што любое ягонае пачынанне асуджана на правал, тым часам як ягоны калега Стас Намін, «які выйшаў з народа» і ператварыўся ў акулу шоу-бізнеса, на жыццё не жаліцца. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

У верасні 1989 года ў Мінску праходзіў фестываль «Нэкст-стоп Соўет» і «Тарнада» выступілі там у трохі абноўленым складзе: Віктар Касцючэнка — гітара, Сяргей Надзежкін — гітара, Андрэй Ангус Піпко — вакал, Генадзь Лаўнік — бас-гітара, Аляксандр Місючэнка — ударныя. Можна сказаць, гэта быў сапраўдны дэбют гурта, які запісаў на той час сваё першае дэма «Кніга чатырох царстваў». Затым хлопцы, у кампаніі з дацкімі рокерамі «Інасэнт блад», праехаліся па Беларусі з серыяй канцэртаў у рамках «Нэкст-стоп». Дацкія музыканты былі ўражаны тым, што «Тарнада» граюць трэш на самым высокім прафесійным узроўні, а калі ўлічыць факт, што «Інасэнт Блад» выступалі з легендарнымі «Антракс», то можна не сумнявацца ў іхняй кампетэнтнасці. Словам, «Тарнада» акрыялі.

Пераход групы ад хэві-мэтал да трэш быў абумоўлены тым, што музыканты «Тарнада» даўно зачараваныя музыкай такіх вядомых лідэраў як «Металіка», «Тэстамент» і «Антракс». Пачыналі «Тарнада» з чыстае капіроўкі, і ўрэшце выпрацавалі свой уласны стыль — своеасаблівы кактэйль з лёгкім прысмакам «Тэстамент», хаця ні пра якое запазычанне гаворкі і быць не можа.

У лістападзе 1989 года «Тарнада» былі запрошаны ў слаўны горад Магілёў на фестываль «Рок-з'езд». Не сакрэт, што вопыту правядзення такіх рок-акцый у нас у краіне няма, а ў Магілёве — і падаўна. Так што па прыбыцці на фестываль музыканты былі дужа здзіўлены процьмаю панкаў (высвятляецца, запрасілі на правінцыйны панк-сэйшн) і засмучаны наяўнасцю зноў жа відавочна самапальнай апаратуры найгоршае якасці...

Згадаўшы сваё гукааператарскае мі-

*Заканчэнне на стар. 29.*

# ШАЛІ (ВАГІ)

Над тымі, хто нарадзіўся пад гэтым знакам, апякуецца не толькі Венера, але трохі й Сатурн. Шалі належаць да знакаў паветра, адсюль і пэўная засмучанасць, але адначасова і адухоўленасць ягоных прадстаўнікоў. Рыса, што найдакладней акрэслівае Шалі,— гэта патрэба ў раўнавазе, справядлівасці і гармоніі. Духоўныя каштоўнасці Шалі ствараюць вакол сябе і несупынна шукаюць у іншых.

Шалі таксама з'яўляюцца знакам жывога и незалежнага розуму. Венера, якой без дай прычыны большасць людзей прыпісвае дабрачынны ўплыў, прымушае сваіх падапечных паводзіць сябе, як дзеці, якіх песцяць бацькі, з чаго вынікае інфантыльны лад жыцця, няўменне адольваць перашкоды, пэўны эгацэнтрызм, нават эгаізм. Шалі ўсё ж поўняцца добраю воляю і зычлівасцю, а іх умеркаваныя паводзіны сустракаюць прыхільнасць у грамадстве.

Наколькі Баран — гэта тып непапраўнага піянера, настолькі ж Шалі — тып элегантнага, рафінаванага дэкадэнта, іх стамляюць намаганні, а перашкоды абязвольваюць. Шалі ў жыцці перш за ўсё прагнуць гармоніі і спакою, адсюль уменне і жаданне ледзь не ва ўсім ісці на кампрамісы, надзвычайная талерантнасць, уменне выбачаць і лёгка забывацца на крыўды. Другая асноўная рыса Шаляў, на гэты раз адмоўная,— няўменне хутка арыентавацца ў новых сітуацыях, запозненасць рашэнняў, гэта ўсё прыгнятае іх псіхіку, стварае комплексы. Аднак з тых Шаляў, хто няспынна працуе над сабою, могуць стацца выдатныя стратэгі, бо яны ніколі не прымуць паспешлівага, неразважнага рашэння.

Зазвычай Шалі не вылучаюцца прадпрымальнасцю і энергічнасцю. Ім не хапае змагарскага напалу, яны ўпарта ахоўваюць свой спакой усімі магчымымі сродкамі. Шалі заўсёды маюць цяжкасці з мабілізацыяй волі для дасягнення пэўнае мэты і зазвычай жывуць па інерцыі. Затое іхнія думкі заўсёды вольныя ад штампаў і дагматызму, яны поўняцца арыгінальнымі творчымі задумамі і намерамі, якія разважна здзяйсняюць, пры неабходнасці адмаўляюцца ад невыканальных. Людзі з-пад гэтага знаку не створаны для ролі кіраўніка, але карыстаюцца аўтарытэтам, умела ладзяць свае адносіны з калегамі па працы і вучобе, суседзямі. Яны вельмі пачцівыя, лёгка адаптуюцца ў кожнае кампаніі і з'яўляюцца ідэальнымі сябрамі.

Са стратамі для прафесійнае творчасці Шалі імкнуцца паспытаць усе магчымыя задавальненні жыцця, як фізічныя, так і духоўныя. Класічныя Шалі ніколі не перапрацоўваюцца. Шалі эстэты і ласуны. Раскашуюцца ў прыгожым атачэнні, якое складаецца з твораў мастацтва, рафінаваных мараў і ўяўленняў, таксама яны знаходзяць задавальненне ў інтэлектуальнай працы, з ахвотаю асвойваюць тыя прафесіі, дзе патрабуюцца эстэцкі густ, уменне займаць публіку, мастацкія здольнасці — прафесіі цырульнікаў, мадэльераў, садоўнікаў, літаратараў, афіцыянтаў, артыстаў. Іхні поспех шмат у чым залежыць ад знешніх абставінаў — збольшага выпадковы. Яны не зносяць брутальных паводзінаў у побыце, кепскага таварыства, канфліктаў, бо не ўмеюць бараніцца перад ліхам. Бываюць, зрэшты, і іншыя Шалі — амбітныя і нават ваяўнічыя. Усё залежыць ад таго, ці ўплывае на іх Марс.

У фінансавых справах Шалі — людзі, вартыя даверу, толькі што не любяць самі імі займацца. Але і нястача — не іхняя доля. Увесь час трымаюць у раўнавазе выдаткі з прыбыткамі, наколькі б малымі ці вялікімі ні былі сумы. У выпадку спрыяльнага размяшчэння Венеры ім шанцуе ў спекуляцыях, азартных гульнях, латэрэях, надараюцца вялікія спадчыны.

Шалі маюць цалкам някепскае здароўе і дажываюць да паважнага ўзросту, калі ім шчасціць пазбегнуць у жыцці эксцэсаў. Аднак церпяць часам на мітрэнгу і парушэнні кровазвароту, мусяць займацца няцяжкім спортам і прымаць лёгкі масаж. Каб не парушаць баланс вадкасці ў сваім арганізме, мусяць кантраляваць колькасць спажывання солі, піць шмат вады, пазбягаць кіслага, а таксама сцерагчыся алкаголю і рэзкіх перападаў тэмпературы. І галоўнае — асцярожна абыходзіцца з лекамі, якія ўплываюць на натуральны абмен рэчываў у арганізме.

Шалі чулыя, уразлівыя і вельмі сентыментальныя. Шалі-жанчыны — прыроджаныя спакушальніцы. Іхні лад жыцця поўны далікатнасці і прыгажосці, памяркоўнасці і талерантнасці — гэта як запрашэнне да флірту, ненавязлівае, але пэўнае. Яны прагнуць і ўмеюць падабацца. Гэтая акалічнасць далёка не апошняя ў падтрымцы іхняе душэўнае раўнавагі. У паводзінах перадусім кіруюцца пачуццямі, якія злучаюць іх перакананні з рэаліямі свету. Адчуваюць вялікую патрэбу ў эстэтычных перажываннях, што, на жаль, робіцца для іх нярэдка прычынаю незваротных учынкаў. Яны наогул павінны быць вельмі разважнымі пры выбары партнёра, што, зрэшты, і робяць, доўга ўзважваючы магчымыя «за» і «супраць».

Мужчыны з-пад гэтага знаку ані брутальныя, ані залішне прадпрымальныя ў каханні. Мужчына-Шалі — залётнік, поўны галантнасці і такту. Нягледзячы на тое, што яму адкажуць поўнаю згодаю, ён працягвае захоўваць у адносінах пэўную дыстанцыю, саступае перад найдрабнейшымі праявамі супраціўлення. Бывае, што нават чакае з боку партнёркі пачуццёвых авансаў. Не ўмее кіраваць жанчынамі і лёгка трапляе пад іх уплыў. У адносінах да каханкі прамяніцца папераджальнасцю і добраю воляю, прагне дзяліць з ёю не толькі секс, але і захапленні, упадабанні, настроі, імкнецца да татальнага адзінства з ёю і гатовы саступіць нават у прынцыповых рэчах для агульнае карысці. Ад каханкі чакае мілай вернасці, падтрымкі і ўзнёсласці. Любіць адчуваць кабету поруч. Менавіта размяшчэнне Вадалея адносна гэтага знаку прымушае мужчынаў-Шалі аддаваць перавагу партнёркам запамінальным, эксцэнтрычным. Вельмі шмат чаго ў іхнім жыцці вырашаюць кабеты, з якімі яны звязаны. Няўдачы ў каханні выбіваюць іх з каляіны, затое жыватворны ўплыў узаемнага кахання спрыяе развіццю кар'еры.

Пачуцці ў мужчынаў з-пад гэтага знаку дасягаюць экстрэмуму ва ўмовах легальнасці, таму ідэальная форма пачуццёвае завершанасці для Шаляў — шлюб. Калі мужчыны-Шалі лічацца трохі жаноцкімі, то ўжо жанчыны з-пад гэтага знаку — агульнапрызнаная дасканаласць, яны прыстасоўваюцца да сваіх каханкаў, сыходзячы з агульнае карысці. Часам у сваёй адданасці партнёру яны мазахістычна адмаўляюцца ад свайго «я», трапляюць у пачуццёвую няволю, праўда, знаходзяцца ў гэтае ролі датуль, покуль адчуваюць, што іх кахаюць. Магчымасць расстання для жанчыны-Шаляў — жахлівая пагроза. Але тут Шалі дэманструюць спецыфічную «пачуццёвую жывёльнасць» — даюць сабе рады і ў гэтым выпадку: неўзабаве забываюцца на паражэнне і даюць увесці сябе ў зман новай надзеі.

Уплыў Венеры, змазаны трохі Сатурнам, фармуе ў Шаляў дасціпны розум, асабістыя фізічныя перавагі, нелюбоў да працы, пачуццёвасць, лагоднасць, спагадлівасць, міласэрнасць, рэалізм, разуменне прыгожага, уменне аб'ядноўваць.

Дысанансны ж уплыў гэтых планет фармуе адмоўныя рысы характару: гнюснасць, навязлівы эгаізм, непрыстасаванасць да рэалій жыцця, нервовую звышузбуджальнасць, схільнасць да працяглае і бессэнсоўнае зласлівасці, дэградацыю як маральную, так і грамадскую.

**ЗНАКАМІТЫЯ ЛЮДЗІ, НАРОДЖАНЫЯ ПАД ГЭТЫМ ЗНАКАМ:**

**Ферэнц Ліст — 22 кастрычніка 1811 г.**
**Фрыдрых Нітцшэ — 15 кастрычніка 1844 г.**
**Сара Бернар — 22 кастрычніка 1845 г.**
**Уільям Фолкнер — 25 верасня 1897 г.**
**Джон Ленан — 9 кастрычніка 1940 г.**
**Брыджыт Бардо — 28 верасня 1935 г.**
**Марчэла Мастраяні — 28 верасня 1924 г.**
**Махатма Гандзі — 2 кастрычніка 1869 г.**

**Планета-апякун — Венера**
**Стравы — рыс, малочныя вырабы**
**Напой — піва, віно, каньяк**
**Дрэва — піхта**
**Кветкі — палявыя**
**Камень — пярліна.**




**Мал. Эрнста МАРЦІНЕС-САКАЛОЎСКАГА**



хард-рок, хаця, шчыра кажучы, я не бачу вялікай розніцы паміж гэтым жанрам і хэві-мэтал. Калі нам падабаецца музыка і мы не знаходзім у тэкстах нічога правакацыйнага, то я гатовы выпускаць нават відавочна камерцыйныя опусы. Да таго ж, замыкацца на чымсьці адным досыць нудна, і мы вядзём пастаянны пошук. Так, прыкладна год назад мы выпадкова пачулі запісы амерыканскай трэш-групы «Abomination» і вырашылі заключыць з хлопцамі доўгатэрміновы кантракт. Марцін тэрмінова вылецеў у ЗША і высветліў, што двое музыкантаў гэтай групы раней гралі ў групе «Master». Гэта дужа ўразіла мяне: «Master» распаліся, так і не выпусціўшы ніводнай пласцінкі, але цікавасць да групы не прапала, і мы, пачаўшы працаваць з «Abomination», падумалі пра адраджэнне «Master». Мы не робім сакрэту, што гэта звычайны камерцыйны ход, аднак ён удаўся, і гастролі 1990 года былі трыумфальныя.

Зрэшты, звышпрыбытак для нас — зусім не галоўная задача. Наша мэта — дапамагаць невядомым гуртам і распаўсюджваць іхнія запісы. Так, напрыклад, мы ўбачылі аўстрыйскую дэс-мэтал групу «Puncent Stench» у час сумеснага канцэрту з «Disharmonic Orchestra», і іхняя музыка нам вельмі спадабалася. Пасля шоу я прапанаваў «Pungent Stench» падпісаць кантракт на 3 альбомы, і цяпер іхні дэбютны опус «For Cod Your Soul» вельмі папулярны. Можа, гэта гучыць не надта сціпла, але мы даём групам шанц. Дастаткова разгарнуць любы хэві-мэтал часопіс, каб пераканацца ў тым, што групы, якія мы апякуем, атрымліваюць вышэйшыя адзнакі крытыкі. Зрэшты, большасць крытыкаў — самыя сапраўдныя цынікі, і нявартa прыслухоўвацца да іхняй думкі. У маёй фірмы даўно ёсць свая аўдыторыя, і больш за ўсё я давяраю лістам нашых пастаянных пакупнікоў, але вось ужо некалькі гадоў запар і крытыкі, і простыя слухачы аднадушныя ў ацэнцы нашай працы. Гэта так рэдка бывае!

Увесну 1990 года мы пайшлі на вялікую рызыку: выпусцілі альбом групы «Benediction» («Subconscious Terror»), у якой спявае сам Барні — галоўны вакаліст не менш вядомай групы «Napalm Death». Рызыка была ў тым, што ніхто не быў упэўнены ў поспеху гэтага праекта; спяваць у дзвюх групах, якія маюць кантракты з рознымі фірмамі, вельмі складана. Напрыклад, мы не маглі выпускаць альбом «Benediction» да выхаду чарговага альбома «Napalm Death», каб пазбегнуць сканадалу з «Earache Records», і ўрэшце рэшт не маглі планаваць чарговыя гастролі... Самае дзіўнае: музыканты «Berediction» і «Napalm Death» былі зусім спакойныя і толькі перамовы з калегамі з фірмы «Earache» паставілі ўсё на свае месцы. Дыгбі Пірсан, які ўзначальвае «Earache», прапанаваў сваю падтрымку ў распаўсюджванні пласцінак «Benediction», а мы згадзіліся распаўсюджваць альбомы «Napalm Death» і «Morbid Angel».

Пасля фенаменальнага поспеху першага альбома «Abomination» цяжка было чакаць нечага падобнага ад дэбюту «Benediction», але здарылася менавіта так! Не думаю, што ўвесь сакрэт у вакальным таленце Барні, аднак менавіта пасля з'яўлення альбома «Subconsciou Terror» фірма атрымала найбольшую колькасць заявак на нашы дэс-мэтал і грайнд запісы. Усе мы былі шакіраваны патокам лістоў з СССР, у якіх пастаянна згадваліся «Benediction»! Цяпер мы яшчэ не прадаём сваю прадукцыю ў некаторыя экзатычныя краіны, хоць плануем асваенне таямнічага рускага рынку. Дарэчы, 1991 год мы адзначылі выпускам альбомаў савецкай панк-групы «Pogo» пад назваю «From Moscow With Love!». Гэта пакуль што адзіная руская група, якая мае кантракт з «Nuclear Blast», і да студзеня 1992 года мы не можам запісаць некалькі савецкіх груп, якія зацікавілі нас. Да канца гэтага года будуць выпушчаны новыя альбомы «Abomination», «Pungent Stench», «Dismember», «Benediction» і іншых гуртоў. Нядаўна мы адкрылі філіял фірмы ў ЗША — «Nuclear Blast America» і плануем турнэ «Benediction», «Massacra», «Dismember» і «Morbid Angel», фестывалі ў Польшчы і Венгрыі.

Хацелася б сказаць пра дэма-запісы трох савецкіх трэш-груп, якія паступілі да нас у канцы красавіка. Мы здзівіліся: якасць запісаў была выдатная, але, шчыра кажучы, практычна ўвесь матэрыял не такі цікавы... Я маю на ўвазе дэма- трох гуртоў — «Карозіі металу» і «Hellraiser» з Масквы і «Тарнада» з Мінска. На жаль, адзіная сапраўды цікавая, на нашую думку, група — «Тарнада» — прыслала толькі дзве кампазіцыі, але яны нам вельмі спадабаліся. Цудоўная музыка! Мы не супраць таго, каб выпусціць альбом «Тарнада», але не раней за студзень-люты 1992 года. Адносна «Карозіі металу» можна сказаць наступнае: некаторыя моманты радуюць, аднак пакуль гэта толькі татальнае капіраванне «Metallica» і «Slayer». Група «Hellraiser» хутчэй выконвае хэві-мэтал, чым трэш, але нам блізкі іхні падыход да музыкі, і мы падумваем пра супрацоўніцтва з імі.

Мы можам прапанаваць звыш 1200 хард-рок, дэс-мэтал і грайнд-рок пласцінак, касет, кампакт-дыскаў, сінглаў, маек. Пакуль што ўся прадукцыя даступная толькі за долары і нямецкія маркі, але... магчымы варыянты. Не выключана, што досыць хутка ў СССР адкрыецца наш філіял. Пажывём — пабачым.

На заканчэнне я хацеў бы нагадаць, што «Nuclear Blast» — гэта заўсёды высокая якасць прадукцыі, выдатная прафесійная арганізацыя рэкламы і канцэртаў, а таксама пастаянны клопат аб сваіх верных шматлікіх прыхільніках.

**Герман БАБКІН**



# Філ КОЛІНЗ: «З «ДЖЭНЭЗІС» НАЗАЎСЁДЫ»

Вакаліст і барабаншчык, кампазітар і акцёр, прадзюсер і аранжыроўшчык, Філ Колінз пачынаў сваю кар'еру як артыст на дробных ролях. Але яшчэ ў дзяцінстве, убачыўшы ўдарную ўстаноўку, ён усё вырашыў для сябе і да чатырнаццаці гадоў асвоіў гэты інструмент.

Філава маці — Джун Колінз, выкладчыца Каралеўскай акадэміі мастацтваў, марыла, каб сын стаў акцёрам, але, нягледзячы на рост ягонай акцёрскай папулярнасці, у шаснаццаць гадоў Філ пакідае акадэмію і пачынае спрабаваць сябе ў розных гуртах,такіх як «Флэмінг Ют», і нават быў запрошаны Харысанам на запіс альбома «Усё ў гэтым жыцці праходзіць», але, зразумеўшы, што гэта не ягоная музыка, адмаўляецца.

Прачытаўшы ў 1970 годзе аб'яву, што гурту «Джэнэзіс» патрэбны барабаншчык, Колінз прыйшоў на праслухоўванне і застаўся ў групе. Але раскрыць свой талент ён змог толькі пасля таго, як з гурта пайшоў вакаліст Пітэр Габрыэль. Застаўшыся ўдарнікам, Колінз стаў яшчэ і вакалістам.

У 1977 годзе гурт пакідае Стаў Хэкэт, і «Джэнэзіс» становіцца трыо. Гэта Тоні Бэнкс — клавішныя, Майк Рэзерфорд — бас і Філ Колінз — ударныя, вакал. У наступным годзе выходзіць іхні новы альбом — «Нас засталося трое». Ен стаў першым залатым дыскам групы.

Тады ж Філ разводзіцца з жонкаю, ператварае свой дом у студыю гуказапісу і выпускае першы сольны альбом «Намінальны кошт» (1981), зрабіўшы яго літаральна за два дні.

Прыкладна з 80-га года трохі мяняецца манера выканання «Джэнэзіс». Магчыма, на гэта паўплываў адыход Пітэра Габрыэля, магчыма, і асабістыя перажыванні Колінза, але з гэтага часу музыканты эксперыментуюць з «новай хваляю», фанкам, рэгі, і відавочным лідэрам гурта становіцца Філ Колінз.

У песнях сольных альбомаў Колінз часта закранае праблемы расавай дыскрымінацыі, прыцягвае да працы чорных музыкантаў, выкарыстоўвае чорны блюз, запрашае духавую секцыю групы «Зямля, вецер, агонь», якая і пасля дапамагае выпускаць яму сольныя альбомы.

Колінза часта запрашаюць на запіс сваіх праграм. Вось толькі некалькі гуртоў і выканаўцаў, з якімі ён запісваўся: «Эржэнт», Браян Іна, «Роберт Фрып», «Руперт Хайн», «Нова», «Сін Лізі», «Тэарс фо феарс»... Гэты спіс можна працягваць, ён расце з кожным годам і гэта, пэўна, не выпадкова. У Колінза багата сапраўдных сяброў, чыя прыязнасць вельмі яму дарагая,— Эрык Клэптан, Стынг, Роберт Плант. І ён заўсёды гатовы дапамагчы і падтрымаць сяброў у цяжкую хвіліну.

Яшчэ ў 1975 годзе Колінз спрыяў стварэнню інструментальнага ансамбля «Брэнд Ікс», які выпусціў сем альбомаў і стаў адным з самых цікавых джаз-рокавых гуртаў Англіі.

За апошнія гады Філ Колінз не раз атрымліваў розныя ўзнагароды. У 1981 годзе за першы сольны альбом — прэмія «Грэмі», якая ўручаецца за лепшы альбом года. У 1982— за другі сольны альбом, названы «Я не павінен стаяць на месцы», і за наступны — «Фрачная - пара не спатрэбілася» — прэмія «Грэмі». Назва апошняга, дарэчы, была звязана з выпускам першага альбома. Атрымаўшы запрашэнне на цырымонію ўручэння прыза «Грэмі», Філ набыў фрачную пару, але ў дзень уручэння пачаліся розныя прыгоды: згубіў ключ ад машыны, не прыехала таксоўка, каля ўваходу ў залу Колінза не прапусцілі службоўцы бяспекі, а калі ўжо ён трапіў нарэшце ў хол з дапамогаю Планта, дык яго не пазналі рэпарцёры...

Альбом 1985 года на працягу двух гадоў трымаецца ў верхняй частцы хіт-парадаў.

Апошні дыск выйшаў у 1989 годзе — «...Але сур'ёзны». «Назва пласцінак заўсёды давалася мне з вялікай цяжкасцю, бо даць імя дыску — гэта ўсё роўна што назваць дзіця: пад гэтым імем пройдзе ўсё ягонае «жыццё»,— кажа Філ Колінз. Таму ў доме Філа стаяла спецыяльная скрыня, куды госці складвалі прапановы аб назве чарговага альбома.

Філ Колінз вядомы яшчэ і як артыст. Ен сыграў галоўную ролю ў фільме «Бэстэр», які расказвае пра аграбленне паштовага цягніка ў Англіі ў 60-х гадах.

Запіс сольных альбомаў, здымкі ў фільме, удзел у запісе іншых выканаўцаў,— усё гэта займае значнае месца ў творчасці Філа Колінза, «...але «Джэнэзіс» я ніколі не пакіну. У ім увесь я, маё юнацтва, і сталасць, мая любоў і нянавісць»,— адказвае ён на пытанні журналістаў.

Ганс СКІРЭЦКІ

# ЯК СЯРЖАНТ ВЕБСТЭР



# СТАЎ ДАНТЫСТАМ

## АПАВЯДАННЕ

— Ужо трэці за тры тыдні,— прабурчэў шэф і кінуў мне цераз стол стос папер.— Пацікаўцеся гэтай справай, сяржант.

Я пазяхнуў і пачаў паволі скусваць завусеніцы з пазногця.

— Гэта загад,— строга сказаў шэф. Я прыняў ногі са стала, зашпіліўся на ўсе гузікі і падцягнуў гальштук аж да кадыка.

— Слухаюся, шэф.

Потым я пайшоў у бар і, запатрабаваўшы сабе вялікае віскі, зашыўся ў кут і перагледзеў тыя паперы. Гэта былі тры заявы аб прапажы, усе трое былі зубныя ўрачы, з чатырох наяўных у горадзе. Цяжка было ўцяміць, чаму шэф адразу даручыў справу менавіта мне, звычайна за мяне хапаліся, калі яе безнадзейна заблытваў нехта іншы. «Вебстэр наша палачка-выручалачка»,— казаў шэф.

Я ўзяў яшчэ адно віскі і пачаў абыходзіць усіх зніклых па чарзе. Першы быў доктар Грэй. На дзвярах чакальні вісела шыльдачка «Прабачце, зараз не прымаем», аднак яны былі незамкнёныя, і я прайшоў у пакой, з якога яшчэ не выветрыўся цяжкі пах тыміяну, уладкаваўся там на зялёнай плюшавай канапцы, пагартаў ад няма чаго рабіць стос зацухмоленых часопісаў, падзівіўся на магутны фікус у кутку. Ніхто не з'яўляўся, і тады я моцна чхнуў разоў колькі — мусіць жа тут нехта быць, калі ўжо незамкнёна.

У пакой увайшла бялявая асістэнтка. Яна далікатна растуліла размаляваныя губкі і мілагучна прамовіла:

— Вы што, чытаць не ўмееце?

— Гляньце сюды, калі ў вас ёсць вочы,— сказаў я і паказаў ёй сваю паліцэйскую памету. Але ад яе я нічога не даведаўся, бо яна ў той дзень была выхадная. Я распытаў яшчэ пра ворагаў доктара, пра тое, ці былі якія пагрозы ў пошце і па тэлефоне, і мусіў пайсці, так нічога і не дазнаўшыся.

На дзвярах у доктара Бэрбэроў вісела такая ж шыльда, і я мусіў ладнавата пачакаць ля ўваходу, пакуль мне адчыняць. Адчыніла жонка доктара, ужо даволі стараватая жанчына. Яна вельмі ўважліва агледзела маю памету, толькі што на зуб не паспытала, але ўрэшце пусціла ў пакой. Там яна адразу ж прапанавала мне каву. Вядома, віскі мне было б больш даспадобы, але ў доме быў толькі арэхавы лікёр. Яна давяла мне, што доктар не адзін год круціў амуры з нейкай удавой Болдзінгер, і яна проста ўпэўнена зараз, што палюбоўнікі разам некуды з'ехалі.

— Дайце хоць нейкі доказ,— сказаў я.

Але гэта было толькі падазрэнне, доказаў ніякіх, бо ў той дзень яны з сяброўкай паехалі за горад і там

зусім выпадкова натрапілі на рэстаранчык, дзе гатуюць непаўторную свіную смажаніну, але адрас той яна мне ніколі не дасць, а самому мне ніўжысць не дазнацца, хоць я і крыміналіст.

На развітанне я спытаў у яе, ці доўга яна вядзе гаспадарку ў доктара Бэрбэроў.

Жонка доктара Шэтлфілда ўжо чакала мяне ў дзвярах гасцёўні.

— Фрау Бэрбэроў тэлефанавала мне,— паведаміла яна,— і мне вельмі прыемна пазнаёміцца з такім славутым дэтэктывам як вы.

— О'кэй,— сказаў я.

Яна правяла меня ў пакой.

— Хочаце віскі?

— Так,— адказаў я. Пагледзеў на яе і бачу, што я тут якраз на месцы, па-за службай, як кажуць.

Яна прысела побач на ўскрайчык крэсла і давяла мне, што ёй урэшце ўсё роўна, знайду я яе мужа ці не, і што зараз я ёй значна бліжэй, чым муж.

Калі яна апранулася, я пачаў нарэшце з роспытамі:

— Калі вы бачылі мужа апошні раз?

— Вы, вы,— пакрыўдзілася яна.— Зашпілі ж урэшце!

Я зашпіліў ёй кручок на ліфчыку.

— Учора пасля абеду,— адказала яна,— недзе а палове пятай. Бо да таго ж я ў яго асістую. Спачатку пяць год была за асістэнтку, потым пяць тыдняў за жонку, а пасля і тое і другое разам. Але пераважна перщае.

— Так,— сказаў я.— Але далей, калі ласка.

Яна распавяла, што кліентаў тады было не прабіцца, і недзе а палове пятай падышла чарга нейкаму панураму, тоўстаму мужчыне, яна правяла яго ў працэдурны пакой, і доктар — яна чамусьці заўсёды казала доктар, а не муж,— выправіў яе з працэдуркі, і яны там доўга пра нешта шапталіся. А яна пайшла ў бакоўку за працэдуркай і наважылася тым часам зрабіць сабе манікюр. Лак ужо даўно застыў, але доктар усё не клікаў яе, і яна выйшла сама. У працэдурцы нікога не было. Нейкіх адметных гукаў за гэты час яна таксама не чула, да таго ж у пакоі працавала радыё. У чарзе ёй сказалі, што доктар нікуды не выходзіў, выйшаў толькі той пануры, і ім усім кінулася ў вочы, што ён усё аблізваўся і страшэнна соп. Проста розуму было не прыкласці, дзе ён мог загубіцца, бо выхады з працэдуркі толькі два: адзін у чакальню, другі — да яе, у бакоўку. Агледзела пад шафай, пад крэслам, але нідзе аніякага знаку, і яна мусіла сказаць кліентам, што доктар моцна перапрацаваўся і зараз кепска чуецца, няхай панове прыходзяць заўтра.

— А вакно? — спытаў я.

— З кратамі.

— Але ж прозвішча ты занатавала?

— Чыё?

— Таго тлустага.

— Так,— яна пагладзіла мяне па валасах, выйшла у чакальню і вярнулася з тоўстым рэгістрацыйным журналам. Апошні запіс быў «Эндру Шатэрбі, Моан Авеню, 1». Я адразу ж патэлефанаваў у пастарунак, і калегі адказалі мне, што дом 1 на Моан Авеню знеслі колькі тыдняў таму, і запыталіся, ці не зрабіў я сабе ўжо залатыя каронкі на ўсе трыццаць два зубы.

Я плюхнуў сабе яшчэ трохі віскі, і мы з фрау Шэтлфілд уважліва агледзелі чакальню, працэдурку, бакоўку за ёй, і яна расказала мне на месцы яшчэ раз, як што было. Потым я сказаў, што мне ўжо час ісці, і яна абняла мяне ды склала рот коўшыкам для пацалунка. Мне захацелася сказаць ёй нешта пяшчотнае, але я ляпнуў, як палкай па гарлачу:

— Праз пару дзён твой муж будзе на месцы.

Яна выпусціла мяне з абдымкаў і прамовіла, што калі яго ўсё ж не будзе, то каб я заходзіў, а калі будзе, то каб заходзіў таксама. Яна проста ў захапленні,



што пераспала з сапраўдным камісарам паліцыі.

— Я ўсяго толькі сяржант,— паправіў я яе і пацалаваў на развітанне дзесьці за вухам.

Пасля пятага віскі ў заплёванай забягалаўцы О'Шэнона мне, як кажуць, цюкнула. Я вычхаў з сябе пяць галонаў цыгарэтнага дыму, заплаціў і пайшоў.

Пайшоў да доктара Моргана, апошняга зубнога ўрача ў горадзе. Зразумела, у чакальні тоўпілася цэлая сціжма народу, і ўсе яны пагрозліва забурчэлі, калі я з ходу пачаў заляцацца да гожай асістэнткі, меў пэўны поспех і прайшоў у працэдурны пакой па-за чаргою.

— Пачакайце хвілінку,— сказаў мне доктар Морган. Ён быў яшчэ мажнейшы, чым я чакаў. Магутныя напластаванні тлушчу дрыжэлі і калаціліся пры кожным кроку. І яшчэ — яму аж сківіцы зводзіла ад сквапнасці. Ён толькі і глядзеў, як найхутчэй выправіць мяне з пакоя і зноў прыняцца за справу. Нічога, маўляў, не ведаю, ворагаў няма, і не баюся анікога. Я абышоў вакол яго яшчэ раз і ўрэшце паверыў.

Наступнай раніцай я завітаў да шэфа. Кінуўшы позірк на выраз майго твару, ён зноў схаваў віскі ў шуфляду і выявіў на сваім твары нешта такое непрыступна-начальніцкае, што і прывычнаму чалавеку не па сабе. Нібы ты мазурык нейкі, а не сяржант паліцыі. Але я і вокам не зміргнуў.

— Ганьба, але што зробіш,— прамовіў я.— Не справа, а несамавітае нешта, і зачэпкі ну аніводнай, нават самай маленечкай.

Ён зноў пацягнуўся да шуфляды, у якой стаяла бутэлька, і твар яго выявіў нешта нашкалт: «І што ён тут брэша, гэты Вебстэр». Але я напусціў на сябе як мага больш журбы і сказаў, што тут я, на жаль, поўны банкрут, і да таго ж ушчэнт расчараваўся ў сабе і ў сваіх здольнасцях, і таму неадкладна пішу на звальненне.

Мы пагадзіліся на шасці тыднях аплочанага адпачынку.

— І абяцайце ж мне, што ў горадзе не знікне больш ні адзін дантыст,— наіўна запатрабаваў ён, хітаючы ў мяне перад носам сваім тлустым указальным пальцам. На пальцы шчытна сядзеў залаты пярсцёнак з танным каменьчыкам. Так ужо мне абрыдзеў гэты пярсцёнак пад час сумеснай работы.

— Яшчэ адзін, на крайні выпадак.— Я заўважыў, што твар у шэфа паволі выцягваецца, і зразумеў, што трохі перагнуў, але працягваў сабе далей, як быццам нічога сур'ёзнага не сказаўшы:

— Вядома, калі меркаваць, што злачынца таксама зубны ўрач. І тады яго схопяць жалезныя сківіцы закона...— І засмяяўся, спадзеючыся, што ўсё неяк сыдзе.

Шэф кісла выціснуў з сябе нейкае падабенства ўсмешкі, аднак бутэльку з шуфляды ўсё ж дастаў, і мы кульнулі разок. А пасля яшчэ раз.

Наступныя колькі тыдняў я не ўзяў у рот ні кроплі. Я чытаў.

Чытаў дантысцкія дапаможнікі.

Акрамя таго, я ўзяў у бібліятэцы ўсе часопісы на гэтую тэму за апошнія дзесяць год. І яшчэ праглядаў у мясцовых газетах аб'явы. Дні праз тры-чатыры я заходзіў да фрау Шэтлфілд і суцяшаў яе як мог. З прычыны знікнення мужа, калі вы так хочаце.

Аднойчы пад вечар з'явіўся шэф. Я хуценька ссунуў дапаможнікі пад ложак і сустрэў яго з страшэнна заклапочанай мінаю. Ён суцяшаў мяне як мог, такія ўжо чуллівыя словы знаходзіў пра цяжкасці і нягоды рыцараў крымінальнага вышуку, але калі за дзесяць мінут прамовы так і не ўбачыў перад сабою віскі, ён устаў, паляпаў мяне за плячы і сказаў:

— Вебстэр, вы наша надзея, вы зробіце гэта ўрэшце.

— Спадзяюся на тое,— адказаў я як мага больш прыгнечана.

На пятым тыдні адпачынку я знайшоў у раздзеле аб'яваў у «Кронікл» кароценькую нататку: «Маю гонар давесці наступным да шаноўнага панства, што пачынаю сваю дантысцкую практыку па Лемон Стрыт, 13, і спадзяюся на вашыя добразычлівасць і давер. Мой дэвіз: твой зуб — мой зуб. Праф. доктар Дж. Л. Н. Браун.»

Усе патрэбныя паперы і грым у мяне ўжо былі. Нездарма ж я столькі год праслужыў у паліцыі!

Аб'ява біла проста на публіку.

Асістэнткаю я запрасіў фрау Шэтлфілд. І ў гэтай якасці яна была якраз тое, што трэба. І да таго ж проста памірала ад цікаўнасці. Людзі валілі валам. Ад нявопытнасці і хвалявання ў мяне страшэнна дрыжэлі рукі, але я цвёрда памятаў з кніжак, што пацыентам мусіць балець, і таму не вельмі ўжо і зважаў, як яны там курчыліся. Многа каго я ўбачыў у сябе на прыёме толькі адзін раз: яны, пэўна, ішлі далечвацца да доктара Моргана. Вось той і папрацаваў, відаць!

А зараз, наогул, нам няма на што наракаць. Нам — гэта Шэеле і мне, маю на ўвазе Шэелу Шэтлфілд. Справы ідуць цудоўна, у нас добрая рэпутацыя і досыць вялікая практыка, толькі кіламетраў на дзвесце далей на захад.

Нешта я наперад забег. Прабачце.

Доктар Морган, ён жа Шатэрбі, прыйшоў ужо на трэці дзень. Я міргнуў Шэеле, якую ён не пазнаў, і яна, усміхнуўшыся, хуценька выйшла з пакоя. Ён разваліўся ў крэсле і шырока разявіў сваю смярдзючую пашчу.

Я ведаў, у чым справа, і трымаўся напагатове. Дыягназ яму я ставіў, можна сказаць, з адлегласці, і не падыходзіў бліжэй, чым на паўтара метра. Пахваліў вострыя разцы і сказаў, што яму, пэўна, баліць жывот.

— Чаму? — зацікавіўся ён.

— Ад хранічнай антрапафагіі,— адказаў я,— са страўніка так і тхне.

— Цікава,— сказаў ён,— а што такое антрапафагія?

— Канібалізм,— спакойна, быццам так і належыць, адказаў я.

Ён збялеў, страшэнна аблізнуўся, вочы ў яго наліліся хваравітай чырванню, пальцы сутаргава сціснулі падлакотнікі крэсла. Выгляд у яго тады быў, шчыра кажучы, даволі неапетытны.

Шанцы ў нас былі роўныя. Ён або я. У мяне выключныя сківіцы і такая ж вытрымка, у яго вялікі ўжо вопыт.

Шэела прынесла колькі трэба вады і віскі.

Я ўжо казаў, здаецца, справы ў нас ідуць цудоўна. Толькі Шэела такая пацешная. Не дазваляе больш цалавацца.

З нямецкай пераклаў
**В. РУСЕЦКІ.**

# ДЭЦЫБЕЛАВЫ УРАГАН «ТАРНАДА»

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 21.*

нулае, Андрэй «Ангус» некалькі гадзін запар бегаў паміж сцэнаю і мікшэрскім пультам. У выніку ён дабіўся прыстойнага гучання і... тут з хлопцамі з «Тарнада» здарылася трохі непрыемная вясёлая гісторыя: перад самым выхадам на арэну, калі гурт ужо аб'явілі і нервы ва ўсіх пяці музыкантаў былі на грані зрыву, замест «Тарнада» ля мікрафона з'явіўся нейкі дзіўны суб'ект і пачаў нешта гаварыць зале! Абураны Андрэй «Ангус» Піпко вырашыў асадзіць нахабу, выбег на сцэну і, забыўшыся на ўсё, паказаў аратару правільны маршрут з выкарыстаннем некаторых ідыёматычных выразаў, якімі такая багатая расейская мова!.. Зала ўсё правільна зразумела і зарагатала, а калі згадаць, што гэта быў панкфестываль, то ўсе прынялі здарэнне за жарт.

Як высветлілася потым, няпрошаным аратарам быў сам Аляксей Старыкаў, рок-крытык з горада на Няве, чалавек шырока вядомы і ўплывовы ў пэўных колах. Ён не перанёс публічнае абразы, і таму «Тарнада» вярнуліся ў родны Мінск без прызоў... Што ж, гэты факт сведчыць аб поўнай адсутнасці пачуцця гумару ў піцерскіх рокераў.

Пасля вяртання з Магілёва «Тарнада» прыступілі да запісу 30-хвіліннага міні-альбома з 4 кампазіцый. Якасць запісанага матэрыялу была забракавана самімі музыкантамі, і стужка папоўніла архіў гурта. А яшчэ хлопцы вырашылі падшукаць новага барабаншчыка, бо з ім пастаянна ўзнікалі розныя праблемы... Але тут прыйшла пара збірацца ў Данію, куды гурт запрасілі іхнія калегі з «Клюге Кіндэр» і «Інасэнт Блад». Пошукі новага барабаншчыка вырашылі прадоўжыць пасля паездкі.

Пасля шматгадзінных выпрабаванняў чаканнем у АВІРы, якія працягваліся ажно два месяцы, «Тарнада» шчасліва прыбылі ў Капенгаген, і, хоць яны парушылі кантрактныя абавязкі, дацкія сябры аднесліся да іх з поўным разуменнем. 20 дзён у Даніі праляцелі незаўважна: канцэрты, экскурсіі, зноў канцэрты. Апрача таго, у прафесійнай студыі, пад апекаю прадзюсера Фіна Янсэна, гурт запісаў новае дэма — «Свята чумы».

Можна лёгка ўявіць стан музыкантаў: упершыню ў жыцці яны працавалі ў самай сапраўднай «фірменнай» студыі! Успамінае гітарыст гурта Віктар Касцючэнка: «Пра гэта мы нават не марылі, і расказаць аб працы ў сапраўднай студыі проста немагчыма — гэта трэба ўбачыць сваімі вачыма». Другі гітарыст, Сяргей Надзежкін, дадае: «Вядома, мы прыкладна ўяўлялі, як выглядае студыя, але тое, што мы ўбачылі!.. Калі прадзюсер пракруціў нам змікшыраваны матэрыял, мы не маглі паверыць, што «Тарнада» можа так гучаць»!

Вярнуўшыся дамоў, «Тарнада» памянялі барабаншчыка. Новым удзельнікам гурта стаў былы музыкант некалі папулярнай групы «7 Герц» Ігар Маскалёў. Ён шырока вядомы як барабаншчык экстра-класа, і менавіта з ягоным прыходам справы ў гурта відавочна палепшыліся. Дый само гучанне «Тарнада» стала больш шорсткім і дынамічным.

У канцы сакавіка 1991 года «Тарнада» перамаглі ў спецыяльным адборачным конкурсе маладых гуртоў, праведзеным маскоўскай кампаніяй «Біз энтэрпрайсіс» Барыса Зосімава. Мінчане сталі першыя сярод 200 іншых хэві-металістаў! Дзякуючы гэтаму «Тарнада» выступілі ў Маскве на фестывалі «Монстры року СССР» разам з новым праектам Валерыя Гаіны «Гэйн», «Майстар», «Чорная кава», «Э. С. Т.». Музыка гурта спадабалася не толькі маскоўскім трэшэрам, але і лідэру «Майстра» Андрэю Бальшакову, вядомаму журналісту Аляксею Сідараву. Тут жа «Тарнада» паведамілі, што дзве кампазіцыі з іхняга дацкага дэма ўвойдуць у зборны альбом савецкіх трэш-груп, які выйдзе ў ЗША на фірме «Эйшэн Рыкордз». Нямецкая фірма «Ньюкліэр Бласт Рыкордз» выказала жаданне супрацоўнічаць з «Тарнада» са студзеня 1992 года. Дый амерыканцы з «Уалд Рэгз Рыкордз» даўно заўважылі таленавітых мінчукоў...

Застаецца адно пажадаць гурту «Тарнада» поспехаў на іхнім нялёгкім шляху да зіхоткіх вяршыняў. Хто ведае, можа менавіта мінскія трэшэры стануць першай айчыннай групаю, якая дабілася сусветнага прызнання? Пакуль што гэта не ўдалося ні «Круізу», ні «Шаху», ні «Парку Горкага»... Што ж, пажывём — пабачым...

# ЦЕНЯВЫЯ БАКІ ВЯЛІКАЙ НАВУКІ;

## або ПРА МАЛЕНЬКІЯ ТАЙНЫ НАВУКОВЫХ КЛАНАЎ

Вячаслаў МІЦЯНОК,
дацэнт
Беларускага тэхналагічнага
інстытута

З даўніх часоў вядомы вобраз сапраўднага вучонага, дзівака, захопленага нейкімі сваімі ідэямі, які не бачыць у жыцці нічога, апрача сваіх формулаў, прыбораў, рэтортаў і г. д. Яшчэ ў мінулым стагоддзі стала відавочна, што фронт навукі настолькі паглыбіўся ў нетры светабудовы, што далейшы рух наперад немагчымы без такіх апантаных даследчыкаў. Але чалавек не можа жыць па-за грамадствам. Яму патрэбны нейкі набор матэрыяльных выгодаў, медыцынская абслуга і г. д. Калі раней вучоныя маглі існаваць за кошт даходаў ад сваіх маёнткаў ці іншых сродкаў, якія цяпер прынята называць непрацоўнымі, дык цяпер іх, прынамсі ў сацыялістычным грамадстве, павінна ўтрымліваць дзяржава. Вось тут і пачынаецца комплекс праблем. Спецыфіка навукі, асабліва фундаментальнай, у тым, што практычная аддача ад многіх яе дасягненняў прыходзіць праз гады, і чым больш фундаментальны вынік, тым большы перыяд затрымкі. З другога боку, матывам-рухавіком для многіх вучоных з'яўляецца іх цікаўнасць. Нехта іранічна заўважыў, што навука — гэта лепшы спосаб задавальняць сваю цікаўнасць за дзяржаўны кошт. Гэта і праўда так, але вось толькі амаль заўсёды выходзіла потым, што гэтая нібыта асабістая цікаўнасць прыводзіла да тых ці іншых практычных вынікаў. Вядома, не адразу. А паколькі практычная аддача наступае не адразу, то гэта і дало мяшчанам падставу думаць, што вучоныя нічога не выпрабляюць, дармаеды яны, так і цэляць хапануць у дзяржавы, нічога не даючы ўзамен. Яшчэ А. П. Чэхаў у апавяданні «Ліст да вучонага суседа» адзначыў зайздрасць мяшчан да вучоных, да іх жыцця і працы. Натуральна, мяшчане могуць звяртаць увагу толькі на знешнія праявы. А знешне ўсё выглядае проста. Сядзіць чалавек, піша нейкія кручкі ці пералівае вадкасць з аднае прабіркі ў другую — ды што ўжо прасцей, і я так змагу! А зарплата, напэўна, немалая!..

Вось і папёрлі мяшчане ў навуку. А паколькі дзеля таго, каб нешта ў навуцы стварыць, трэба сама меней мець мазгі — а тут у мяшчан праблемы,— то мяшчане пачалі не навуковай дзейнасцю займацца, а ствараць яе бачнасць. Не віна навукі, а яе бяда, што дагэтуль няма сродкаў процідзеяння такім калянавуковым праявам. Ну, мяркуйце самі. Няхай нехта атрымлівае вынік у нейкай вузкай галіне, у якой ва ўсім свеце разбіраюцца 30—40 чалавек, не больш, з іх у нашай краіне жыве 5—6. Наколькі значны атрыманы вынік? А вось як скажуць гэтыя самыя 5—6 чалавек, так і будзе лічыцца, прынамсі першы час. Прычым яшчэ трэба ўлічыць, што ў гэтых 5 чалавек ёсць свае навуковыя памкненні, ідэі, і няма ім часу важдацца з чужымі работамі. Час змарнуеш, а ў працы могуць быць памылкі, значыцца, і час і сілы змарнаваны, шкада ўсё ж. Таму нярэдка здараецца, калі адзін толькі чалавек, мімаходам зірнуўшы на чыюсьці працу, істотна вызначае яе далейшы лёс. Выказаная аднойчы кімсьці думка перадаецца з вуснаў у вусны, і ўсе ведаюць, чаго гэтая праца вартая, хоць яе ў вочы ніхто і не бачыў. І змяніць сфарміраваныя адносіны няпроста. Да таго ж, трэба ўлічыць, што думка, да выпадковага стварэння якой маюць дачыненне вучоныя аўтарытэты, становіцца асабліва «непатапляльнай». Гонар мундзіра — паняцце не абстрактнае.

У не такія ўжо далёкія часы ведаў я аднаго навуковага супрацоўніка, былога майго калегу па гравітацыйнай групе. Ён сам займаўся пытаннямі стварэння думак аб работах. Напрыклад, выступае ён на канферэнцыі. Спачатку, як зазвычай, пастаноўка задачы. Кампетэнтная, нічога не скажаш. Потым гістарычны агляд літаратуры. Хто што ў дадзеным аспекце зрабіў, хто наколькі прасунуўся наперад, супольныя пытанні. Усё гэта займае палову часу выступлення. Ну, а потым, вядома, свае дасягненні. І вось тут увазе слухачоў прапануецца якая-небудзь драбніца, нешта накшталт таго, што падлічаны нейкі эфект у яшчэ адным набліжэнні, ці разгледжаны яшчэ адзін параметр у дадатак да дзесятка ўжо разгледжаных. У спецыяльна падабраным атачэнні іншых вынікаў гэты «поспех» глядзіцца. Уражанне зроблена. І тое, што пры замаху ў рубель удар атрымаўся на капейку, баюся, убачыў толькі я.

Пашанцавала Эйнштэйну. Бліжэйшыя да яго навукоўцы, азнаёміўшыся са спецыяльнай тэорыяй адноснасці, падтрымалі яго. А калі б не падтрымалі? Калі б некалькі аўтарытэтных у навуковым свеце людзей выступілі не «за», а «супраць»? Баюся, што тады навуковы свет пазнаёміўся б з тэорыяй адноснасці значна пазней. Доказы? Праца А. Пуанкарэ, якая з'явілася амаль адначасна з артыкулам Эйнштэйна, выйгравала ў параўнанні з апошняй у матэматычным плане і прайгравала ў фізічным. Стваралася ўражанне, што Пуанкарэ, страціўшы пад нагамі глебу фізічнай рэальнасці, нейкім цудам змог ўгадаць дакладны накірунак далейшага матэматычнага прасоўвання. Ці магло гэта здарыцца выпадкова? Мне асабіста ўяўляецца, што Пуанкарэ выдатна разумеў фізічную аснову сваіх матэматычных пабудоў, але апублікаваць яе не рашыўся. Бо падобны рэвалюцыйны перагляд уяўленняў аб прасторы і часе непазбежна выклікаў бы вострую крытыку з боку тых, хто не паспрабаваў паглыбіцца ў вывучэнне пытання. Пуанкарэ ў той час было каля 40 гадоў, і ён выдатна ведаў норавы навуковага асяроддзя, а Эйнштэйну было 26, і ён нават не здагадваўся, што яго могуць проста задзяўбсці.

Які з усяго гэтага вынік? Кансерватыўная большасць, якая аддае перавагу не глыбіннаму пошуку, а гарантаванаму атрыманню няхай нават і шэрых навуковых вынікаў, існавала заўсёды. Сама па сабе прыналежнасць да кансерватыўнай большасці яшчэ нічога кепскага не азначае. Трэба ж некаму атрымліваць і вынікі, якія развіваюць навуку ўшыркі. Ды яшчэ, бывае, трэба часам стрымліваць занадта ўжо апантаных наватараў (згадаем пра А. Вейнікe). Словам, ад кожнага па здольнасцях. Горш, калі кансерватыўная большасць у навуцы становіцца праваднікам ідэй мяшчанства, што і прыводзіць у выніку да таталітарызму. Асабліва актуальнай стала гэтая праблема ў нашай краіне.

У выніку рэвалюцыі 1917 года і наступных падзей лепшыя кадры айчыннай навукі альбо загінулі, альбо былі вымушаны эміграваць. Як развівацца краіне ў гэтай сітуацыі? І тады Сталін сказаў: незаменных няма. І пайшло-паехала. Прыём у ВНУ пастаянна павялічваўся, прычым не ў адпаведнасці з рэальнымі магчымасцямі, а па загаду. Было нават такое, з чым я, на шчасце, не сутыкнуўся: у ВНУ прымалі па класавай прыналежнасці. Ільвіная доля навучальнай нагрузкі прыходзілася на грамадскія дысцыпліны. (А вось з гэтым мне ўжо прыйшлося сутыкнуцца. Дагэтуль шкада часу, які пайшоў на ўсё гэта. Ды яшчэ ваенная падрыхтоўка...).

Ну хіба магла краіна ў такіх умовах падрыхтаваць дастатковую колькасць высокакваліфікаваных спецыялістаў? Вядома, асобныя выдатныя вучоныя, такія як П. Л. Капіца і некаторыя іншыя, з'яўляліся, але ўсё ж такі не яны ладзілі баль. А шэрасць тым часам набірала сілы.

У любым навуковым калектыве непазбежныя навуковыя спрэчкі. А паколькі шэрыя не дужа таленавітыя, дык аргументамі ў спрэчках сталі ярлыкі. Хто першы змог зганіць апанента ў спрэчцы — той і мае рацыю.

Але найбольш агіднай стала практыка прыцягнення палітычных сіл да вырашэння навуковых спрэчак. Мала было зганіць навуковага апанента, дык яго яшчэ трэба было пасадзіць у турму, саслаць у лагер, знішчыць фізічна. Ну ў якой краіне можна было трапіць у турму за навуковыя погляды? Пасля Джардана Бруна Еўропа 300 гадоў не ведала прыкладаў смерці за навуковыя погляды. А Сталін гэтую практыку аднавіў. Згадаем Лысенку, мешчаніна ў дваранстве, інакш кажучы, навуцы. Усім вядомая ягоная роля ў развале айчыннай біялогіі. Недалёкія, шэрыя асобы глядзелі ў рот правадыру, калі ён унушаў усім, што такое марксізм у мовазнаўстве. І пацелі над ягонымі опусамі, спрабуючы ўгадаць якісьці закладзены ў іх таямнічы сэнс, і, уявіце, знаходзілі. Найбольш кемлівыя мяшчане зразумелі, што прасцей за ўсё кар'еру можна зрабіць, дагаджаючы начальнікам. А сапраўдная навука тым часам ледзь дыхала.

Да чаго ж мы прыйшлі? Не сакрэт, што навука цяпер нагадвае Еўропу часоў ранняга феадалізму. Усё поле навукі падзелена на феоды, кланы, на чале кожнага з іх стаіць альбо адзін феадал, альбо некалькі аднадумцаў. Кожны феод займаецца сваім колам навуковых праблем, пытаннямі абароны дысертацый, публікацыямі і г. д. І няхай хто-небудзь толькі сунецца не ў сваю «епархію». Цяпер, вядома, на такога «парушальніка канвенцыі» крымінальную справу не завядуць, аднак сродкаў у феадала дастаткова, каб пакараць таго, хто замахваецца на ягоны суверэнітэт. Можна, напрыклад, дэманстратыўна не заўважаць парушальніка спакою і атрыманых ім вынікаў. Можна арганізаваць абмеркаванне ягоных прац, наваліўшыся ўсім феодам. Ёсць і іншыя спосабы.

Магутны сродак ціску і ўтрымання ў пакорлівасці сваіх падначаленых — навуковыя часопісы. Натуральна, кожны, хто атрымаў які-небудзь новы навуковы вынік, жадае яго апублікаваць. Але пры гэтым трэба выконваць пэўныя правілы гульні. Вядома, што ўсе навуковыя часопісы нефармальна падзелены альбо па кланавай, альбо па тэрытарыяльнай прыналежнасці. Натуральна таксама, што навуковыя феадалы не жадаюць бачыць у сваіх часопісах артыкулы канкурэнтаў, бо любы поспех канкурэнтаў трактуецца як уласны правал. А адпрэчыць няўгодны артыкул можна вельмі проста. Дастаткова арганізаваць на яго адмоўную рэцэнзію. Рэцэнзія можа быць самая недарэчная, але значэнне мае толькі яе апошні радок з высновай аб магчымасці або немагчымасці публікацыі.

Памятаю, як загадчык лабараторыі Ф. І. Фёдараў наракаў на тое, што ягоны артыкул у адным маскоўскім часопісе быў адхілены з-за ідыёцкай, як ён сам казаў, рэцэнзіі. Абураўся, але зрабіць нічога не мог. Хоць і акадэмік. А ўсё таму, што той часопіс належаў клану В. Л. Гінзбурга, навуковага апанента Ф. І. Фёдарава.

Такія рэцэнзіі даводзілася чытаць і мне самому. Неяк на маю працу, накіраваную ў Ерэван, прыйшла рэцэнзія. Некалькі радкоў тэксту. У першай заўвазе рэцэнзент прапануе мне спаслацца не нейкі артыкул. Пры праверцы выявілася, што ўказаны артыкул наогул не існуе ў прыродзе. Другая заўвага ўяўляла сабою недарэчны набор слоў, сэнс якога застаецца незразумелым і дагэтуль. Каму скардзіцца? В. А. Амбарцумяну? Паспрабаваў. Артыкул паслалі на паўторнае рэцэнзаванне, але ў рэцэнзіі быў толькі выклад традыцыйнага пункту погляду на разгледжанае пытанне, і так мне добра вядомы. Са зместу рэцэнзіі ну ніяк не вынікала, што працу трэба адхіліць, аднак выснова аб адхіленні была. А ў канцы рэцэнзіі прыпіска: «Больш артыкул разглядваць не зможам».

Вядома, рэцэнзія — гэта толькі зачэпка. Рэдактар, быў бы ён чалавекам прынцыповым, павінен быў бы ўзгрэць рэцэнзента, які прапануе спаслацца на неіснуючы артыкул ці прыводзіць у якасці аргумента недарэчны набор слоў. Мог, аднак не стаў. Бо іншага спосабу адхіліць непажаданы (але цікавы) артыкул у яго няма. Сітуацыя з часопісамі пагаршаецца тым, што няма ніякага палажэння аб рэцэнзаванні. І гэта выгадна кланам, бо ёсць магчымасць трактаваць інстытут рэцэнзавання так, як хочаш.

Відаць, рэдкалегіі навуковых часопісаў забыліся на тое, што іхняе прызначэнне — садзейнічаць абмену інфармацыяй паміж вучонымі. Дый няма тут нічога дзіўнага, цяпер артыкулы разглядаюцца як нейкае фінансавае мерапрыемства, неабходнае для абароны дысертацый і для справаздач аб зробленай працы. Па колькасці публікацый мяркуюць аб актыўнасці вучоных. Вось чаму кланы ў першую чаргу імкнуцца

P. S.
Гэты артыкул павінен быў
выйсці ў свет
у лютаўскім нумары газеты
«Навіны Беларускай акадэміі».
Аднак за тры дні
да выхаду газеты
па рашэнні прэзідыума АН БССР
набор артыкула быў рассыпаны...
І артыкул у свет
не выйшаў...

# ЦЕНЯВЫЯ БАКІ ВЯЛІКАЙ НАВУКІ;

## або

## ПРА МАЛЕНЬКІЯ ТАЙНЫ НАВУКОВЫХ КЛАНАЎ

завалодаць менавіта органамі навуковых публікацый. Завалодаў часопісам — і можаш усяляк прапагандаваць сваю дзейнасць. Як прытармазіць абарону няўгоднага? Перакрыўшы яму публікацыі. Як дамагчыся падтрымкі ўплывовай навуковай асобы? Змясціўшы ў сваім часопісе публікацыі тых, у кім гэтая ўплывовая асоба зацікаўлена. А потым, глядзіш, гэтая асоба і тваім сябрам дагодзіць.

Вось і атрымліваецца, што стала цяпер навука не навукаю, а нейкім полем для ажыццяўлення палітычнай (навукова-палітычнай) дзейнасці, і навуковыя дасягненні — усяго толькі фон, на якім гэтая дзейнасць адбываецца. З гэтага і вынікае раздзяленне поля навукі на кланы.

Цяпер можна зразумець, чаму наша краіна, перадавая па колькасці навуковых работнікаў, апынулася далёка ззаду па колькасці Нобелеўскіх лаўрэатаў, дый проста па колькасці добрых навуковых вынікаў. Справа ў тым, што навуковыя кланы дапускаюць да публікацыі перш за ўсё шэрыя, пасрэдныя ў навуковых адносінах артыкулы. Тым часам радыкальныя (інакш кажучы — тыя, што істотна мяняюць агульнапрыняты пункт погляду на якуюсьці праблему) навуковыя вынікі не могуць быць апублікаваны. Радыкальнасць работ выклікае страх наконт іхняй дзейнасці. Натуральная асцярожлівасць, ведама ж, патрэбная, і павінна яна праяўляцца ў асабліва руплівым вывучэнні артыкулаў рэцэнзентамі, бо пад радыкальнай маскаю можа сустрэцца графаманская, антынавуковая праца.

А гіпертрафіраваная асцярожлівасць (хутчэй — навуковая баязлівасць), якая праяўляецца ва ўпартым нежаданні асэнсаваць і апублікаваць правільныя вынікі, вядома, шкодная, бо пазбаўляе навуку важных прац, а краіну — прыярытэтаў і аўтарытэтаў. Як тут не згадаць пра цяжкасці Белавусава і Жабацінскага, якія з вялікімі намаганнямі змаглі надрукаваць, прычым у няпрофільным часопісе, радыкальны вынік даследаванняў пра перыядычныя хімічныя рэакцыі. Між іншым, за гэтую працу пры пэўным сцячэнні акалічнасцей магла быць прысуджана Нобелеўская прэмія. Ну добра, Белавусаў і Жабацінскі ўсё-такі змаглі апублікаваць свае артыкулы. А колькі матэрыялаў загінула, так і не ўбачыўшы свет? На жаль, адказ на гэтае пытанне мы не ўведаем ніколі.

Зараз да пытання аб адказнасці. Вядома, дрэнна, калі ў часопіс трапляе дрэнны артыкул. Гэта ж правал: апублікаваць памылковую, а то і проста недарэчную работу. За такую публікацыю рэдкалегія можа быць пакараная. Але ж прыняць рашэнне аб неапублікаванні цікавага артыкула — таксама адказнае рашэнне. Толькі ніякай адказнасці ў выпадку памылкі рэдкалегіі не нясуць. А калі цана гэтай памылцы — Нобелеўская прэмія? У суд тады падаваць? На каго? На ананімнага рэцэнзента? Ці на рэдактара? Дый ці хопіць у іх грошай, каб кампенсаваць хоць бы матэрыяльныя страты...

Вось і прыходзім мы да высновы: хочаш нечага дамагчыся ў навуцы — ідзі ў клан. Паслужы спачатку шасцяронкаю, параспрацоўвай ідэі свайго начальства, нават калі сваіх у цябе хоць адбаўляй. А час ідзе, ідэі прыходзяць у галаву ўсё радзей. Затое твая вага ў клане ўсё расце, глядзіш, і да цябе прыйдуць аспіранты і будуць распрацоўваць твае ідэі, якія, праўда, становяцца ўсё больш бляклыя. Але нікуды гэтыя аспіранты не дзенуцца, хочуць жа яны выбіцца ў людзі ў рэшце рэшт. Зразумеюць і правілы гульні.

Пра якое сур'ёзнае развіццё навукі можа ісці гаворка ў такой сітуацыі? Ды яшчэ гэтае планаванне. Хіба можна механічна пераносіць на навуку тое, што добра для прамысловасці? Асабліва гэта датычыць фундаментальнай навукі. Можна, вядома, прагназаваць нейкі вынік, але хіба яго можна планаваць? Хіба можна ведаць загадзя і дакладна, які сюрпрыз можна чакаць ад дыферэнцыяльнага ўраўнення пасля таго як яно будзе вырашана, ці якія будуць уласцівасці металічнага вадароду пасля таго як ён нарэшце будзе атрыманы? А складання планаў патрабуе начальства. А потым паспрабуй не даць справаздачу па плану. Ого-го, што будзе!

Фізікі-тэарэтыкі, праца якіх мне знаёмая ў большай ступені, дзейнічаюць досыць проста. Яны плануюць атрыманне тых вынікаў, якія фактычна ўжо атрыманы, але яшчэ не апублікаваны. Так што выкананне планаў гарантавана. А ў гэтым годзе ці пяцігодцы можна заняцца і свабодным пошукам. Ці можна ўвогуле лынды біць. Самае цікавае, што начальства выдатна пра ўсё ведае, але робіць выгляд, што нічога не заўважае. Такая вось яшчэ адна дарослая гульня, з ліку тых, што прысутнічаюць у любой таталітарнай сістэме. А тое, што пры складанні планаў і справаздач па іх страчваецца немалы працоўны час, дык гэта няважна. Гэта ж толькі «ў іх» час — грошы.

Словам, праца вучонага, калі ён хоча нечага дабіцца, павінна быць у рэчышчы працы кіраўніцтва клана. Але гэта не ўсё. Многія кіраўнікі кланаў няправеднымі шляхамі дамагаюцца ўключэння іхніх прозвішчаў у лік сааўтараў артыкулаў, і гэта трэба ўмець сцярпець. У свой час хадзіла такая показка. Аспірант Х атрымаў нейкі навуковы вынік. Ягоны кіраўнік У прачытаў артыкул, сёе-тое паправіў, дадаў сваё прозвішча і панёс да загадчыка лабараторыі. Той згадзіўся, але раптам згадаў, што недзе неяк дапускаў магчымасць такога выніку. Артыкул, цяпер ужо за трыма подпісамі, панеслі да дырэктара Т. Дзеля павышэння прабіўной сілы артыкула (наперадзе ж было рэцэнзаванне) узялі подпіс у дырэктара. Аднак дырэктар раптам азадачыўся. Кажа, што чатыры подпісы — гэта шмат. Некага трэба выкінуць. Спыніліся на Х як на найменш тытулаваным. Але каб ён не крыўдзіўся, дадалі да зарплаты 10 рэ. Не са сваёй жа кішэні...

Вы не задумваліся, чаму такія жывучыя гісторыі накшталт гэтай? Напэўна, таму, што вельмі ўжо часта здараюцца.

У чым прычына такога становішча? Думаецца — у прыроднай сціпласці сапраўдных вучоных, якія працуюць на пярэднім краі навукі. Яны часта проста не заўважаюць усяго таго, што адбываецца побач. Яны спакойна даюць абысці сябе ў размеркаванні кватэр, пасад, выгадных дадатковых відаў работ. І гэтай сціпласцю карыстаюцца розныя дзялкі ад навукі — як толькі могуць. Што можна параіць у дадзенай сітуацыі? Кожны выпадак праявы навуковага таталітарызму, несправядлівасці павінен быць абнародаваны. Таталітарызм пранік у навуку не па загаду зверху, а таму, што спрыяла сітуацыя. Пазбавіцца ад яго можна будзе толькі ў тым выпадку, калі створыцца адпаведная атмасфера — атмасфера нецярплівасці.

Уладзімір ПАЦЮКЕВІЧ

* * *
Дарога налева — у ноч, у няпамяць,
Дарога направа — у тло-небыццё:
Нямее прадонне, шалёная замець,
Вар'яцкае рэха з ваўчыным выццём.

Мне страшна — налева, жахліва — направа.
Шукаю дарогу да светлых Бароў:
Там сосны з дубамі пра гонар і славу
Гамоняць на мове сваіх каранёў.

### ГНЕДЫ, СКАЧЫ, МОЙ

Пугай не сцёбаю, лейцы пускаю —
Гнеды, скачы, мой, свабодна!
Поле павольна сваё засяваю,
Можа, занадта павольна.

Выспее коласам ядраным жыта
На неабдымных абшарах,
Выспее ўсё, што душой перажыта,—
Выспеюць думы і мары.

Лягуць у песню жывымі радкамі,
Звонам мелодыі шчырай.
Некаму песня пастукае ў памяць,
Нехта ёй сэрца адчыніць.

* * *
З праўдаю трэба лічыцца:
Нельга спыніцца ў жыцці,
Нельга, тым болей, злаўчыцца —
Рэчку назад перайсці.

Тую, што час прыпыняе —
Дзеліць на «ёсць» і «было»,
З берагам бераг яднае
Толькі ўспамінаў вясло.

Нельга ў адну й тую ж рэчку
Двойчы ўвайсці і святым...
— Можна! — кажу я пры стрэчы
З днём, што завецца былым.

* * *
Чым сябе я апраўдаў бы
Перад маці, родным полем,
Перад нашай гордай доляй,
Перад гэтай зорнай даллю,
Дзе лятункам — шыр-прыволле,

Каб душу прадаў я д'яблу —
Зрокся матчынага слова,
Што звініць ва мне вяснова,
У радок кладзецца зграбна,
Вусны шэпчуць, як замову?

Не апраўдваў і не кляў бы
Самаго сябе я, пэўна,
Бо зрабіць так не паспеў бы —
Валуном замшэлым стаў бы
Ад праклёнаў Маці гнеўнай.

* * *
Зарасла травой дарога,
Горкім палыном.
Дзе быў шлях, ляжыць аблога,
Спіць курганным сном.

Да чаго вяла дарога?
Да чаго вёў шлях?
Па чыіх іду трывогах,
Па чыіх слязах?

### ЧАС

Нестрыманы часу бег —
Чым бліжэй да восені.
Не заўважыш, як табе
Час заснуць пад соснамі.

У апошні міг зірнуць
На бярозку тонкую —
На сваю красу-вясну
Маладую, звонкую...

Супыніцца не прасі —
Хто яго дапросіцца?!
Моўчкі поплаў свой касі
Да глыбокай восені.

* * *
Бог белы з чорным
Ваюе ўпарта
За наша ўчора,
За наша Заўтра.

Сышліся мужнасць
І зла навала.
Каму адужаць
Наканавана?

Бог белы моцны
Любоўю, праўдай...
Бог чорны грозны
Маною, здрадай...

Любоў і праўда
Спрадвеку б'ецца
З маной і здрадай,
І не хіснецца.

Аднойчы змусіць
Прызнаць свет цэлы:
На Беларусі
Адзін Бог, белы.



Фота Аляксея ПАЎЛЮЦЯ

# УРОК ЧАРЦЕННЯ



ЧАРТАЎШЧЫНА





ЧАРТАЎШЧЫНА ЧАРТАЎШЧЫНА ЧАРТАЎШЧЫНА



ЧАРТАЎШЧЫНА





Столькі чарцей, ды за адным сталом, ды не на Лысай гары, не ў Купальскую ноч, а, соладка — пад булачкі з карыцаю ды гарбату — шчыра вам скажу, людцы добрыя, мне яшчэ бачыць не даводзілася. Пра гарбату і булачкі гэта я вам нездарма пляту, бо пакуль мы іх не з'елі, не выпілі, датуль з Галяй Ганчаровай не разгаварыліся, а калі ўжо разгаварыліся, тут яна IX нам і паказала... Тут яны і пасыпаліся...

Вадзянік, лесавік, дуплянікі, падкустоўнікі, лятуны, вісуны, паўзуны, вушасцікі, насацікі, лупасцікі, і, і, і,..

— Ды вы не бойцеся,— кажа Галя,— яны не страшныя. Што там парасло на іх — рожкі, кіпці, хвост — гэта ўсё не на згубу, не на шкоду і не ў прыкрасць. А проста так — трэба. Бачыце — вунь, кіпцюры ў майго прыгажуна — гэта каб з якога сука не зваліцца. А так ён паветрам жывіцца — праз вушы яго фільтруе ды спажывае сабе. А дзве дзіркі ў носе клапанамі затыканыя — каб не захлынуцца, калі ў ваду ўлезе. Убачыў гэткіх самых клапаноў з добрую сотню ў суседа свайго сухапутнага, дык аж здзівіўся: куды ў чарцей запчасткі ідуць! А той — быццам бы вожык, толькі іголкі ў яго з пляскатымі галоўкамі, як цвічкі, і мяккія — каб не пакалоўся хаця ніхто.

— Галя, тут што ні іголка, то праява душэўнай далікатнасці!

— А пэўне ж! Вунь трэці сябра да іх прыстаў. Вы думаеце, яму гэтыя тры пёрыны ў хвасце патрэбныя, каб лётаць хутчэй? Ды ён жа лунае проста так, ад адной думкі: «Лунаць хачу!» — а крылы і хвост — гэта каб за яго — крый божа,— ніхто не зачапіўся. Ведаеце хіба, чым катастрофы ў паветры пагражаюць: мала, што часам сам наб'еш гуза, дык яшчэ і звалішся камусьці на галаву!

— Ім, мабыць, лёгка жыць: усе такія добрыя, спагадныя...

— Ды, ведаеце, не надта. Часам трапляюцца праблемы, вось як з гэтымі сябрамі: сустрэліся на паляне, ды адзін лясун шчарбаты другога пытае: «Ты, дружа, сёння з якой нагі ўстаў?» Бедалага сусед наш казаў каліcь: «Ганьба мне, людзі, ганьба, у мяне ногі няпарныя: адна левая, другая правая!» А гэтаму чорту і таго горай: як тут гэтыя ногі назавеш, каторая задняя, каторая правая, калі іх дваццаць! Ублытаў наскі ў пяткі, ссох — ніводнага лісточка на целе жывога няма — а растлумачыць не можа. А вы кажаце — лёгка жыць!

— Спачуваю, спачуваю. А гэта што? Не бяда ўжо, а цэлае гора!

— Ды птушку шкада! Тут трагедыя асабістая! Ляжыць, ныбота, на зямлі распасцертая, жывоцік апаў, вока ашклянела, другое ўглыб закацілася. А сябрам як на гэта глядзець?! Думай пасля ўсё жыццё, нашто яна так — самагубствам... І тут, ведаеце, інтымнае... Бачыце, як ён над ёю купінай сядзіць — адарвацца не можа. І сябру ягонаму не нашмат лягчэй — стаіць, як манах, і думае пра агульнае гора...

— Галачка! Гартай далей! Тут шэкспіраўскія пакуты — не магу глядзець!

— А, бачыш, як цябе дапякло! Добра, падзівіся на парачку.

— Слухай, гэты лесавік, што з рожкамі, ды ён жа на цябе падобны!

*Заканчэнне на стар. 41.*

Мікола ДУБОЎСКІ

# КАНДАГАР

Для маці Валодзя вярнуўся з універсітэта нечакана. Пакуль распранаўся ў вітальні, ёй падумалася:

— А ці не здарылася што?— Але ўбачыўшы на сынавым твары ўсмешку, Ніна Пятроўна спакойна запыталася:

— Адклалі экзамен?

— Нас прапусцілі адным махам, мамуля. Хімік у залікоўцы мне намаляваў пяцёрку і пажадаў шчаслівай службы. З вучобай завязана на два гады. Шчэ тыдзень на развітанне з цывількай. Маці ўздыхнула, змахнула крадком набеглыя слёзы і ўзялася за талеркі, нямытыя са снядання.

— А тата дзе?— гукнуў ужо са свайго пакоя сын.

— На дачы, дзе яму быць.

Ніна Пятроўна апошнія тыдні, хоць ужо наступіў май, не прыкмячала ні цяпла, ні квітнеючых каштанаў, што як ніколі ўрачыста запалілі свае свечкі ў двары, усё валілася з яе рук, адна ўедлівая, як запушчаная хвароба, думка тачыла і ўдзень і ўначы: яе адзіную быліначку — сыночка забіраюць у армію.

Сама служба яе не палохала, а вайна ў далёкім Афганістане, куды можа трапіць яе сын.

«Не пяшчотнік, не хілы — і дужы, і рослы, усё вытрымае, а калі туды пашлюць...» Пякучы боль успыхваў у грудзях, і Ніна Пятроўна адганяла як магла такую думку. А страх, адчайны і няўмольны, не адступаў, і трывога за Валодзю з набліжэннем дня, калі ён развітаецца з ёю і бацькам, павялічвалася. Нарадзіла яна сына позна — у трыццаць тры гады. Калі выйшла замуж за міліцыянера, доўгі час іхняе сямейнае жыццё нагадвала цыганскае. Яе муж, Цярэнцій Астапчонак, працавіты і цягавіты, аднак за сябе, за сваё пастаяць — бездапаможны, як малое дзіця. Вось і туркалі спачатку маладога лейтэнанта, а пазней маёра міліцыі па розных мясцінах. Калі ж нарадзіўся Валодзя, у вярхах уважылі ягонаму рапарту, дзе ён прасіў кватэру,— забралі ў сталіцу, далі двухпакаёўку-хрушчоўку і пасаду начальніка пазаведамаснай аховы ў адным раёне.

...Першую трывогу і яшчэ смутны тады боль Ніна Пятроўна адчула, калі Валодзю выклікалі ў ваенкамат на камісію і ўручылі гэтую позву. З таго часу хваляванне нарастала, хоць было гэта з месяц назад.

Як ваююць маладыя там, у Афганістане, да Астапчонкаў даходзілі розныя чуткі. Адны — што вяртаюцца адтуль героямі, другія — што гінуць там хлопчыкі.

— Навошта ўсё гэта? За што гінуць?— дапытвалася ў сябе Ніна Пятроўна. Цяжар яе пакутавання большаўся яшчэ з-за таго, што трывожнымі думкамі, акрамя Цярэнція, нельга было ні з кім падзяліцца.

Адны лічылі вайну ў Афганістане нармальнай, маўляў, хлопцы бароняць там рэвалюцыю. Другія, з кім яна апошнім часам спрабавала ўсё часцей і часцей пагаварыць, даводзілі, не засяроджваючыся, выпальвалі ёй — у нас дагавор і хлопцы нашы выконваюць свой інтэрнацыянальны абавязак.

Дамоў Ніна Пятроўна ішла, не заўважаючы ні вуліцы, ні людзей. Дома застала Цярэнція, які збіраўся на дачу.

— Нікуды ты не паедзеш,— з парога пайшла яна да мужа.— Трэба Валодзьку ратаваць.

— Што здарылася?— збялеў Цярэнцій.

— Што! А разумееш ты, яго забяруць і туды...

— Супакойся! Мне казалі адказныя людзі, адзінага сына туды не пасылаюць.

— Хлусня. Пускаюць такія чуткі, каб супакоіць такіх дурачкоў, як ты. Чаму ж Панцялееў, не раўня нам з табою, свайго адзінага ў бальніцу паклаў, каб хваробу знайшлі. У бацькі яго — сувязі, мо да Крамля, і ён-то ўжо ўсё разведаў.

— Сын яго сапраўды хворы,— не адступаў Цярэнцій.

— Хворы?! А гарэлку жлукціць і на бацькавай «Волге» курваў вазіць не хворы! Цярэнцік,— упала на калені Ніна Пятроўна.— Богам малю цябе! Схадзі да Верстака. Ён цяпер у кадрах Міністэрства. Ты ж з ім разам вучыўся, разам злодзея-бандыта бралі. Калі той страліў, ты Верстака засланіў, пад кулю сваё плячо падставіў, ён жа казаў тады, што будзе сябрам навек. Схадзі да яго, вельмі прашу цябе, Цярэнцік.

— Хай будзе па-твойму,— кінуў у кут Астапчонак торбачку з прадуктамі.— Пайду. Плюну на стыд, на сумленне, пайду.

Счакаўшы, пакуль супакоіцца жонка і калі яна перастане плакаць, Цярэнцій пайшоў да Верстака.

— Цярэнцій, дружа! Колькі зім, колькі летаў,— растапырыў пульхныя мажныя рукі, убачыўшы ў дзвярах свайго вялізнага пакоя Астапчонка, палкоўнік міліцыі Вярстак.— Заходзь, сядай. Зараз з такой нагоды каньячку дзюбнем.— Палкоўнік выцягнуў з шуфляды доўгага стала пад зялёным сукном бутэльку «Арарата», два кілішкі і спрытна наліў у іх пітво.

— Давай за стрэчу,— ціха вымавіў Вярстак.

Калі яны выпілі, Астапчонак загаварыў:

— У мяне да цябе, Адам, далікатная справа. Сын у мяне.

— Хуліган?— перабіў яго палкоўнік.

— Ды не — студэнт і ў армію забіраюць. У Афганістан можа трапіць.

— Ах вось яно што. Давай шчэ па адной. Даўно не бачыў цябе...

Вярстак зноў наліў у кілішкі, і яны выпілі шчэ.

— У цябе кола знаёмстваў вялікае,— больш смела загаварыў зноў Астапчонак.— Папрасі каго-небудзь з уплывовых.

— Што папрасіць?— перапытаў Вярстак.

— Ну, каб...

— Каб не ўзялі? Ты што, Цярэнцій, у нас жа закон аб вайсковым абавязку, а яго толькі Брэжнеў можа пераступіць.

— Я не пра тое, каб не бралі. А каб узялі ў такую часць, адкуль туды не пасылаюць. Скажам, у Валожын, ці ў маракі,— успомніў Астапчонак словы жонкі, якія яна сказала яму перад самым адыходам з дому.

— Дапусцім, я праўдамі-няпраўдамі дапамагу. Твой туды не пападзе. А як быць з тымі, што там ужо прэюць, што пападуць? Ці справядліва будзе ў адносінах да іх?

— Ты мне палітграмату гэтую не чытай,— усхапіўся з месца Цярэнцій.

— Ціха, ціха! Не сярдуй, браце. Скажу табе шчыра — не магу і не хачу.

— Прабач,— Астапчонак рашуча накіраваўся да дзвярэй.

— Пачакай,— запыніў яго палкоўнік.— Магу адно прапанаваць. Пагавары з сынам. Хай для зачэпкі разаб'е ў якой краме акно. Мы яго возьмем, затым суд, дадуць гады два — не больш. Выйдзе і туды, гарантую, не пападзе.

— Дзярмо ты!— Астапчонак грымнуў за сабою дзвярыма і куляй вылецеў з вялікага гмаху міністэрства на вуліцу.

Калі Цярэнцій вярнуўся дамоў, Ніна Пятроўна, убачыўшы яго твар, зразумела ўсё, што адбылося, і нічога не запытала.

Апошні тыдзень Валодзькавага цывільнага жыцця для яго бацькоў пранёсся імгненна. У дзень, калі сыну трэба было з'явіцца на зборны пункт — у аблваенкамат, Астапчонкі пакінулі кватэру раненька. Маці не выпускала сына з абдымкаў да самай жалезнай брамы, дзе сабраліся ўжо прызыўнікі. Доўга-доўга развітваліся, не плакала, усё глядзела на ягоны твар. З бацькамі Валодзя развітаўся хутка — пацалаваліся, абняліся, пастаялі моўчкі, і сын ступіў за вароты.

Пачаліся нудныя дні чакання ліста. Валодзя прыслаў яго праз два дні. Паведаміў, што сапраўды знаходзіцца ў Мар'інай Горцы і прасіў, каб у бліжэйшую нядзелю прыехалі да яго. У якія часці яго прызначылі, не паведаміў.

Пасля пісьма Ніна Пятроўна не магла дачакацца нядзельнага дня, а калі ён наступіў, падганяючы мужа, каб паспяшаў, рушыла з ім на ранішнюю электрычку. На маленькай станцыі Астапчонкі, як толькі выйшлі з вагона, распыталі першага сустрэчнага мясцоўца, як дабрацца да вайсковай часці, і амаль не подбегам пайшлі да яе.

На кантрольна-прапускным пункце іх выслухалі вартавыя, а затым два маладыя сяржанты павялі да казармы, дзе месцілася вайсковая часць, нумар якой напісаў сын на канверце свайго пісьма.

Ішлі паўз казармаў, як здалося Ніне Пятроўне, доўга, а калі спыніліся ля варотаў, звараных з жалезных прэнчаў, адзін з сяржантаў паведаміў, што гэта і ёсць патрэбная бацькам вайсковая часць. Астапчонкі падзякавалі і звярнуліся да старшыны, які ў гэты самы момант выйшаў за вароты. Ён выслухаў іх і неяк загадкава стаў тлумачыць:

— Тут вашага цяпер няма. Учора ўсіх навенькіх адправілі.

— Куды?— падалася да вайскоўца Ніна Пятроўна.

Старшына агледзеўся і ціха вымавіў:

— Туды ў вучэбку на поўдзень...

— Туды?— абмерла Ніна Пятроўна.

— Туды,— старшына развёў рукамі.

Астапчонкі нема стаялі перад варотамі, за якімі гудзела галасамі Валодзькава казарма. Старшына спачувальна і скрушліва глядзеў на іх. А калі яны зрушылі з месца, ён як нешта ўспомніў, палез у кішэню сваіх галіфэ, выцягнуў пачак канвертаў і хутка стаў перабіраць іх.

— Ага, ёсць! Паспеў ваш напісаць,— ён падаў Ніне Пятроўне пісьмо.

Яна дрыжачымі рукамі ўхапіла канверт, разарвала і дастала невялічкі шматок паперы.

«Дарагія мае родныя татка і мамачка,— пісаў Валодзя.— Не лёс нам яшчэ раз сустрэцца. Пішу спешна. Ужо грузімся. Нас кідаюць у новую вучэбку. Прадчуваем нядобрае, напішу потым. Цалую, ваш Валодзя».

Другое пісьмо ад Валодзі прыйшло амаль праз тры тыдні. Ён суцяшаў бацькоў, паведамляў, што паступова ўцягваецца ў службу, разважаў, маўляў, для яго яна патрэбная, як выпрабаванне. Ні на што не скардзіўся. Аднак бацькі з ягоных разваг такіх бачылі толькі імкненне супакоіць іх.

Неяк уначы Ніна Пятроўна з крыкам усхапілася з пасцелі:

— Цярэнцій, Цярэнцій,— стала будзіць яго яна, хоць ён не спаў.— Нешта благое сталася з Валодзькам. Паляцімо да яго.

— Табе дрэнны сон даўся?— усхваляваўся муж.

— Паляцімо, Цярэнцік, прашу,— лямантавала Ніна Пятроўна.

— Добра, паляцім, супакойся. Раніцаю пайду па білеты і паляцім.

Аднак ляцець ім да сына не давялося. Раніцаю пазванілі ў кватэру.

— Вам тэлеграма,— сказала паштальёнка і працягнула складзены ўдвая бланк.

«Дарагія! Не хвалюйцеся за мяне. Сёння пералятаем на новае месца. Цалую. Валодзя»,— прачытала тэкст Ніна Пятроўна. І ўпала на месцы, дзе стаяла.

Цярэнцій падхапіў яе, пасадзіў у крэсла, даў вады. Калі яна ачомалася, перапытаў тэкст тэлеграмы. Яму запякло ў грудзях, слёзы запоўнілі вочы, але ён, адвярнуўшыся ад жонкі, імгненна выцер іх і, стараючыся быць спакойным, лагодна загаварыў:

— Ну што тут страшнага? Пералятаюць на новае месца несці службу.

— Туды, туды, Цярэнцік,— не вымавіла, а прахрыпела Ніна Пятроўна, і вочы ў яе пайшлі пад лоб.

Астапчонак па тэлефоне выклікаў хуткую дапамогу.

...Часам Ніна Пятроўна пасля доўгага маўчання казала мужу:

— Яго ўжо няма, Цярэнцік, у нас. Забілі яго, ляжыць на халоднай зямлі, і чарвякі ды мухі ядуць яго тварык.

— Цыц! Ціпун табе на язык!— ускокваў і бялеў Астапчонак.

— Чаго ты крычыш, Цярэнцік. Сам ведаеш — няма. Каб жывы быў — напісаў бы. Пяты месяц ні слыху ні дыху.

— Вайна там. Не да пісьмаў,— хапаў ён цыгарэты і бег на вуліцу.

Мінула доўгая зіма. Ніна Пятроўна і Цярэнцій выплакалі ўсе слёзы. Жыццё для іх стала нікчэмным і непатрэбным. Знаёмыя бачылі іхняе гора, спачувальна віталіся, але ў размовы не ўступалі. Цярэнцій употайкі ад жонкі хадзіў у ваенкамат амаль штотыдзень у надзеі на хоць якую вестку. Там з разуменнем прымалі яго і адказвалі адно: «Нам пакуль нічога не вядома».

Неяк вясною Астапчонак, едучы з дачы, трохі разгаварыўся з пажылою кабетаю. Яна адразу адчула ягоны глыбокі смутак і запытала:

— Гора ў вас, бачу.

Цярэнцій уздыхнуў і са слязьмі прызнаўся:

— Ад сына з Афганістана весткі няма.

— Мой там быў таксама,— ажывілася спадарожніца.— Таксама доўга не пісаў. Я вочы выплакала, але верыла, што жывы. І дзякуй Богу, знайшоўся. Паранілі яго моцна, доўга лячыўся, а як ачуняў,— напісаў. Мо і ваш дзе ў шпіталі. Напішыце ў іхняе міністэрства. Каб забілі, у труне з цынку прыслалі б. З нашай вёскі на тым тыдні так прыслалі.

У той жа вечар, калі Ніна Пятроўна, наплакаўшыся ў спальні, заціхла, Цярэнцій напісаў міністру абароны ў Маскву. Праз месяц-два прыйшоў адказ, дзе паведамлялася, што сын выконваў інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане і значыцца ў спісах без весткі прапаўшых.

Цярэнцій не паказаў Ніне Пятроўне міністэрскую пісульку, вырашыў — хай як ёсць, так і будзе. Аднак пралічыўся. У канцы жніўня падвячоркам да іх нечакана завітаў чорны ад загару лейтэнант. З парога ён упэўніўся, што гэта кватэра Астапчонкаў і папрасіў дазволу зайсці.

Прысеўшы на канапу, лейтэнант паглядзеў тужліва на абоіх Астапчонкаў, якія затаілі дых, што ён скажа.

— Я адтуль,— хвалюючыся, загаварыў вайсковец,— з Афгану. З роты вашага Валодзі. У той дзень, калі мы адбіваліся пад Кандагарам ад душманаў, уцалела толькі пяцёра. Астатнія...— лейтэнант змахнуў слёзы насоўкай.— Астатнія... загінулі. Сярод забітых яго не знайшлі, калі духі адступілі. Мабыць, ён у палоне ці згарэў у бэтээры. Вось яго рэчы.— Лейтэнант адчыніў дыпламат і паклаў ручку-самапіску, стосік канвертаў, насоўку, нажык, брытву.

Астапчонкі знямелі. Нарэшце лейтэнант падняўся, пацалаваў Ніну Пятроўну, Цярэнція, змахнуў слёзы і ціха пакінуў кватэру.

Астапчонкі заставаліся ў жалобным маўчанні доцямна, а затым абнялі адно аднаго і галасна загулі, заліваючыся слязьмі.

З таго дня мінуў шчэ год, за ім другі, а бацькі Валодзі заставаліся ў роспачы. Потым звыкліся са сваім горам і з вясны кожную нядзелю сталі выбірацца разам на сваю дачу і там моўчкі корпаліся дапазна хто на радах, хто ў дамку, які быў ужо збудаваны.

Вечарамі, калі добра сцямнее, Ніна Пятроўна садзілася на зэдлік на верандачцы і глядзела на ўквечанае зоркамі неба. Ні думак аніякіх, ні пачуццяў у яе ўжо не было. Выгарэла ў душы ўсё, толькі на твары, як праказа, жыла вечная туга. Цярэнцій у гэты момант клаўся на канапку і заміраў, потым правальваўся ў трывожны сон.

Неяк ціхім маёвым вечарам, ужо цвілі яблынькі, Ніна Пятроўна, як звычайна, заняла сваё месца на верандачцы і замерла. Паступова згасалі фарбы дня. Лес, што абступаў з двух бакоў дачу Астапчонкаў, змрачнеў, а затым да верху нацягнуў на сябе чорную коўдру. Ніна Пятроўна ўсяго гэтага не прыкмячала, глядзела толькі на далёкія халодныя зоркі. Гэткае яе сядзенне доўжылася аж недзе запоўнач, потым яна ішла спаць. У той вечар Ніна Пятроўна таксама даседзела да поўначы і ўсё глядзела на неба. Раптам ёй здалося, што адна зорка хутка-хутка панеслася ўздоўж гарызонту, затым стала спускацца і павялічвацца. Ніна Пятроўна на нейкі момант заплюшчыла вочы і калі іх адкрыла, то ўбачыла над самым лесам вялікі вогненны шар. Ён нёсся над вершалінамі дрэў. Зрабілася светла як днём. Ніна Пятроўна роспачна глядзела на яго, і па скуры ў яе поўз мароз. І ўсё ж яна заставалася на месцы. Шар наблізіўся да верандачкі і апусціўся на грады. Унутры яго рухаліся цені людзей. Здавалася, што там яны нешта перастаўляюць. Затым у шары адчыніліся круглыя дзверы і з іх выплыла жоўтае воблачка. Стала гойдацца зусім блізка ад Ніны Пятроўны. Яна спалохалася і спрабавала падхапіцца з зэдліка, каб схавацца ў дамку. Але рукі і ногі ў яе як знямелі — былі непадуладныя, у гэты момант ёй пачулася: «Мамачка, родная мамачка! Не лякайся мяне». Ніна Пятроўна памкнулася наперад: «Валодзечка! Сынку, дзе ты?»

— Я забіты, мамачка,— зноў пачула яна.— Цела маё ў глыбокай упадзіне пад Кандагарам. Наш бэтээр загарэўся ад выбуху снарада, і я ўпаў на вострыя камяні. Я нежывы, мамачка. З табою гаворыць мая душа, мае думкі. Я ніколі не вярнуся на зямлю, я ў небе.

— Валодзечка!— моцна заенчыла Ніна Пятроўна.

На яе енк з дамка выскачыў Цярэнцій. Святло асляпіла яго, і ён стаў мацаць рукамі падлогу верандачкі, каб знайсці жонку. І зноў загучаў Валодзеў голас: «Родныя мае! Жывіце за мяне, радуйцеся за мяне»...

— Сыночку,— расставіўшы рукі, памкнуўся на вуліцу Цярэнцій, але спатыкнуўся аб жонку. Яна ляжала на падлозе побач з перакуленым зэдлікам. У гэты момант шар калыхнуўся, і Цярэнцій убачыў яго. У круглыя дзверы, віруючы, упаўзала жоўтае воблачка. Затым шар узняўся і шалёна панёсся ўверх, змяншаўся на вачах.

Цярэнцій, апамятаўшыся, кінуўся да Ніны Пятроўны, падняў яе з падлогі, пасадзіў на зэдлік, і яна зноў закрычала галасна:

— Дзе ён, сыночак наш?

— Там,— паказаў на светлую, як поўня, пляму Цярэнцій.

— Цярэнцік! Крані мяне за плячо. Ці жывая я?— папрасіла Ніна Пятроўна.

— Жывая, жывая...— паляпаў па яе плячы рукою Астапчонак.

— Што гэта, Цярэнцік, было? Ты чуў яго голас таксама?— з хваляваннем вымавіла Ніна Пятроўна.

— Чуў, Ніначка. Гэта не сон, не прывід. Пайду гляну на граду, дзе стаяў шар.

Астапчонак падышоў да грады і запаліў запалкі. Цыбуля на ёй была як утаптаная наўмысна. Выразна вызначаліся дзве адтуліны ў зямлі, якія застаюцца, калі выцягнуць забіты кол.

— Што?— запытала Ніна Пятроўна, калі Цярэнцій вярнуўся на верандачку.

— Цыбуля ўтаптана, ёсць дзве адтуліны.

Раніцаю Астапчонкі расказалі пра ўсё гэта суседзям. Тыя згаджаліся, што ўсё было, як ім расказваюць, глядзелі на граду з цыбуляю, а адышоўшы, уздыхалі:

— Бедныя! З гора ў іх такое...

З таго дня Астапчонкі павесялелі, ахвотней загаворвалі са знаёмымі. А вечарамі, калі былі на дачы, абое садзіліся на верандачцы і чакалі, гледзячы на неба, у надзеі, мо шчэ раз завітае да іх Валодзькава душа.

На вясковую вуліцу, уздымаючы воблакі шэрага, як цэмент, пылу, ступіла вясёлае войска. У гміне і на пастарунку ўжо не было ні войта з солтысам, ні паліцыянтаў, дый амаль усе асаднікі, што жылі на Асадзе, уцяклі за Буг. Застаўся нібыта пан Жупрэўскі, але ён быў тутэйшы, з мясцовай шляхты.

У вёску ўвайшло доўгачаканае войска. Абапал Вялікай вуліцы, якая захавала сваю назву з часоў Княства Літоўскага і атрымала найменне Пушкіна ўжо пры другіх Саветах, стаяла грамада сялян. Дзеля радаснай падзеі яны адзеліся па-святочнаму. Мужчыны былі ў галіфэ, у бліскучых хромавых ботах, а некаторыя нават у капелюшах. Жанчыны таксама дасталі з куфраў сваю яшчэ шлюбную вопратку. На нагах у кожнай лакіроўкі, якія дужа спраўна шыў стары Янкель з Фурштата.

была ў руках у Антоля Сакуты, таксама вялікага аматара пагаманіць у карчме.

А войска весела спявала:

**И как один умрём**
**В борьбе за это...**

Перад Міколам Лязікам і Антолем Сакутам войска, як і чакалі, спынілася. Шчуплаваты камандзір у вылінялай фуражцы ўзяў хлеб-соль і закрычаў тонкім, але звонкім маладым голасам:

— Да здравствует товарищ Сталин! Ура!!!

— Ура!— грымнула войска.

— Ура!— падтрымалі і сяляне. Узбуджаныя нейкай незвычайнай радасцю, яны пачалі абдымацца з байцамі, чамусьці і плакаць.

І ўсё-такі настрой у многіх быў сапсаваны. Не было таго, што чакалі. Выглядала войска надта ўжо бедна.



Віктар СУПРУНЧУК

# «СМЕЛО МЫ В БОЙ ПОЙДЕМ...»

## АПАВЯДАННЕ

**Смело мы в бой пойдём**
**За власть Советов**
**И как один умрём**
**В борьбе за это...**

Дружна, з песняй крочыла войска, убачыўшы такую прыемную сустрэчу. Толькі пыл псаваў усім настрой. Успацелыя твары былі страшэнна брудныя. Але хто на гэта звяртаў увагу? Зрэшты, што гэта за байцы, якія, бы лялькі, дагледжаныя і адпрасаваныя? А тут войска загартаванае, непераможнае. Яно вaюе толькі на чужой тэрыторыі. Раз вёска ўжо не польская тэрыторыя, а савецкая, дык і вайны не будзе. Так цешылі сябе сяляне. Войска сустракалі хлебам і соллю. Хлеб на вышываным ручніку трымаў Мікола Лязік, вядомы ў вёсцы тым, што кожную вясну хадзіў па суседзях, просячы бульбы. У яго заўжды быў няўрод, бо любіў днямі сядзець у карчме і разважаць, як цудоўна жывецца па той бок мяжы — за Баранавічамі. А соль

Ну, рыхтык Мікола Лязік, які нават анучы да лапцей часам пазычаў у суседзяў. Ва ўсіх байцоў ногі абкручаны анучамі. Толькі камандзір у ботах, ды яшчэ нейкі, відаць, начальнік з зоркамі на рукавах гімнасцёркі. Уражанне было такое моцнае, што пасля шмат гадоў у вёсцы пераказвалі з пакалення ў пакаленне: першыя Саветы ў трыццаць дзевятым годзе прыйшлі ў лапцях. Нельга не сказаць, што і байцы, убачыўшы ўсіх сялян у хромавых ботах і ў лакіроўках, палічылі іх панамі.

Войска было ні многа ні мала, а цалюткі батальён. І да вечара расквартаравалі яго па хатах: дзе па два байцы, а дзе і па адным. У хату набожнага Петруся Катрыніча прыйшлі дваёх. Хоць добра змерклася, агню не запальвалі. Як пачалася вайна, газа знікла. І нават гарбаты Мойша з Алендраў, у краме ў якога можна было купіць амаль усё, што душа жадала, і той толькі разводзіў рукамі.

Палілася ў печы і было досыць відна ад зыркага полымя. Хата ў Петруся невялікая, беднаватая, але хлеба і бульбы ў ёй хапала ад ураджаю да ўраджаю. Нядужа пераядалі, але й галоднымі ніколі не былі.

Бульба кіпела ў чыгуне, пырскала і смачна пахла. Яшчэ колькі хвілін — і можна зліваць ваду, есці. Гандзя Катрынічыха паставіла на стол у глінянай місцы тоўчанае льняное семя. Дзеці толькі і чакаюць, каб сесці на ўслон і ўхапіць гарачую, смачнейшую, мусіць, за марцыпаны бульбіну. Толькі бацька спярша прачытае пацеры. Ён моліцца і просіць, каб трохі даўжэй не ішоў дождж, каб урадзіла жыта ў наступным годзе і каб усе ў сям'і былі здаровыя. Каб найхутчэй скончылася вайна і каб не ўзялі яго ад дзяцей і жонкі на фронт. Бацька просіць бога нягучна, але ўсе ў хаце чуюць гэта.

Ён моліцца, стоячы спінаю да ўваходу, і не заўважае, як адчыняюцца змазаныя гусіным салам дзверы. Не ведае, што пачулі пацеры і чужыя вушы.

— О каком боге ты там далдонишь?!— гукае ад парога той камандзір, што ішоў наперадзе войска. Разам з ім і другі — з чырвонымі зоркамі на рукавах гімнасцёркі.

Малітва спыняецца, і ў хаце адразу напятасць і страх. Дзеці прыгарнуліся да маці, якая з вілкамі ля печы нібы скамянела. У бацькі чамусь напалоханы твар. Вось-вось, здаецца, схіліць голаў, не раўнуючы як пры паншчыне.

— Ды што тут, паночку,— кажа ён,— мы людзі цёмныя, не ведаем...

— Какой я тебе пан,— ляпае яго па плячы камандзір.— Панов мы прогнали, теперь все товарищи. А бога нет и никогда не будет. Понял, темная твоя душа?

— Не ведаем, не ведаем, таварыш паночку,— паціскае плячыма Пятрусь.

— Так ведай,— у камандзіра позірк строгі.— И кончай со своим богом побыстрей. Лучше будет,— ён сядае за стол на тое месца, дзе звычайна сядзіць гаспадар, стукае далонню па ўслоне.— Садись! У нас в России уже давно все церкви к... матери,— і дадае такія мацюкі, якія ніхто ў гэтай хаце яшчэ не чуў. Дый ніхто ў вёсцы так не мацюкаўся. Хоць і шмат людзей пабыло ў германскую вайну ў бежанстве ў Расіі. Пятрусь і сам тры гады адбыў ажно за Самарай, пажыў, як казалі бацькі, сярод кацап'я.

— Давай, хозяйка, кушать,— загаварыў камандзір.

Маці таропка злівае ваду з чыгуна і ў вялізную міску высыпае пахуткую бульбу. Першым пачынае есці камандзір, а пасля запрашае ўсіх астатніх. З біклагі ён налівае сабе гарэлкі, прапануе і Петрусю, але той адмаўляецца. Другі камандзір есць моўчкі, твар у яго спакойны, лагодны. Часам ён усміхаецца нібыта сам сабе, ласкава паглядвае на Петруся.

Дзеці ядуць таропка, амаль не жуючы гарачую бульбу. Іх турбуе, што дзядзькі ўсё паядуць, а ім нічога не застанецца. Толькі маці ўзяла ў руку адну бульбіну і ніяк яе не ўкусіць. Нават за стол не села, стаіць з вілкамі ля печы, палахліва пазіраючы на нязваных гасцей.

Нарэшце першы камандзір дапівае апошнія кроплі гарэлкі, перад гэтым доўга трасучы над кубкам біклагаю. Ад асалоды заплюшчвае вочы і крэкча. Потым плячом штурхае суседа:

— Вкусно! Дурак, что не пьёшь?— І дадае ўжо Петрусю:— В России не пьют только дураки или враги, которые угощают и выуживают у выпившего военную или государственную тайну. А вы, здесь, все враги... Хотя и друзья. И мы вас освободили... Понял, хозяин?!— пагрозліва махае пальцам.

— Ну як жа ж, як жа ж, паночку...— асякаецца Пятрусь.— Як жа ж, даражэнькі таварышок. Як не паняць. Дзякуй богу, пры цары тры класы скончыў.

— Значит, грамотей! Мать... Почему снова бога вспомнил? Я же тебе ясно, дураку, сказал: бога нет и не будет. Мы их всех под корень... Мать...

— Лексей, успокойся, дети-то ведь в доме,— спрабуе суцішыць свайго таварыша камандзір з чырвонымі зоркамі на рукавах.

— Пусть знают, что такое Советская власть! Хватит, пожили, мать... Ишь ты, в шляпах, в хромовых сапогах! Все здесь кулачье, всех их под корень. Не нравится им Советская власть. Мы им мигом покажем кузькину мать! Понял, политрук?! Понял, мать...

— Лексей, надо бы посты проверить,— спыняе тыраду палітрук з чырвонымі зоркамі, і гэта раптам дзейнічае на камандзіра. Ён устае з-за стала, папраўляе рамяні, якіх на ім што збруі на кані, і, трохі хістаючыся, выходзіць з хаты.

Пярэпалах у вачах гаспадароў, дзеці, як мышы, пахаваліся на печы. Стаіліся, насцярожана слухаюць тых, каго ўдзень спаткалі хлебам і соллю. Толькі насы тырчаць з-пад радзюжак, якімі дзеці накрываюцца нанач. На шчасце, выйшаў з хаты крыкся камандзір. Застаўся чырваназоры. Палітрук? Што ён цяпер скажа, што запатрабуе? Думаюць пра гэта бацькі, думаюць і дзеці.



Але палітрук маўчыць, азіраецца па баках, нібы збіраецца тут жыць. «Барані божа!» — шэпча маці, маркотна схіліўшыся над вілкамі.

— Бойцы уже разместились,— кажа палітрук.— Мы с командиром хотели б остановиться у вас. Как, не против?— пытаецца ён, звяртаючыся да гаспадара.

— Ну што вы, што вы,— Пятрусь хітае галавой, не ведаючы, што й казаць.— Мы людзі бедныя, дзяцей поўная хата. Вам лепш было б у каго багацейшага...

— Вы не беспокойтесь,— супакойвае яго палітрук,— У нас есть своя кухня, и кушать будем на ней. Ну, если картошки и попросим у вас... Очень вкусная у вас картошечка.

— Ну чаму ж не,— адразу згаджаецца Пятрусь і весялее,— бульбы можна. Пакуль ёсцека, слава богу.

— Слава богу!— нечакана падтрымлівае яго палітрук, глядзіць у вочы і як чакае нечага. Маўчыць, пасля вымаўляе, але ціха, каб чуў толькі Пятрусь:— Вижу, в бога веруете?..

— Веру, бо толькі бог нам дае радасць і дапамагае ў гэтым жыцці,— смялее гаспадар.— Дазвольце я аддзякую яму за гэтую сціплую вячэру і за яшчэ адзін дзень, які падараваў гасподзь.

Пятрусь ужо ўкленчвае ля ўслона і даволі голасна моліцца. Разам з ім шэпча пацеры і жонка.

Трохі ўзняўшы вочы ад падлогі, каб зірнуць на госця, Пятрусь нечакана заўважае, што і той нешта ціха шэпча, трымаючы рукі на жываце. Ад здзіўлення ён

забывае пра свае словы богу, а спрабуе пачуць палітрука. Азіраецца на дзяцей: ці хоць яны нічога не прыкмецілі. Бо разнясуць па вёсцы. Быццам не, не пачулі. «Слава богу!» — уздыхнуў Пятрусь.

...Як і казаў камандзір, батальён спыніўся ў вёсцы. Штораніцы ён збіраўся перад царквою на пляцы, які тутэйшыя называлі Места. Камандзір звычайна спярша доўга крычаў, лаяўся, а потым толькі і чулася: аць-два, аць-два. Байцы, ляпаючы нягеглым абуткам, маршыравалі пад дробны пошчак барабана.

Дажджоў не было, стаяла бабіна лета. Сяляне спяшаліся ўправіцца з бульбаю, ільном. Некаторым дапамагалі і пастаяльцы. Разы два пад'язджаў да Петруся і палітрук. Цягаў мяхі з бульбаю на калёсы і маўчаў, маўчаў. Нагрузілі, ледзь конь асіліў дапяць з поля да дарогі. Міма ехалі на вазку пана Жупрэўскага Мікола Лязік і Антоль Сакута, вясёлыя, відаць, напапітку. Мікола быў цяпер старшынёю сельсавета, а Антоль — сакратаром. Абодва хадзілі з пістолямі ў кабурах. Улада, як кажуць, без дулі ў кішэні і не падыдзеш. Спыніліся ля Петруся.

— Эге, добрая ў цябе бульба, Катрыніч, урадзіла.

— Слава богу,— зняў перад новым начальствам шапку Пятрусь. З малых гадоў запомніў: не давядзі бог мужыку стаць панам...

— Не слава богу, а слава Савецкай уладзе. Зразумеў, цёмная душа? Савецкай уладзе, а тваіго бога мы хутка сцягнем з неба! — закрычаў Лязік.— Так, таварыш палітрук?

Але палітрук змоўчаў, нібы не чуў. Ускочыў на свайго каня і — рыссю ў бок Сімонікавага лесу. Там у батальёна было стрэльбішча. Праз дзень бах-ба-бах, бах-ба-бах. А пад вечар па гасцінцы — назад у вёску, і з песняй:

> Смело мы в бой пойдём
> За власть Советов
> И как один умрём
> В борьбе за это...

— Глядзі са сваім богам, Катрыніч, яці тваю!..— і Лязік бізуном па жарэбчыку пана Жупрэўскага, па жарэбчыку. Паехалі, а Сакута на гармоніку грае і паскудныя прыпеўкі пяе. «Бульба ў полі стаіць, а яны песні пяюць. Цьфу!» — плюнуў Пятрусь. Пабачым, ці не прыбяжыць на Каляды бульбу прасіць? Няйнакш прыбяжыць... Хіба што ў Скробатаў набярэ на дармшчыну.

Скробаты жылі на хутары ля Сапяжынскага лесу, мелі там пару валокаў зямлі. Тыдзень як іхнюю ўсю вялізную сям'ю пасадзілі на калёсы і павезлі да белых мядзведзяў. А спіс, каго везці да гэтых белых мядзведзяў, як казалі ў вёсцы, склалі Лязік з Сакутам. Каму ж яшчэ складаць, як не ўладзе. А яны якраз і ёсць улада, пры рэвальверах. «Ах, басота, басота...» — думаў Пятрусь, але маўчаў і нікому ні слова аб тым, што думаў. Ужо дайшла да вёскі чутка, што ўсе капэзэбоўцы, якія ўцяклі цераз граніцу да бальшавікоў, таксама сядзяць як польскія шпіёны побач з белымі мядзведзямі. Сядзяць, а мо і няма іх ужо даўно... Але каму скажаш пра гэта, лепей маўчы, вусны сцісні мацней і голаў нахілі да зямлі, каб ніхто не мог зазірнуць у тваё вочы.

Вызваліцелі, божа ты мой родны! Не паспелі прыйсці, а ўжо абклалі такім падаткам, што і дыхнуць цяжка. А ўсё: аць-два, аць-два...

> Смело мы в бой пойдём
> За власть Советов
> И как один умрём
> В борьбе за это...

Штодзень пяюць байцы гэтую песню, і яна, здаецца, ужо звініць у вушах. Сам хутка зацягнеш яе, бы прыдурак. Добра хоць, што камандзір не чапляецца са сваёй агітацыяй і не п'е ўжо ў хаце. Позна вяртаецца і рана ідзе. Дый палітрук толькі начуе, часам неяк ласкава пасміхнецца, руку пацісне, а ўваччу смутак, журба.

Неяк пад канец тыдня ад'ехаў камандзір ажно ў Брэст. Спытаў у Петруся, ці не патрэбна яму каса. Чаму каса? Ёсць у яго каса, і не адна. Але калі такая ласка, няхай будзе каса. А палітрук са стрэльбішча вярнуўся позна, дзеці і жонка ўжо спалі на печы. Пятрусь пры свечцы чытаў Біблію. Ціха ў хаце, няма чужых. Ніхто не перашкаджае зразумець слова боскае. І тут якраз стукнуў у дзверы палітрук. Адразу заўважыў на стале Біблію. Скінуў з плеч шыняля, падсеў да стала.

— Можно?

— Глядзіце...

Ён гартаў кніжку, гартаў. Потым, уздыхнуўшы, адклаў яе ў бок.




— Всё, хозяин, больше не будем тебя беспокоить. Через день уезжаем из деревни.

— Дый і не турбуеце вы нас,— сказаў Пятрусь.— Якія ўжо тут турботы. Можа, павячэраеце?

— Нет, ужинал с бойцами. Знаете... Всё не было времени поговорить. Вряд ли больше когда увидимся. Только попрошу: помолитесь за меня, помолитесь. Кто знает, вернёмся ли... Дверь закрыта? — неспадзеўкі ўстрывожана спытаўся ён.

— Але ж, але ж...— пацвердзіў Пятрусь.

— Посмотрите...

Пятрусь здзіўлена паглядзеў на палітрука, але праверыў, ці зачынены дзверы. І толькі тады палітрук пачаў гаварыць. Што паслязаўтра іх у вёсцы ўжо не будзе. І каб памаліўся Пятрусь за яго, былога настаўніка, які вучыў дзяцей і верыў у бога.

— Семь месяцев как меня мобилизовали, чтобы идти сюда. Теперь, насколько я знаю, мы поедем на смерть. Мне не себя жалко, мне бойцов жалко. Дали им вчера новые ботинки, но одеты они не по-зимнему... Что нас ждёт впереди? Один бог знает...

Праз дзень адыходзіў з вёскі батальён. Ён стаяў калонаю на Месцы ў шынялях, у чаравіках з абмоткамі, як шэра-зялёная сцяна. Мікола Лязік з Антолем Сакутам крычалі з трыбуны, якую ўладкавалі насупраць царквы, што дзякуючы байцам непераможнай Чырвонай Арміі яны набылі волю і незалежнасць ад усіх імперыялістаў-капіталістаў. Нешта ў адказ таксама пракрычаў камандзір: з-за моцнага сівернага ветру кепска было чуваць.

Нарэшце ўдарыў барабан і спярша нястройна, ціхутка, а пасля ўсё гучней байцы заспявалі песню, да якой вяскоўцы прывыклі ўжо.

> Смело мы в бой пойдём
> За власть Советов
> И как один умрём
> В борьбе за это...

Песня гучала над вёскаю, ажно пакуль хвост калоны не схаваўся за апошнімі хатамі Асады, ад якое наўпрост да чыгуначнай станцыі пяць кіламетраў.

Увечары прыбегла да Петруся прасіць ячных круп жонка Міколы Лязіка і прынесла вестку: маўляў,




нездарма пайшоў батальён з вёскі. Недзе далёка, быццам пад Ленінградам, пачалася вайна. Па сакрэту Міколу сказаў пра гэта камандзір, калі яны выпівалі ў сельсавеце. «Вось што не даказаў палітрук, вось чаго баяўся...» — падумаў Пятрусь. І яму стала вельмі шкада гэтага чалавека, сумна і трывожна. Павячэраўшы і паклаўшы дзяцей спаць, ён маліўся доўга і старанна. Прасіў у бога і прасіў падтрымкі для сваёй сям'і. Не забыў палітрука з яго байцамі. І цяпер штодня, укленчваючы, каб выказаць пацеры, успамінаў гэтых чужых людзей, жадаючы ім дабра і збавення ад смерці і гора. А перад Калядамі паштарка нечакана прынесла ў хату салдацкі трохкутнік. Гэта быў ліст ад палітрука, са шпіталя. Ён пісаў, што паранены нямоцна. Застаўся без левай рукі. Шкада толькі байцоў і камандзіра, якія ў снезе... Далей словы былі запэцканы зялёным чарнілам. Між пэцканнем радкі: дзякуючы Вашай дапамозе я жывы... Адзін... І ўрэшце: буду і за Вас прасіць.

Пятрусь чытаў пісьмо ўголас, і яго слухала жонка. Яна плакала, хітаючы галавою і прыгаворваючы: «Бедныя людцы, бедныя людцы...» Здалося Петрусю, што бачыць, як крочыць па пляцы шэра-зялёная калона і пяе, паступова знікаючы ў замеці:

> Смело мы в бой пойдём
> За власть Советов
> И как один умрём
> В борьбе за это...



# УРОК ЧАРЦЕННЯ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 35.*

— Я іх у школе маляваць пачала. Проста правядзеш, бывала, рыску, дамалюеш вочы, нос прыладзіш, вушы прычэпіш, глянеш: чорт — чортам, а на выкладчыка майго падобны. Аж смешна!

Я іх спачатку страшных малявала, як у пачварным кіно, а пасля мой настаўнік іх пабачыў і параіў, каб я за весялейшых бралася. Ну і пачала тады ім вочы круглейшыя рабіць, усмешкі шчырэйшыя, і неяк самой прыемна стала, што яны ў мяне падабрэлі. Толькі вочы ў іх, заўваж, ва ўсіх усярэдзіну ўцягваюцца, нібы ў гняздо, бо яны ж лазяць усюды — паміж галля, сучча, пад карэннямі рознымі. Тут вейкі не ўратуюць — шчыльнейшая ахова патрэбная.

— Вочы вачыма, але ж наогул яны ў цябе ўсе рознай канструкцыі!

— Тут што я магу парадзіць? Кожны сам да жыцця прыстасоўваецца. Адзін адзервянее, другі, як смоўж, расплывецца: кожны свайго патрабуе. Яны часам і на кпіны дзеля гэтага пускаюцца. Вунь, той хітрун даўганосы, што на верхнім суку сядзіць,— яму абы дзе пад'есці, пузяку сваю падтрымаць. А другі, сухі, як хрушч, ды тонкі, як бізун, рагоча; гледзячы на такую «талію».

— Але я бачу, што не ўсюды кпяць. На другім дрэве — завязка рамана.

— Ну, гэтая прыгажуня любіць адно сябе! Недзе запарвала люстэрка і — гутта-та, гулля-ля! — больш нікога і нічога не трэба. А ты думаеш, другі лесавік, што водарасці жуе, тут пра каханне марыць?

— А хіба не?

— Ды ён калі і марыў, дык надзею страціў. А ты паглядзі, над імі маленькі вадзянік прысеў. Вушы ў яго і нос — усё ўсярэдзіну таксама ўцягваецца, каб герметычнасць была, а праз ногі ён ваду прапускае, фільтруе — гэтак харчуецца. Дык гэты самы вадзянік да іх у госці прыйшоў — хоча паглядзець, як гэта свет выглядае, калі на дрэва ўзлезці. І ўзлез! Тут яго і праняло, тут і захапіла! І сябра ягоны, дуплянік, што ўсё жыццё па дрэвах лазіў, і той нібы ўпершыню прачнуўся: «А я, дурань, і заўважаць тое даўно перастаў...»

— Слухай, а яны ў цябе, часам, вершы не пішуць?

— Я не ведаю... У іх свой свет, а вершы — такая рэч, не кожнаму так адразу прачытаеш. Хаця, я кажу: «Свой свет, свой свет!» Дабіраюцца яны часам і да нашага свету. Гэтыя, вунь, бачыш, нейкі наш сметнік знайшлі, дык панабралі... Абы чаго! Ты думаеш, яму гэтыя драныя боты трэба? Ці ёй — чаравікі на пяцьдзесят восьмы памер нагі? Ды глупства. Але ж — паначаплялі. І смех і гора... А так яны ўвогуле любяць пасядзець, паглядзець, як сонца ўстае і заходзіць. Тут кожны паасобку, сам сабе...

— Ты з імі так зжылася... Яны ў цябе часта з'яўляюцца?

— Ды бясконца. Толькі я ад іх часам стамляюся. Вучылася — малявала, а як пайшла ў школу працаваць, дык закінула. А потым — захварэла, тэмпература пад 40°, і тут гэтыя малюнкі знайшла — мяне зноў пацягнула. Я з нараджэння — ляўша; думаю, што мая манька зараз вычварыць: правяла рысу, другую — і пайшло, і пайшло... Тут яно нават па малюнку відаць, што рука трохі дрыжэла... Толькі не падумайце, што я ад тэмпературы, ці ад чаго яшчэ з глузду з'ехала...

А ўвогуле — дзякуй за гарбату і за булачкі з карыцай!

*Частавала булачкамі і паіла гарбатай Галю ГАНЧАРОВУ Лера ЖДАНОВІЧ, старшы навуковы супрацоўнік музея гісторыі беларускай літаратуры — ёсць такі ў Мінску.*


ЧАРТАЎШЧЫНА



# ФРАНЦУЗКІ ГУМАР

На ўзбярэжнай Сены сядзіць жабрак і гучна крычыць:

— Падайце, калі ласка, на шкляначку шампанскага!
Побач з ім спыняецца пажылая пані і абурана кажа:
— Ну і нахаба ж вы, галубок. Маглі б прасіць на хлеб, як вашы калегі.
— Пані, звычайна я так і раблю, але сёння ў мяне дзень нараджэння.

Дачнік кажа свайму суседу:
— Ты ведаеш, я вырашыў разводзіць трусоў. Яны фантастычна хутка плодзяцца. Можна няблага зарабіць.
— А ты ведаеш, як дабіцца гэтай фантастычнай пладавітасці?
— Думаю, што яны ў гэтым пытанні дадуць фору нам абодвум.

Журналіст пытаецца ў вядомай кіназоркі:
— Чаму вы кахаеце толькі багатых мужчын?
— О, вы памыляецеся! Я кахаю вясёлых мужчын. І не мая віна, што такіх няма сярод бедных.

Адзін паляўнічы пытаецца ў другога:
— Ці паляваў ты калі-небудзь на аленя?
— Ну вядома. І досыць часта, але дагэтуль яшчэ ніводнага не бачыў.

Гараджанін, які адпачывае ў вёсцы, прыйшоў паскардзіцца да фермера:
— Ваш сын сапраўдны хуліган!
— Што ён натварыў?— спытаўся фермер.
— Калі я праходзіў міма вашага дома, ён кінуў у мяне каштанам, цэлячыся ў галаву.
— І... ён у вас трапіў?
— Не, на шчасце.
— Так,— сказаў фермер,— тады гэта быў не мой сын.

Узяўшы інтэрв'ю ў аднаго палітычнага дзеяча, журналіст вярнуўся ў рэдакцыю.
— Ну,— спытаўся рэдактар,— што сказаў вам міністр аб наступных эканамічных пераўтварэннях?
— Ён адказаў, што не жадае выказвацца па гэтым пытанні.
— Цудоўна! Зрабіце з яго адказу дзвесце радкоў на першую паласу.

— Чаму ты ўвесь час хаваеш парасон за спіну? Баішся, што яго ўкрадуць?
— Баюся, што яго апазнаюць.

Пракурор пытаецца ў абвінавачанага:
— Ці не маглі б вы сказаць панам прысяжным, ад чаго памерла ваша першая жонка?
— Яна атруцілася грыбамі.
— А другая?
— Нябога! Яна таксама атруцілася грыбамі.
— Я мяркую, што вашай трэцяй жонцы таксама не пашанцавала з грыбамі.
— Не,— адказаў абвінавачаны,— апошняя памерла ад пераломy чэрапа. Яна не захацела есці грыбы.

Дзве жанчыны з арміі ўратавання пастукаліся ў дзверы да старога халасцяка.
— Будзьце ласкавы, ахвяруйце нікчэмную суму на карысць маладых дзяўчат, якія прападаюць у распусце.
— Спачуваю вам, але двойчы на тыдзень я перадаю ім значныя сумы з рук у рукі.

— Сынок, табе ўжо споўнілася дзесяць гадоў, і мы з мамаю вырашылі пагаварыць з табою пра некаторыя рэчы... Гм... Бачыш, мужчыны і жанчыны... Гм...
— Ды не саромся, тата. Можа, вы хочаце пагаварыць пра секс?
— Ну, нейкім чынам, так...
— Добра, пытайцеся, што вас цікавіць. Пастараюся вам дапамагчы.

У мясной лаўцы.
— Добры дзень, пані. Рады вас бачыць, але вымушаны сказаць, што ваш сабака сцягнуў у мяне з паліцы лепшы кавалак выразкі.
— Добра, што вы мяне папярэдзілі. У абед я пакармлю яго адным малаком.

Маладая спявачка пытаецца ў дырэктара тэатра:
— Пан дырэктар, як вам маё ўчарашняе выступленне? Ці не праўда, мой голас запаўняў усю залу?
— О, так! Я нават заўважыў, як некаторыя гледачы ўставалі і выходзілі з залы, каб саступіць яму месца.

На ўзбярэжнай Сены каля маладога мастака спыніўся мужчына, залюбаваўшыся яго карцінаю.
— Неверагодна! Гэта так нагадвае Пікасо!
— Нічога дзіўнага,— адказаў мастак,— цяпер многія капіруюць мой стыль. Відаць, Пікасо — адзін з іх.

Сустрэліся два сябры.
— Як жыццё, Жан?
— Усё выдатна. Сплю, як дзіця.
— Не можа быць! Ад цябе ж нядаўна пайшла жонка, у кішэні ў цябе пуста, ды яшчэ з кватэры зараз высяляць.
— І ўсё роўна я сплю, як дзіця.
— Як гэта?
— Я сплю гадзіну, пасля прачынаюся і плачу, пасля сплю яшчэ гадзіну, прачынаюся і зноў плачу...

— У камеру да асуджанага на смерць прыходзіць святар.
— Памаліцеся, сын мой, дзеля Хрыста.
— О, я зрабіў бы гэта з вялікім задавальненнем, ойча, калі б быў упэўнены, што гэта яму дапаможа.

Муж вярнуўся дамоў не ў гуморы.
— Я ўсё ведаю,— сказаў ён жонцы.
— Што, мілы?
— Ты здраджваеш мне з чэмпіёнам па лёгкай атлетыцы.
— Ну які ж ён чэмпіён! Ягоны лепшы вынік на стометроўцы ўсяго толькі адзінаццаць секунд. Цябе нехта нахабна падмануў.

Гаспадыня строгім голасам выгаворвала сваю прыслугу:
— Майце на ўвазе, Жаклін, што з сённяшняга дня я забараняю вам займацца каханнем па начах на кухні.
— О, пані, вы такія добрыя, вядома, у гасцёўні зручней, і замінаць вам буду меней.

Каля ўваходу ў царкву сядзіць жабрак. Жанчына, якая праходзіць міма, пытаецца:
— Чаму каля вас ляжаць два капелюшы?
— Адзін капялюш майго сябра, а ён цяпер у адпачынку. Прыходзіцца працаваць за дваіх.

**Пераклад с французскай**
**Валерыя ШУВАНАВА**

# МАНАЛОГ АХВЯРЫ ЗАСТОЙНАГА ПЕРЫЯДУ

ГУМАРЭСКА



Вы не глядзіце, што ў мяне гэткае мурло — цагліны просіць. Можа, у мяне анатомія такая. Да паўнаты схільная. А я, калі шчыра сказаць, дык, можа, самая што ні на ёсць ахвяра застойнага перыяду. Можа, я, каб вы ведалі, нават сядзеў... За ідэялогію. Двойчы прытым.

А было гэта на пачатку маёй працоўнай дзейнасці. Абставіны былі такія, што, здавалася, нішто не магло змяніць мае ясныя далягляды. Паспяхова закончыў універсітэт, атрымаў накіраванне на працу не абы-куды, а ў абласны цэнтр. Заручыўся з каханай дзяўчынаю. І тут — як гром з яснага неба — позва з ваенкамата. Прызываюць, так сказаць, у рады Савецкай Арміі. Цю, бацюхны мае! На нашым курсе не было вайсковай кафедры. І мне, як чалавеку з вышэйшай адукацыяй, трэба па новаму закону год адслужыць радавым.

Ну, цешча ў роспач, жонка ў плач, а я — у салдаты. І загналі мяне аж у Сярэднюю Азію. У самую што ні на ёсць пясчаную пустыню.

Служу. Месяц служу, два служу, паўгода — і бачу, што выбрацца на пабыўку дадому мне ніяк не свеціць. А жонка ў мяне маладая. Прыгожая. У дзяўкох ад хлопцаў адбою не было. Я і цяпер з ёю вялікі клопат маю. А тады... Бывала, як надумаюся розных лухты, дык аж сэрца крывёю абліваецца. І захацелася мне неспадзявана заглянуць да свае жоначкі. Паглядзець, як яна чакае свайго мужа, вернасць яму беражэ. Але ж, як кажуць, хацець нікому не забаронена. Вось зрабіць так, каб мара стала быллю,— гэта праблема. Але я такі: калі што надумаю, дык хоць трэсні, а свайго даб'юся.

Думаю. Дзень думаю, два думаю. На трэці дзень іду ў палітаддзел нашае дывізіі да палкоўніка Балаболкіна.

— Так і так,— кажу,— таварыш палкоўнік, у мяне ёсць маленькая ідэя.

— Ну, што ж,— адказвае палкоўнік Балаболкін,— мы ў людзях з ідэямі вялікую патрэбу маем. Дакладвайце, салдат, сваю ідэю.

А я яму гэтак спакваля:

— Ну, не тое, каб ідэя, можа, толькі маленькая ідэйка. Ведаеце, добры гарадок у нас. Акуратненькі... Але, на маю думку, не хапае адной вельмі важнай дэталькі.

Кажу гэтак, а сам яму ў вочы гляджу, сачу, як ён рэагаваць будзе. Бачу, палкоўнік зацікавіўся, нават з крэсла прыўзняўся.

— Дык вось,— кажу,— на цэнтральным пляцу, насупраць штаба дывізіі няма помніка правадыру сусветнага пралетарыяту таварышу Уладзіміру Ільічу Леніну.

Тут палкоўнік Балаболкін з-за стала выскачыў, да мяне падбег, рукі на плечы мне паклаў:

— Вы што, таварыш салдат, можаце зляпіць помнік Леніну?!

— Што вы! Што вы!— кажу.— Я не скульптар. А вось у нас, на Беларусі, у Мінску, жыве такі скульптар. Ён усё жыццё Леніна лепіць. Яму за гэта нават званне прысвоілі — Народны мастак СССР.

Палкоўнік Балаболкін памкнуўя штосьці сказаць, нават рот разявіў, але я перабіў яго. Маўляў, даруйце, калі ласка, пераходжу да самой ідэі. Давайце, кажу, напішам гэтаму скульптару ліст з просьбай, каб ён на шэфскіх пачатках падараваў нашай вайсковай часці манумент Леніну. Бясплатна, значыць.

Ідэя спадабалася. У хуткім часе я гуляў па Мінску.

Мне на ленінскую аперацыю ажно месяц адвалілі. Так што часу хапіла.

Нарэшце заглянуў у майстэрню славутага скульптара, уручыў яму ліст палітаддзела нашае дывізіі.

Скульптар прачытаў ліст, кінуў яго на стол і кажа:

— Я хоць і Народны мастак СССР, але і мне грошы не шкодзяць. Мне таксама на нешта жыць трэба.

— Ды вы разумееце, што гаворыце?!— кажу скульптару.— Гэта ж наша родненькая армія. Кроў і плоць ваша!

І тут я прачытаў яму такую лекцыю пра нашу рабоча-сялянскую армію, як яна і ўдзень, і ўначы, у спякоту і сцюжу, у балотах і пясках пустыні абярагае мірную працу савецкага народа, каб ён, скульптар, спакойна і з натхненнем ляпіў любімага Леніна, што той нават праслязіўся.

— Ёсцека ў мяне некалькі гіпсавых мадэляў,— выціраючы вочы мезінцам, прамовіў ён.— Выбірайце любую.

— Нічога,— кажу,— нічога. Для нас і гіпсавая пойдзе. Пафарбуем, як бронзавая стаяць будзе.

І выбраў я пяцімятровы манумент. Не помнік — адно заглядзенне. Думаць трэба — вялікі майстра рабіў.

Пагрузіў у пульманскі вагон і чыгункай у Сярэднюю Азію патарабаніў. Прывёз. А на станцыі вайскоўцы мяне з грузавіком і аўтакранам чакаюць. Дзень выдаўся сонечны, спякотны. Вецер не дыхне. Пачалі манумент выгружаць з пульмана, на грузавік ставіць. Пагрузілі ногі, тулава. Усё як мае быць, без усялякіх, так сказаць, ускладненняў. І толькі зачапілі галаву, узнялі, пачалі да грузавіка падводзіць — буран наляцеў. Ведама — Азія. Там на адной хвіліне сем разоў надвор'е мяняецца. Раскачаў стралу, бабахнуў галаву аб борт пульмана, яна на дробненькія частачкі рассыпалася.

Цю, бацюхны мае! Прывез помнік Леніну без галавы. А які гэта правадыр сусветнага пралетарыяту, калі ён галавы не мае? Само сабой разумеецца, пасадзілі мяне... На гаўптвахту. На дзесяць сутак строгага рэжыму.

Сяджу. Дзень сяджу, два сяджу. Думаю. На трэці дзень грукаю ў дзверы, клічу начальніка каравула.

Звяжыце, кажу, мяне з начальнікам палітаддзела палкоўнікам Балаболкіным. У мяне, кажу, ідэя ёсць.

Звязалі з палкоўнікам Балаболкіным. Я і кажу яму, а што калі зноў да скульптара з'ездзіць, папрасіць, каб ён новую галаву зляпіў.

Ідэя была ўхвалена, і я паехаў. На гэты раз падрыхтаваўся належным чынам. Змерыў ленінскую шыю і так і гэтак. Каб галаву адпаведную прывезці, каб яна добра з тулавам злілася.

Прыехаў да скульптара, расказаў яму пра сваю бяду, а ён кажа:

— Ды ў мяне гэтых галоў — хоць гарод гарадзі. Вунь цэлы пакой завалены. Выбірай любую.

І спадабалася мне адна дужа вясёлая галава. У шапцы. Прымерыў — ну цюцелька ў цюцельку па шыі манумента. Прывёз. Яна, гэтая галава, і палкоўніку Балаболкіну спадабалася. Ведаеце, вочкі гэтак хітравата прымружаныя і ўсмешка з'едлівая. Ну, як жывы Ленін.

Я стаў вялікім чалавекам у часці. Са мной камандзір дывізіі за руку пачаў здароўкацца.

Адкрыццё помніка Леніну прызначылі на кастрычніцкія святы. На ўрачыстасць сагналі ўвесь гарнізон. Мяне, як героя дня, палкоўнік Балаболкін побач з сабой на трыбуну паставіў.

Заіграў аркестр гімн, і з манумента Леніну пачало павольна сплываць покрыва. І вось адкрыўся Ленін ва ўсей сваёй велічы. Раптам, чамусьці, натоўп загуў, захваляваўся. Я зноў кінуў погляд на велічны манумент Леніну і аслупянеў. У Леніна было дзве шапкі. Адна на галаве, а другую рукой загроб. Ленін, здавалася, разгубіўся, сарамліва ўсміхаўся і не ведаў, куды другую шапку дзець.

Мяне тут жа, на трыбуне, арыштавалі.

На гэты раз я адседзеў ад званка да званка. Усе дваццаць сутак. А за што? За ідэялогію.

Вось цяпер і падумайце, ахвяра я ці не ахвяра застойнага перыяду.

**Іван ШАЛЬМАНАЎ**